## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ НАВЕДАЎ ГАЛОЎНУЮ ВАЕННА-МАРСКУЮ БАЗУ РАСІІ НА ПАЎНОЧНЫМ ФЛОЦЕ

А. Лукашэнка паведаміў, што «падумае аб шэфстве Беларусі над адным пакуль караблём і падводнай лодкай».

Беларускі лідэр сцвярджае, што «у аднабаковым парадку Расія ўжо дэ-факта ўвяла мытны кантроль на беларуска-расійскай граніцы». Мы пакуль не прынялі адэкватных мераў, пакуль угаворваем спыніць гэта», — адзначыў прэзідэнт. Ён лічыць аднабаковыя дзеянні Расіі ў гэтым пытанні нелагічнымі. «Узвесці мытныя бар'еры лёгка, а ліквідаваць — цяжка», — падкрэсліў А. Лукашэнка.

Адказваючы на пытанне маракоў, А. Лукашэнка назваў «вельмі небяспечнай тэндэнцыяй у СНД» блакіраванне на выканаўчым узроўні ўсіх пагадненняў, прымаемых на вышэйшым узроўні, а таксама на ўзроўні кіраўнікоў урадаў. Паводле сцвярджэння А. Лукашэнкі, гэтыя рашэнні блакіруюцца альбо на ўзроўні ўрада, у тым ліку і Расіі, альбо асобных міністэрстваў. «Няма абавязковасці ў выкананні рашэнняў», адзначыў А. Лукашэнка, падкрэсліўшы, што гэта датычыць у тым ліку і рашэнняў, прымаемых у рамках Саюза Беларусі і Расіі. Менавіта таму, адзначыў прэзідэнт, сёння Мінск робіць стаўку на развіццё адносінаў Беларусі з расійскімі рэгіёнамі. Беларусь перайшла да наступнай тактыкі: на вышэйшым узроўні прымаюцца рашэнні, а рэалізоўвацца яны будуць на ўзроўні ўзаемаадносінаў Беларусь — рэгіёны, даў зразумець А. Лукашэнка.

Выступаючы перад маракамі «Пятра Вялікага», А. Лукашэнка, які з'яўляецца старшынёй Вышэйшага Савета беларуска-расійскага дагавора, падкрэсліў, што Саюз Беларусі і Расіі валодае «велізарнай тэрыторыяй». «Але ў нас няма ні пядзі лішняй зямлі, і мы яе нікому не аддадзім, нават шляхам мірных перагавораў», — заявіў А. Лукашэнка.

**ІНТЭРФАКС.**

## ВЫВУЧЭННЕ КІТАЙСКАГА ВОПЫТУ ІДЗЕ ПАСПЯХОВА

Прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, размешчаныя ў кітайскай правінцыі Сычуань, сталі першымі аб'ектамі, якія наведала дэлегацыя беларускіх парламентарыяў у час свайго візіту ў КНР, які пачаўся 25 сакавіка. У саставе дэлегацыі — кіраўнікі абедзвюх палат парламента Анатоль Малафееў і Павел Шыпук.

Як паведаміў БЕЛТА прэс-сакратар старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Сяргей Ціванаў, госці з Беларусі прыбылі ў Кітай з мэтай вывучэння мясцовага вопыту рэфарміравання сельскай гаспадаркі і ў першы ж дзень свайго візіту ў горадзе Сіньду пазнаёміліся з гаспадарчай дзейнасцю кампаніі па вытворчасці вырабаў са скуры.

У гэты ж дзень дэлегацыя наведала унікальную базу, прызначаную для развядзення мядзведзяў-панд, размешчаную ў горадзе Гуаньхань. Вечарам 25 сакавіка адбылася сустрэча беларускіх парламентарыяў з першым намеснікам Пастаяннага камітэта Сходу народных прадстаўнікоў правінцыі Сычуань. У гонар нашай дэлегацыі быў дадзены прыём.

26 сакавіка візіт прадоўжыўся ў горадзе Дудзяньэнь. Там дэлегацыя наведала мясцовыя ірыгацыйныя збудаванні і іншыя аб'екты, прадугледжаныя праграмай візіту. Наступным пунктам маршруту беларускіх гасцей стаў Шанхай.

**БЕЛТА.**

## ХІСТАННЕ ЦЭНАЎ УЗВЯЛО ХАРЧАВАННЕ Ў АСАБЛІВУЮ ПАШАНУ

**Тэма цэнаў і дэфіцыту харчовых тавараў па-ранейшаму працягвае турбаваць нашых чытачоў. Зразумела, пэўныя захады па паляпшэнню становішча мы ўжо бачым, аднак у абстаноўцы нервовасці, якая яшчэ не спала да канца, нават часовыя перабоі з тымі ці іншымі прадуктамі, на якія ў іншай сітуацыі мы не звяртаем увагі, зараз успрымаюцца людзьмі з недаверам: а раптам зноў усё пачнецца спачатку?**

На мой погляд, найбольш яскрава гэта бачна на Камароўскім рынку. Падалося, што людзей там паболела і на тварах у пакупнікоў з'явілася нейкая засяроджанасць. Мяркую, калі раней людзі хадзілі на галоўны харчовы рынак сталіцы толькі з мэтай эканоміі, дык зараз — яшчэ і з канкрэтнай задачай укласці ў тавары свае грошы. Вядома, што нягледзячы на «ўтаймаванне» курса долара, «зялёны» па-ранейшаму цяжка набыць у «абменніках».

Баючыся за ўласныя сродкі, многія ў такой сітуацыі аддаюць перавагу ўкладанню іх у прадукты, асабліва тыя, што могуць доўга захоўвацца: цукар, крупы, алей. Шмат разгубленых твараў састарэлых, якія блукаюць па рынку з торбамі ў руках. Вядома, на ўсё жыццё не запасешся, але нешта ж прымушае іх зноў і зноў стаяць у чэргах, браць зусім не патрэбныя зараз кілаграмы цукровага пяску, макаронаў, рысу.

Што да цэнаў, знайсці ў змене лічбаў нейкую заканамернасць цяжка. Калі адразу пасля вядомых падзей яны знізіліся, дык зараз на асобныя тавары нібыта зноў падраслі. Скажам, калі на мінулым тыдні бутэлька імпартнага алею каштавала на рынку 49—54 тысячы рублёў, дык у гэтую сераду — 52—57 тысяч, што не на шмат менш, чым было падчас самага імклівага скачка цэнаў. Нешта падобнае (зазначу, абсалютна чыстага крытэрыя быць не можа — гэта ўсё ж рынак, але пэўныя тэндэнцыі на асобныя тавары прасочваюцца) назіраецца і з іншымі прадуктамі.

Іншая справа — дзяржгандаль. Міністэрства сказала: трэба, апошні адказаў — ёсць. Праўда, ёсць не паўсюдна, як запэўніваюць адказныя работнікі. Дома, як на бяду, выйшаў цукар, і набыць кілаграм салодкага пяску ў сваім магазіне я не магу ўжо мо з тыдзень. Хаця, як запэўніў прэс-сакратар міністра гандлю Вячаслаў Ляонаў, праверкі магазінаў вылічаюцца сотнямі. Той жа цукар — «завозіцца кожны дзень». Паводле даных Мінгандлю, калі да «бума» з прадуктамі штодзённая норма водпуску цукру з базаў для Мінска складала 40—50 тон, дык зараз — 250 тон.

Цэны ў магазінах, па словах прэс-сакратара, рэгуляваліся найчасцей за кошт зніжэння гандлёвай надбаўкі (страты ад гэтага яшчэ не падлічаны), радзей — па ўзгадненню цэнаў з пастаўшчыкамі. «Гандаль у цэлым адкруціў цэны назад», — гаворыць Вячаслаў Ляонаў. Што ж... У аўторак набыў ва ўніверсаме «Цэнтральны» грыбны соус за 36 з нечым тысяч. Раней ён каштаваў на 9 тысяч танней. Але здзівіла іншае: на таварах гэтай гандлёвай кропкі раней заўсёды былі наклеены цэннікі. Зараз жа на ўсю паліцу была толькі адна папяровая шыльдачка з лічбамі. Не паспелі?..

Многіх нашых чытачоў цікавіць: чаму не быў вернуты ранейшы кошт гарэлкі? Спадар Ляонаў паведаміў, што міністэрства нават не выходзіла ў адпаведныя інстанцыі з такімі прапановамі. «Гарэлка ў нас самая танная, чым у любой іншай краіне побач.» Хаця раней тое ж міністэрства неаднаразова падкрэслівала, што гарэлка — каштоўны харчовы прадукт са сваімі калорыямі...

Адносна нормаў водпуску (якая існуе ўвесь час і аб якой «прыгадваюць» у падобных цяперашняй сітуацыях) у міністэрстве інфармацыяй не валодаюць. Яна вызначаецца на месцах выканкамамі, таму невядома: дзе і на якія прадукты яны распаўсюджваюцца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

● **У Душанбе адбылася экстранная нарада кіраўнікоў сілавых структур Таджыкістана,** на якой абмяркоўвалася абстаноўка ў Кафінірхонскім раёне рэспублікі. Учора ў гэтым раёне ў выніку нападу ўзброенай групоўкі на батальён міністэрства абароны былі забіты 20 ваеннаслужачых і яшчэ 20 паранены. Лёс 180 ваеннаслужачых невядомы. Ёсць ахвяры і сярод мірнага насельніцтва. У раён канфлікту прыбыла камісія з прадстаўнікоў апазіцыі і ўрада, а таксама група ваеных назіральнікаў ААН.

● **На сустрэчы міжнароднай кантактнай групы па былой Югаславіі**, якая пачалася ўчора ў Боне, абмяркоўваецца пытанне аб новых санкцыях супраць Бялграда. Для ўдзелу ў нарадзе ў Германію прыбылі дзяржсакратар ЗША М. Олбрайт і кіраўнік расійскага МЗС Я. Прымакоў. Выступаючы напярэдадні на прэс-канферэнцыі ў Рыме, Олбрайт заявіла, што прэзідэнт Сербіі Мілошавіч не выконвае асноўных патрабаванняў міжнароднай кантактнай групы па ўрэгуляванню канфлікту ў Косаве.

● **Прэзідэнта ЗША Біл Клінтан выказаў глыбокіх смутак** з нагоды трагедыі, якая адбылася ўчора ў яго родным штаце Арканзас. Двое хлопчыкаў — адзінаццаці і трынаццаці гадоў — адкрылі агонь па навучэнцах сярэдняй школы ў горадзе Джонобара. Загінулі чатыры школьніцы і настаўніца, паранены яшчэ 10 чалавек. Уключыўшы пажарную сістэму, падлеткі, узброеныя пісталетамі, дачакаліся, калі вучні і настаўнікі пакінуць будынак школы, і адкрылі па іх агонь. Паліцыя арыштавала страляўшых.

● **З 15 краін Еўрапейскага саюза толькі 11 адпавядаюць крытэрыям, вызначаным для ўвядзення адзінай еўравалюты** — «еўра», аб'явіла ўчора Еўрапейская камісія ў Брусэлі. Вялікабрытанія, Данія і Швецыя яшчэ не прынялі рашэння аб увядзенні адзінай валюты, а эканоміка Грэцыі не адпавядае неабходным крытэрыям. Канчатковае рашэнне аб саставе ўдзельнікаў еўрапейскага валютнага саюза будзе прынята на саміце ЕС у маі. Адзіная валюта павінна быць уведзена 1 студзеня 1999 года.

● **14 журналістаў загінулі на тэрыторыі Расіі летась.** З 1991 года ў мартыралог унесена каля 150 імён. Учора ў Маскве ў Доме журналіста калегі і сем'і загінуўшых адзначылі традыцыйны дзень памяці журналістаў.

● **Латвія адзначыла ўчора дзень памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.** Роўна 50 гадоў таму па загаду Сталіна пачалася масавая дэпартацыя латышоў. Толькі за адзін дзень — 25 сакавіка 1948 года з Латвіі ў Сібір было вывезена каля 40 тыс. чалавек. Дэпартацыя працягвалася да вясны 1953 года.

***Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.***

*ПОГЛЯД*

## ПРЫГАВОР У АДНОСІНАХ ДА ШАРАМЕТА І ЗАВАДСКАГА НЕ ЗМЕНЕНЫ

24 сакавіка калегія па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда пад старшынствам суддзі Аляксандра Грынкевіча разгледзела касацыйныя скаргі адвакатаў журналістаў Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага і іх саміх на прыгавор Ашмянскага раённага суда. 28 студзеня суд у Ашмянах прыгаварыў Шарамета да 2 гадоў пазбаўлення волі, а Завадскага — да 1,5 года — абодвух умоўна і з адтэрміноўкай на 1 год. Адвакаты настойвалі перад Гродзенскім абласным судом на тым, што суд першай інстанцыі «абгрунтаваў свой прыгавор на здагадках, не маючы дастатковых доказаў», што шмат якія матэрыялы справы ён праігнараваў і дапусціў нямала парушэнняў Крымінальна-працэсуальнага кодэкса. Адвакаты яшчэ раз зазначылі, што не ўстаноўлены які-небудзь ўрон ці грамадская небяспека ад дзеянняў журналістаў.

Абласны суд прыняў да ведама тыя парушэнні КПК, якія былі дапушчаны Ашмянскім раённым судом, аднак пастанавіў «пакінуць прыгавор без змяненняў» а касацыйныя скаргі — без задавальнення.

Адвакат Паўла Шарамета Гары Паганяйла зазначыў, што ён будзе абскарджваць гэты прыгавор, але ўжо ў парадку нагляду.

— Гэта ўскладняе нашы магчымасці дабіцца адмены прыгавору, бо зараз усё ў руках судовых і пракурорскіх чыноўнікаў, якія могуць унесці пратэст па нашых скаргах, а могуць не ўнесці. Але мы не губляем надзею на тое, што, прайшоўшы ўсе судовыя і пракурорскія інстанцыі ў нашай краіне, мы прадставім гэтую справу ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі і ў Камітэт па правах чалавека ААН ў Жэневе. Згодна з факультатыўным пратаколам №1 да Пакта па грамадзянскіх і палітычных правах, які ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі ў студзені 1992 года, нашы грамадзяне падпадаюць пад юрысдыкцыю гэтага камітэта,— падкрэсліў Г. Паганяйла.

Сам Павел Шарамет асаблівай надзеі на іншае рашэнне абласнога ці якога іншага суда не выказваў.

— Я пачакаю яшчэ некалькі гадоў, і тады гэтая справа, лічу, абавязкова будзе перагледжана. І як многія людзі праз некалькі гадоў будуць дабівацца праўды, так многія чыноўнікі будуць пакараны за парушэнні закона. Я мяркую, што чакаць трэба будзе не дзесяцігоддзі, а ўсяго некалькі гадоў.

Павел Шарамет лічыць галоўнай для сябе задачай застацца ў сваёй прафесіі, ён не збіраецца займацца публічнай палітыкай. Кіраўніцтва ГРТ, па словах Шарамета, разглядае варыянт яго ад'езду разам з Завадскім на працу ў адну з суседніх з Беларуссю краін.

Пракурор Уладзімір Сідо, які ўдзельнічаў як у ашмянскім, так і ў гродзенскім працэсах, зазначыў, што, паводле яго меркавання, прыгавор ў адносінах да Шарамета і Завадскага з'яўляецца «ў цэлам законным», і ягоныя ўласныя перакананні адносна гэтай крымінальнай справы асабліва не змяніліся на працягу амаль двух месяцаў, якія прайшлі пасля вынясення прыгавору ў Ашмянах да разгляду касацыйнай справы ў Гродзенскім абласным судзе.

Такім чынам, 24 сакавіка прыгавор у адносінах да журналістаў ГРТ Шарамета і Завадскага ўступіў у законную сілу.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## «ЛІПАВЫЯ» ПАСТАЎКІ

**Лавай падсудных завяршылася супрацоўніцтва двух спецыялістаў лідскага завода «Оптык» з мясцовай фірмай «Лідакамінвест».**

У верасні-кастрычніку 1994 года начальнік аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння завода А. Радюк, яго намеснік М. Паляпшчук і дырэктар ПКФ «Лідакамінвест» А. Герасімовіч вырабілі фіктыўныя накладныя. З гэтых папер вынікала, што фірма забяспечыла «Оптык» сыравінай на суму 8,3 мільёна рублёў, а ў якасці разліку атрымала на прадпрыемстве тэлевізары «Гарызонт».

Неўзабаве «намалявалі» таксама «ліпавыя» дакументы, паводле якіх «Лідакамінвест» паставіў заводу шліфпарашок і медыцынскую трубку, за што фірме былі пералічаны неблагія грошы. А ў 1995 годзе гэтая ж кампанія сумесна з выканаўчым дырэктарам ПКФ «Лідакамінвест» А. Астравухам пракруціла аферу з пастаўкай на прадпрыемства 3 тон трохвокісу сурмы. Зноў жа праз вышэйпамянёную фірму ды яшчэ маскоўскую камерцыйную структуру.

У 1997 годзе на падставе матэрыялаў УКДБ на Гродзенскай вобласці абласная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Следствам ўстаноўлена, што матэрыяльныя страты завода «Оптык» адносяцца да катэгорыі асабліва буйных — у прадпрыемства ўкралі звыш 230 мільёнаў рублёў.

Нядаўна суд г. Ліды абвясціў прыгавор. А. Радзюк асуджаны да чатырох, М. Паляшчук і А. Герасімовіч — да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. А. Астравух атрымаў два гады папраўчых работ. Пракуратура вынесла пратэст, палічыўшы пакаранне занадта мяккім.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## АЙЧЫННЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ ДЭМАНСТРУЮЦЬ СРОДКІ СУВЯЗІ, КАМП'ЮТЭРНУЮ, ВЫМЯРАЛЬНУЮ І ІНШУЮ ТЭХНІКУ

Далёка не многія прадпрыемствы, якія выпускаюць радыёэлектронную апаратуру, сродкі сувязі і вымяральную тэхніку, могуць пахваліцца сёння ўстойлівым эканамічна-фінансавым становішчам. На гэту галіну, якая працавала пераважна на ваенныя заказы, больш, чым на іншыя, выпала цяжкасцяў, звязаных з канверсійнымі пераўтварэннямі на тэрыторыі былога Саюза, і менавіта са стратай такіх заказаў. Пераход жа на мірную прадукцыю аказаўся даволі балючым з-за з'яўлення на айчынным рынку дасканалай прадукцыі замежных вытворцаў, якія ўжо даўно спецыялізуюцца на ёй.

Тым не менш, сітуацыя вымушае знаходзіць сваё новае месца на рынку, сваю нішу. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць узоры тэхнікі, якія прадстаўлены беларускімі прадпрыемствамі і фірмамі на міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы «Сродкі аўтаматызацыі. Інфарматыка-98».

Выстаўка, якая праходзіць з 24 па 27 сакавіка, арганізавана Міністэрствам прамысловасці краіны і выставачнай кампаніяй «Мінскэкспа». На ёй прапануюцца шырокі спектр сучасных сістэм і кампаненту аўтаматызацыі для ўсіх сектараў прамысловасці, кантрольна-вымяральныя прыборы, электронныя кампаненты, сучасныя сродкі сувязі і тэлекамунікацыі, электратэхнічныя і электрамантажныя вырабы. З найбольш вядомых айчынных прадпрыемстваў сваю прадукцыю экспануюць «Інтэграл», Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі, навукова-вытворчае прадпрыемства КБТЭМ-СО канцэрна «Планар», маладзечанскі радыёзавод «Спадарожнік» і іншыя.

У прыватнасці, аб'яднанне вылічальнай тэхнікі прадстаўляе свае сучасныя камп'ютэры, якія збіраюцца ў асноўным на імпартных камплектуючых і па якасці не ўступаюць замежным. У месяц на аб'яднанні збіраюць 400—500 камп'ютэраў, яны маюць добры збыт. Устойлівы збыт маюць і лічбавыя тэлефонныя станцыі, прызначаныя ў асноўным для вясковых АТС — масавы выпуск гэтых станцый у аб'яднанні наладзілі падчас канверсіі.

Яшчэ адно сталічнае прадпрыемства — ААТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод (ранейшы «БЕЛВАР») шырока прадстаўляе сваю вымяральную тэхніку, а таксама разнастайныя электрабытавыя вырабы — у прыватнасці сокавыціскалкі, міксеры, харчовыя працэсары, электрашафы, электрадрылі. Некалі прадпрыемства адным з першых правяло канверсію і перайшло на выпуск электрабытавой тэхнікі, якая пачала складаць у яго аб'ёмах пераважную частку. Сёння Мінскі прыборабудаўнічы займае 60 працэнтаў рынку СНД асобнымі відамі радыёвымяральнай апаратуры — асцылографамі, вальтметрамі і інш., а таксама 70 працэнтаў рынку Беларусі і 11 працэнтаў рынку Расіі — сваімі электрабытавымі прыборамі.

Немалую цікавасць для наведвальнікаў уяўляла прадукцыя маладзечанскага «Спадарожніка» — кампактныя, малагабарытныя станцыі сістэмы рухомай радыётэлефоннай сувязі.

У Міністэрстве прамысловасці наконт цяперашняй сітуацыі ў радыёэлектроннай галіне зазначылі наступнае: імкнёмся выжыць. Нямала дапамагае тая падтрымка, якую аказвае дзяржава — гэта, у прыватнасці, датычыць падатковых прэферэнцый.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

## ГЕНЕРАЛЬНЫ САКРАТАР НАТО ПЛАНУЕ НАВЕДАЦЬ БЕЛАРУСЬ У ПАЧАТКУ ЦІ НАПРЫКАНЦЫ ГЭТАГА ЛЕТА

Генеральны сакратар НАТО Хав'ер Салана плануе наведаць Беларусь у пачатку ці напрыканцы гэтага лета — менавіта ў гэты перыяд у яго напружаным рабочым графіку ёсць гэтак званыя «вокны», якія можна было б выкарыстаць для паездкі ў Мінск. Пра гэта пасольства Беларусі ў Бельгіі праінфармавалі супрацоўнікі апарату генеральнага сакратара Арганізацыі Паўночнаатлантычнага дагавора.

Як паведаміў БелаПАН Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Бельгіі Уладзімір Лабуноў, нядаўна прызначаны кіраўніком прадстаўніцтва рэспублікі ў НАТО, нягледзячы на пэўны ціск з боку некаторых еўрапейскіх структур, «жаданне наведаць Беларусь у Х. Саланы ёсць», ды і сама арганізацыя зацікаўленая ў гэтым візіце.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## ТРЫ ЧАЛАВЕКІ АСУДЖАНЫ ДА РАССТРЭЛУ БРЭСЦКІМ СУДОМ

Даўно ўжо Брэсцкі абласны суд не выносіў такіх жорсткіх прысудаў: днямі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу — асуджаны трое зняволеных.

Адзін — за забойства намесніка начальніка Ленінскага РАУС Мікалая Шведа і раненне яго сына. (Пра гэты небывалы па жорсткасці выпадак у свой час шмат паведамлялі СМІ.) Другі асуджаны жорстка забіў пажылых мужа і жонку Баевых, якія прытулілі яго, але аднойчы, на сваю бяду, адмовіліся даць грошы. Трэці забіў пінчаніна Уладзіміра Каляду: стары загінуў на працоўным месцы, калі спрабаваў абараніць ахоўваемую ім маёмасць ад зладзеяў, якія праніклі на прадпрыемства.

Варта адзначыць, што колькасць забойстваў у Брэсцкай вобласці летась дасягнула рэкорднай лічбы — 182 чалавекі загінулі ад рук злачынцаў. Кожнае трэцяе забойства ўчынена ў выніку сямейных канфліктаў, кожнае другое — падчас п'янак, кожнае восьмае забойства ўчынілі жанчыны.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.58 | 18.33 | 12.35 |
| Віцебск – | 5.47 | 18.24 | 12.37 |
| Магілёў – | 5.47 | 18.22 | 12.35 |
| Гомель – | 5.43 | 18.20 | 12.37 |
| Гродна – | 6.11 | 18.50 | 12.39 |
| Брэст – | 6.15 | 18.48 | 12.33 |

### МЕСЯЦ

***З 4.43 — 28-я месяцавыя суткі. Месяц у сузор'і Рыб.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Нікіфара, Аляксандра, Хрысціны**

**К. Эмануэля, Тэадора**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве і Гомелі — 3—5, Мінску — 4—6, Брэсце і Гродне — 5—7 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, 27-га ўдзень — месцамі, 28-га ўначы — ва ўсходніх раёнах невялікія ападкі. Тэмпература ўначы — 0—5, 28-га па ўсходу — да 8 градусаў марозу, удзень — 3—8 градусаў цяпла.

*СХАВАНАЯ КАМЕРА*

# ПЯТНІЦА, 13-ГА. ТРЫНАЦЦАТЫ МАРШРУТ

*Тралейбус — гэта аўтобус, якому здрадзіла жонка.*

Той раніцай выпаў небывалы для сакавіка снег. А напярэдадні радыёгаласы навыперадкі папярэджвалі не высоўваць носа з хаты: метэаролагі — з-за надвор'я, астролагі — з-за поўні... Ушчэнт запужаны, карэспандэнт «Звязды» ўсё ж вырашыў у «чорную пятніцу» выпрабаваць лёс, пакатаўшыся на тралейбусе 13-га маршруту.

Бясконца доўгае чаканне на прамёрзлым прыпынку ўжо наводзіла на сумныя думкі аб тым, што для мяне асабіста гэтая пятніца можа скончыцца ангінай. Ужо падумалася, быццам гарадскія ўлады ўвогуле знялі ў гэты дзень 13-ты маршрут — далей ад граху, — калі з завірухі, злавесна паблiскваючы іскрамі, паказаўся ЁН. Жалезныя дзверы, з грукатам расчыніўшыся, запрасілі ў паўзмрок салона... Там, нават не падазраючы аб небяспецы, весела гарталі дарослы часопіс дзве школьніцы-балбатухі. Праз праход мірна драмаў бомжык (мабыць, грэючыся, «наразаў» ужо не першы круг). Побач адсвечвала шыльдачка «Пры аварыі шкло разбіць малатком, які знаходзіцца ў вадзіцеля». Смешна: няўжо ў экстрэмальных абставінах нехта стане шукаць гэты малаточак?

На прыпынку «Праспект Скарыны» ў тралейбус увайшла мадам з чорным пудзелем. Яна заслала сядзенне хустачкай і загадала: «Сядай, глядзі ў акно!» Сама ж пацягнулася да кампосцера. Дакладна бачыў: у яе руцэ былі два (!) білецікі. Прыйшоў на памяць урывак з гётэўскага «Фауста», дзе д'ябал з'яўляецца ў выглядзе... так, менавіта чорнага пудзеля. Ну, зараз пачнецца!

Хутка тралейбус сапраўды захрас у сумёце, затросся, тасуючы пасажыраў, нібы калоду карт. Праз якую хвіліну «галёрка» ўжо з захапленнем «сабачылася». А выхаваны пудзель з іроніяй паглядаў на чалавекаў.

У салон заскочыў запыханы мужычок у акулярах (дагэтуль, відаць, доўга за намі гнаўся), спытаў:

— Гэта, прабачце, 57-мы тралейбус?

— Не, дзядзька, 13-ты.

— Ну дзякуй Богу! — і спакойненька ўсеўся ля акна. Дзівак.

Маршрут, трэба прызнацца, у трынаццатага тралейбуса не надта аптымістычны: праходзіць паблізу дзвюх турмаў («Валадаркі» і «Апанкі») ды Кальварыйскіх могілак. Але найбольш палохаў у той дзень трынаццаты па ліку прыпынак. Я быў чамусьці ўпэўнены, што тут павінна нешта здарыцца. І здарылася-такі. Дапамагаючы старой бабулі, я выйшаў на хвілінку, а калі павярнуўся, то «пацалаваў носам» дзверы. Мой «жалезны алень» адчаліў, пакінуўшы мяне аднаго ў чыстым полі. Я агледзеўся. Крокаў за сорак ад «ракавога» прыпынку ўзвышаўся будынак былога галоўнага офіса некалі вельмі заможнай, а зараз амаль зніклай фірмы «Пушэ». Мо гэта лічба вінаватая?

Мяне падабраў наступны 13-ты. Усяго ж у той дзень іх на маршруце працавала сем (я зразумеў: каб нейтралізаваць нешчаслівую лічбу 13, «у гульню» ўвялі шчаслівую лічбу 7). Новы тралейбус быў такі ж паўналюдны і бурлівы. Увогуле, пасажыры не звярталі аніякай увагі на забабоны. Гэта ж пацвердзіла і вадзіцель трынаццатага, Таццяна:

— Ніколі не заўважала, каб людзі аддавалі перавагу нейкаму іншаму нумару. Хоць па гэтай трасе ездзіць шмат «канкурэнтаў».

— Вы самі верыце ў нейкія прыметы, талісманы?

— Не, веру толькі ў сябе. 13-ты ж нумар наогул лічу шчаслівым... А вунь ён, — Таццяна паказвае праз лабавое шкло на п'янюжку, што хістаўся якраз пасярод круга, па якім разварочваўся наш тралейбус, — будзе ва ўсіх сваіх непрыемнасцях вінаваціць «чорную пятніцу».

Вадзіцелька пасігналіла. Рыцар бутэлькі, відаць, ад нечаканасці, паваліўся.

— Во мужыкі пайшлі — ад аднаго гудка валяцца!

...Брытанскі часопіс «Медыкэл Джорнэл» у пятніцу, 13-га, апублікаваў даследаванні, згодна з якімі менавіта ў гэты дзень наведвальнасць прадуктовых маркетаў узрастае напалову. Гэта тлумачаць ці то імкненнем адцягнуцца ад трывожных чаканняў, ці то павышаным на нервовай глебе апетытам. Хутчэй за ўсё, такая цікавая тэндэнцыя датычыць не толькі Брытаніі, але і... Беларусі.

**P. S.** *Пасля пятніцы, 13-га, прайшло роўна 13 дзён. Учора спецыяльна праверыў, як яно там, на 13-м маршруце. А нічога, ходзіць сабе.*

**Цімур ХІЛЬКЕВІЧ.**

**ОТЧЕТ о прибылях и убытках за 1997 г.**
**Закрытое акционерное страховое общество «Гомий» *(млн. руб.)***

| Прибыль | Убытки (расходы) |
|---|---|
| 1. Страховые взносы по прямому страхованию ... 1861,7 | 1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм ... 12,7 |
| 2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования ... - | 2. Расходы на ведение дела ... 1087,6 |
| 3. Страховые взносы, полученные от перестраховочных операций ... - | 3. Отчисления в резервы по накопительным и рисковым видам страхования ... 918,2 |
| 4. Прочие доходы от страховой деятельности ... - | 4. Уплаченные страховые взносы по рискам, переданным в перестрахование ... - |
| 5. Доходы от внереализационных операций ... 443,9 | 5. Отчисления в фонд предупредительных мероприятий ... - |
| ИТОГО ДОХОДОВ ... 2305,6 | 6. Прочие расходы ... 142,5 |
| 6. Убытки ... - | ИТОГО РАСХОДОВ ... 2161,0 |
| | 7. Прибыль ... 144,6 |
| Всего ... 2305,6 | Всего ... 2305,6 |

**ГОДОВОЙ БАЛАНС ЗА 1997 Г.**
**Закрытое акционерное страховое общество «Гомий» *(млн. руб.)***

| Актив | Пассив |
|---|---|
| 1. Расчетный счет ... 132,8 | 1. Уставный капитал ... 307,5 |
| 2. Валютный счет ... 38,7 | 2. Резерв по имущественному страхованию и страхованию от несчастных случаев ... 2106,7 |
| 3. Счета в банке по средствам резервов платежей ... 1480,0 | 3. Резерв по страхованию жизни, пенсий и медицинскому страхованию ... - |
| 4. Касса ... - | 4. Фонды и резервы специального назначения ... 296,7 |
| 5. Основные средства и другие долгосрочные активы ... 267,3 | 5. Средства в расчетах ... 16,3 |
| 6. Дебиторы ... 132,2 | 6. Прочие пассивы ... -671,7 |
| 7. Прочие активы ... 4,5 | |
| Баланс ... 2055,5 | Баланс ... 2055,5 |

Достоверность баланса подтверждена аудитором А. Т. Белоноговым (лицензия серии АП № 440 от 5 марта 1994 года, свидетельство № 267 от 29.04.97 г.) 20 февраля 1998 г.



**Пераможцай конкурсу прыгажосці, песці і танца, які праходзіў нядаўна ў краснапольскім Доме казкі, стала прынцэса Каралеўства эльфаў — так называлася яе гераіня — вучаніца чацвёртага класа сярэдняй школы № 1 Юля АРЛОВА.**

**Юля добра вучыцца, спявае і танцуе. Любіць сваю Краснапольшчыну, нягледзячы на чарнобыльскую бяду, ад якой яна пацярпела.**

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

*ПЫТАЛЬНІК*

## Адпрацаваў усё жыццё і зараз хто я?

***Я працаваў у раённай газеце з 1954 года. За гэты перыяд прайшоў усе пасады ад карэктара да рэдактара. На апошняй узначальваў клецкую «раёнку» «Да новых перамог» 22,5 года. На пенсію пайшоў 15 верасня 1994 года. Цяпер, пры пераразліку пенсіі згодна з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1997 года, я аказаўся не дзяржслужачым. А ў тыя гады газета была органам райкама партыі і райвыканкама. Усе гэтыя гады я з'яўляўся членам райкама партыі і дэпутатам райсавета. Прашу растлумачыць, чаму так атрымліваецца?***

**Іван ГАБЕЦ, г. Клецк.**

Тлумачэнні наконт пенсійнага забеспячэння дзяржаўных служачых мы атрымалі з аддзела льготнага пенсійнага забеспячэння Міністэрства сацыяльнай абароны.

«У адпаведнасці з пунктам 1.7 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 верасня 1997 года № 16 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння служачых дзяржаўнага апарату і прыраўнаваных да іх асоб» дзяржаўныя служачыя маюць права на пенсію за выслугу гадоў пры дасягненні мужчынамі ўзросту 55 гадоў, жанчынамі — 50 гадоў і наяўнасці стажу працы ў якасці дзяржаўнага служачага не меней як 20 гадоў (пры гэтым не меней двух гадоў пасля 1 сакавіка 1994 года)», — паведамляецца ў афіцыйным адказе.

«Да выдання названага Дэкрэта пенсійнае забеспячэнне служачых дзяржаўнага апарату рэгулявалася Законам Рэспублікі Беларусь «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце», нормы якога распаўсюджваліся на грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія на дзень увядзення ў дзеянне гэтага Закона (1 сакавіка 1994 года) займалі ў прадугледжаным заканадаўствам парадку пасады ў дзяржаўных органах».

Паведамляецца таксама, што Дэкрэтам № 16 не зменена кола асоб, якія атрымліваюць пенсію па заканадаўству аб службе ў дзяржапараце, а «толькі некалькі ўпарадкаваныя нормы, якія рэгулююць матэрыяльнае і сацыяльнае забеспячэнне служачых дзяржаўнага апарату і прыраўнаваных да іх асоб».

Бадай, адзіная сапраўды карысная для нашага чытача інфармацыя ўтрымліваецца ў канцы адказу. Аказваецца, у адпаведнасці з пунктам 2 Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 13 мая 1997 года № 471 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку і ўмовах вылічэння стажу працы ў якасці дзяржаўнага служачага», права даваць тлумачэнні па пытаннях аднясення дзяржорганаў да органаў дзяржкіравання, праца ў якіх залічваецца ў стаж работы ў якасці дзяржслужачага, прадастаўлена Міністэрству юстыцыі і Міністэрству фінансаў, а па пытаннях аднясення пэўнай пасады да пасад дзяржслужачых — Міністэрству працы і Міністэрству фінансаў. Таму, мабыць, не ўсё яшчэ страчана: чытачу трэба звяртацца ў гэтыя міністэрствы.



## Убачыць свет сваімі вачамі

***Вельмі хачу адмовіцца ад акуляраў. Падкажыце, калі ласка, дзе можна набыць кантактныя лінзы высокай якасці? І ці праўда, што пры выкарыстанні іх зрок становіцца яшчэ горшым?***

**З павагай Эла К., г. Клецк.**

Спецыялісты не бяруцца сцвярджаць адназначна, што нашэнне лінзаў вядзе да паніжэння зроку. Ва ўсім свеце людзі адмаўляюцца ад акуляраў на карысць лінзаў. Прыхільнікі апошніх сцвярджаюць, што лепшага прыстасавання бачыць свет сваімі вачамі яшчэ не прыдумалі.

Зараз на беларускім рынку прапануецца шмат варыянтаў гэтага спецыфічнага тавару на розны густ і розныя магчымасці. Мяккія лінзы расійскай вытворчасці з тэрмінам носкі 1—1,5 года па 10 гадзін у суткі можна набыць за 1 мільён рублёў. Лінзы замежнай вытворчасці, якія застаюцца годнымі таксама каля 1,5 года, але носяцца на працягу ўсяго дня, каштуюць каля 3 мільёнаў. Самыя «крутыя» лінзы «Софлінз», якія за паўгода можна здымаць усяго некалькі разоў, прадаюцца наборам па 6 штук. Гэта — апошняя прапанова вытворцаў. Лінзы на 66 працэнтаў складаюцца з вады, не выклікаюць пачуцця дыскамфорту ва ўладальнікаў. Замену зношанай пары праводзяць спецыялісты цэнтра па адрасу: вул. К. Маркса, 17. На год звычайна патрэбна два камплекты лінзаў, што абыходзіцца ў суму, роўную 100 доларам.

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...прад'явіць мужу рахунак

Наўрад ці ёсць такая жанчына, якая хаця б у думках, хаця б аднойчы не паскардзілася на нялёгкую долю гаспадыні. Хіба ж гэта жартачкі — штодня накарміць, прыбраць, памыць. А без выхаду за прадуктамі і цыравання дзірак на дзіцячым ды мужавым адзенні падчас прагляду серыяла другая працоўная змена ўвогуле будзе няпоўнай. Хатняя работа тым і характэрная, што колькі б часу на яе ні траціў, яна ніколі не скончыцца.

Тым не менш, жонкам мужчыны зарплату не плацяць. Ці плацяць? Няхай патэлефануе мне той, хто гэта дакажа. Пра хатніх гаспадынь па жыцці размова не ідзе; аб'ектам даследавання абрана звычайная сярэднестатыстычная беларуска, якая працуе пяць дзён на тыдзень і збірае з вечара дзецям у школу «ссабойкі». Я ўзялася падлічыць, колькі мела б у месяц, калі б змясціла ў рэкламнай газеце аб'яву: «Маладая жанчына прыгледзіць за дзіцем, прыбярэ кватэру».

З коштам генеральнай уборкі аднапакаёвай кватэры з мыццём двух акон вызначыцца было даволі складана. Адна жанчына абяцала зрабіць гэта хутка і якасна за 20 долараў. Мой калега прапанаваў мне наняць яго ў памочнікі за такія грошы. Другая жанчына прасіла 300 тысяч рублёў. Па «палцінніку» за кожны аб'ект: акно — 50 тысяч рублёў, падлога ў пакоі — 50 тысяч, кухня пасвяжэла б за сотню, санвузел з калідорам — за тую ж таксу. А адна дзяўчына (відаць, навічок у гэтай справе), «драіць» усю кватэру згодная ўсяго за 100 тысяч рублёў. Яна, дарэчы, пагадзілася прыходзіць раз на тыдзень за такую ж суму і ў дадатак да ўборкі гатаваць і мыць. На апошнюю паслугу, дарэчы, не вельмі згаджаюцца, калі размова заходзіць пра ручное мыццё. Толькі жанчын за пяцьдзесят адсутнасць пральнай машыны не пужае.

Прынамсі, менавіта пажылыя гатовыя падзяліцца з вамі вопытам выканання дачных работ: пракансультаваць на месцы, што, дзе і як садзіць, у барацьбу з пустазеллем уключыцца. Гэтыя работы звычайна разавыя (кожнай гаспадыні на сваім агародзе завіхацца трэба), за сотню-другую разавая падтрымка вам забяспечаная.

Такса на догляд вашай «крывінкі» адна — 100—120 долараў у месяц (пяць дзён у тыдзень). Прычым выкананнем традыцыйнай праграмы — кармленне, гулянне і мыццё дзіцячых кашулек — няні не абмяжоўваюцца. Звычайна абяцаюць развіць пачуццё цудоўнага ў падапечнага, бо акрамя проста выхавальніц і настаўніц з малымі згодныя важдацца і мастакі-мадэльеры, і харэографы. Цану спачатку не называюць, прапануюць вам самім яе вызначыць, на бацькоўскія пачуцці ціснуць. Маўляў, колькі не шкада за шчаслівае дзяцінства малога?

Па самых сціплых падліках, спецыяльнасць «жонкі — хатняй гаспадыні» сёння не высокааплатная — усяго 3 мільёны рублёў. Калі ж акрамя вядзення хатняй гаспадаркі на кволых плячах ляжыць выхаванне дзіцяці, то дадаць трэба яшчэ 5 мільёнаў. Па майму меркаванню, 10 мільёнаў у месяц — нармальная сума. Так што ў адказ на папрокі мужа за чарговую вашу пакупку — чаравікаў ці спадніцы прад'явіце яму рахунак. У рэшце рэшт, у вас ёсць на тое маральнае права.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

**P.S.** *Прашу шаноўных мужчын не крыўдзіцца. Калі б не вы — на рамонт прасаў, дзвярных ручак, зламанай мэблі траціць давялося б ці не больш за вышэйназваную лічбу. А ацаніць вашы ўвагу і каханне ўвогуле немагчыма.*



## Дапамажыце разабрацца з ільготамі для «ліквідатараў»

***Я, законапаслухмяны грамадзянін і пастаянны падпісчык вашай газеты з 1958 года, прашу даць тлумачэнні: ці верыць чыноўнікам абласнога і рэспубліканскага маштабу, якія даюць адказы ў газеты адносна льгот удзельнікам ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, або газеце «Рэспубліка», якая спасылаецца ў гэтым пытанні на законы і пастановы нашага ўрада?***

**Пётр МАРЧАНКА, г. Магілёў.**

Разам з лістом шаноўны Пётр Міхайлавіч даслаў у рэдакцыю цэлы стос газетных выразак, гаворка у якіх ідзе пра льготы, якія прадастаўляюцца (ці прадастаўляліся?) «ліквідатарам» па артыкулах 19 і 20. Сапраўды, адказы магілёўскіх чыноўнікаў і іх сталічных калег часам цалкам выключаюць адзін аднаго. Улічваючы, што гэтае пытанне, безумоўна, цікавіць вельмі многіх нашых чытачоў, мы звярнуліся па адказ у кампетэнтныя крыніцы. Вось што нам паведамілі, у прыватнасці, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях. Аказваецца, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1.09.95 г. № 349 прыпынена прадастаўленне шэрагу льгот асобным катэгорыям грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, што раней былі ўстаноўлены Законам РБ «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Як патлумачылі ва ўпраўленні сацыяльнай абароны насельніцтва, прававой работы і перасялення міністэрства, у адносінах да асоб, якія карысталіся льготамі, што былі вызначаны арт. 19 Закона, прыпынена прадастаўленне:

— беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва ці набыццё індывідуальных жылых дамоў, кватэр, садовых домікаў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва і на добраўпарадкаванне садовых участкаў;

— бясплатнага праезду на гарадскім грамадскім транспарце, чыгуначным, аўтамабільным і водным транспарце прыгарадных зносінаў;

— 50-працэнтнай скідкі з кошту праезду адзін раз у год у любы пункт Беларусі і назад на транспарце;

— аплату ў памеры 50 працэнтаў жылой плошчы, камунальных паслуг, за карыстанне электраэнергіяй;

— 50-працэнтнай скідкі з кошту паліва тым, хто пражывае ў дамах, дзе няма цэнтральнага ацяплення.

У адносінах да асоб, якія карысталіся льготамі, прадугледжанымі арт. 20 Закона, прыпынены:

— атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва ці набыццё індывідуальных жылых дамоў, кватэр, садовых домікаў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва, і на добраўпарадкаванне садовых участкаў;

— бясплатны праезд на гарадскім і прыгарадным грамадскім транспарце.

У гэтай сувязі, як патлумачылі ў міністэрстве, грашовыя сродкі для пакрыцця выдаткаў на рэалізацыю дадзеных ільгот з рэспубліканскага бюджэту не выдзяляюцца. Астатнія льготы, вызначаныя арт. 19 і 20 вышэйпамянёнага закона, прадастаўляюцца ў адпаведнасці з устаноўленым парадкам.

# ПАЛЯЎНІЧЫЯ ДАЧАКАЛІСЯ СВАЙГО СЕЗОНА

**Міністэрствам лясной гаспадаркі выдадзены загад аб пачатку чарговага веснавога сезона палявання на птушку. Адметнасць яго, бадай, яшчэ і ў тым, што гэта, магчыма, апошняя афіцыйная папера такога кшталту ў дачыненні тэрмінаў палявання: пасля зацвярджэння Міністэрствам юстыцыі новых правілаў палявання накіроўвацца ў лес са стрэльбай можна будзе ўжо з загадзя вядомых дат без адпаведнага міністэрскага загаду.**

Сёлетні паляўнічы сезон дазволены ва ўсіх адкрытых для палявання ўгоддзях. Па асобных відах птушкі ўстаноўлены наступныя тэрміны і час палявання: на самцоў вальдшнэпа — з 18 гадзін да надыходу цемры — з 4 красавіка па 10 мая; на качароў з падсадной качкай (чучалам) і самцоў цецерукоў са сховішчаў (пры колькасці не менш як 10 самцоў) — са світання да 10 гадзін з 21 сакавіка па 10 мая; на пералётных гусей са сховішча — са світання да 10 гадзін і з 18 гадзін да надыходу цемры з 14 сакавіка па 26 красавіка. Апошні від палявання дазваляецца толькі на тэрыторыі палявых і водна-балотных паляўнічых угоддзяў. Як заўсёды, паляванне дазволена па суботах і нядзелях, а таксама ва ўстаноўленыя заканадаўствам святочныя дні. Аднак у якасці эксперымента сёлета па меркаванню паляўнічых гаспадарак паляванне на пералётных гусей можа быць дазволена ва ўсе дні тыдня, праўда, яны павінны мець укамплектаваную егерскую службу. Пры паляванні на вальдшнэпа дазваляецца выкарыстоўваць сабаку, але ён павінен быць на павадку.

Забараняецца падчас сезона палявання знаходзіцца ў паляўнічых угоддзях і насіць пры сабе патроны з кулямі і шротам дыяметрам больш 6,5 мм.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ФРГ узмацніла кантроль мікрааўтобусаў на германа-польскай граніцы ў Франкфурце-на-Одэры

Як паведаміла пасольства ФРГ у Мінску, нядаўна на германа-польскай граніцы быў узмоцнены кантроль за праездам мікрааўтобусаў (транспартны сродак, разлічаны на 9 пасажыраў, уключаючы вадзіцеля), якія займаюцца рэгулярнай камерцыйнай перавозкай пасажыраў паміж Германіяй і краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Цяпер вадзіцель аўтобуса павінен мець дазвол нацыянальнага міністэрства транспарту на маршрутную перавозку пасажыраў. Калі яго няма, то на граніцы ў выглядзе выключэння ён можа атрымаць такі дазвол пасля ўплаты адміністрацыйнага збору ў памеры 500 нямецкіх марак. Інакш яму будзе забаронены ўезд у краіну. Збор за атрыманне дазволу належным чынам у нацыянальным міністэрстве транспарту складае ад 2000 да 3000 DM, ён сапраўдны на некалькі гадоў.

Гэта мера выкліканая тым, што аб'ём камерцыйных паездак мікрааўтобусаў без дазволу настолькі вырас, што ўжо перашкаджае нармальнаму руху афіцыйнага маршрутнага транспарту.

*НЕЗАКРЫТАЯ ТЭМА*

# ДВОЙЧЫ ПАМЫЛЯЦЦА НЕЛЬГА

**Як вядома ўжо, Прэзідэнт Беларусі выдаў Дэкрэт «Аб мерах па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных з вылічэннем падаходнага падатку з фізічных асоб зыходзячы з іх сукупнага гадавога даходу». Гэты дэкрэт нарэшце паставіў апошнюю кропку ў спрэчках адносна сукупнага гадавога даходу і падатках з яго, якія ўзрушылі значную частку грамадства — ён вяртае ўсё на законную аснову. Разам з тым сама праблема справядлівага падаткаабкладання, г. зн. налічэння падаткаў зыходзячы з сукупнага гадавога даходу і прадстаўлення грамадзянамі дэкларацый, — застаецца. У тым жа дэкрэце Савету Міністраў даручана канкрэтна вызначыць сам састаў сукупнага гадавога даходу і шкалу падатковых ставак, уніфікаваную з расійскім заканадаўствам. У сувязі з гэтым варта яшчэ раз нагадаць пра адпаведную міжнародную практыку, а таксама пра іншыя моманты, якія, думаецца, павінны быць улічаны ўжо ў канчатковым выніку нашымі заканадаўцамі.**

Падаткаабкладанне па сукупнаму гадавому даходу — гэта ўвогуле нармальная практыка, якая даўно і паспяхова прымяняецца ў многіх краінах свету. Прычым варта таксама ўдакладніць, што ў краінах Заходняй Еўропы, ЗША, Японіі сукупны даход, як правіла, не супадае з падаткаабкладаемым. Апошні меншы за першы на суму ўстаноўленых законам ільгот (прафесійныя расходы, сямейныя скідкі, медыцынскія расходы). У ФРГ, напрыклад, пры вызначэнні падаткаабкладаемага даходу прымяняецца шэраг вылічэнняў, звязаных з вытворчай дзейнасцю і ўтрыманнем сям'і, у Францыі пры яго вызначэнні адымаюцца расходы, звязаныя з дапамогай старым бацькам і расходы на дабрачынныя мэты, а пасля разліку даходу ён можа быць скарочаны яшчэ на 25 працэнтаў ад сумы затрат, звязаных з утрыманнем дзяцей ў дзіцячых дашкольных установах, уплатай працэнтаў за крэдыт, страхаваннем жыцця, купляй акцый. Стаўкі падаходнага падатку ў вышэйпамянёных краінах у асноўным з'яўляюцца прагрэсіўнымі, прычым прымяняецца прынцып складанай прагрэсіі. У апошнія гады назіралася рэзкае зніжэнне ставак і выявілася тэндэнцыя да больш прапарцыянальнага абкладання. Неабходна таксама ўспомніць асноўны прынцып, на якім грунтуецца падаходнае падаткаабкладанне заходнееўрапейскіх краін — фарміраванне дастатковай пакупной здольнасці грамадзян. У большасці краін з развітой рыначнай эканомікай неабкладаемы мінімум перавышае 20 працэнтаў у адносінах да сярэдніх даходаў насельніцтва. Прычым расходы на прадукты харчавання там складаюць прыкладна такую ж долю ад даходаў — 20 працэнтаў. У Беларусі неабкладаемы мінімум роўны прыкладна 8 працэнтам ў адносінах да сярэдніх даходаў насельніцтва. А на прадукты харчавання большасць насельніцтва траціць звыш 70 працэнтаў гэтых даходаў. Розніца адчувальная.

Увогуле, забіранне каля паловы даходаў па-рознаму адаб'ецца на матэрыяльным становішчы, напрыклад, грамадзяніна адной з краін Заходняй Еўропы і нашага суайчынніка. У дадзенай сітуацыі заходнееўрапеец замест куплі раскошнага аўтамабіля абмяжуецца мадэллю больш сціплай, а для адпачынку выбера больш танны тур. А наш звычайны грамадзянін нават думаць не можа ні пра адпачынак за мяжой, ні пра аўто, будучы вымушаным падзарабляць на трох работах толькі для таго, каб абуць і накарміць сям'ю. Адбіранне ў выглядзе падаткаў паловы заробленага азначае для яго кансервацыю беднасці, у якой жыве значная частка нашага насельніцтва.

У першую чаргу нашы падаткаплацельшчыкі маюць патрэбу ў разумнай шкале падаткаабкладання. Так, стаўкі падаткаў для грамадзян у Беларусі і ў Расіі, з якой у нас заключаны эканамічны саюз і ўзяты абавязацельствы па уніфікацыі сістэмы падаткаў, істотна адрозніваюцца. У Беларусі пры даходах да 666 долараў у год стаўка падаходнага падатку складае 9 працэнтаў. У Расіі мінімальная стаўка — 12 працэнтаў прымяняецца пры гадавым даходзе ад 1963 да 3280 долараў. У нас 12 працэнтаў збіраецца з даходу ад 666 да 1000 долараў. У Беларусі максімальная стаўка падаходнага падаткаабкладання 50 працэнтаў, і пад яе трапляюць людзі з вельмі ўмеранымі даходамі (4,7 тысячы долараў у год, ці 388 долараў у месяц). У Расіі максімальная стаўка ўсяго 35 працэнтаў, і збіраецца яна з даходаў вышэй за 16,4 тысячы долараў у год, або 1364 долары ў месяц. (Разлікі зроблены зыходзячы з рыначнага курсу долара на 4.03.98 г.)

Інакш кажучы, у нас стаўкі падаткаабкладання ў некалькі разоў больш жорсткія, чым у Расіі. Але паколькі Беларусь у саюзе з Расіяй, то ў абедзвюх дзяржавах павінны быць прыкладна аднолькавыя стаўкі падаткаабкладання. Неабходна ўлічыць і той фактар, што ў цэлым расіяне больш зарабляюць, чым беларусы. Пераважная большасць насельніцтва Беларусі па ўзроўню даходаў знаходзіцца ля рысы беднасці. Нават тыя грамадзяне, каго ў нас спрабуюць аднесці да сярэдняга класа, фактычна з'яўляюцца сярэдняй групай сярод нізкааплатных слаёў насельніцтва, ініцыятыву якіх «глушаць» высокімі падатковымі стаўкамі ў выпадку, калі яны спрабуюць неяк выкараскацца з беднасці. Колькасць багатых людзей, здольных плаціць падаткі па высокіх стаўках, адносна невялікая. Гэта перш за ўсё тыя, хто звязаны з замежнымі краінамі ці сыравінным бізнесам. Аднак усе іхнія даходы, якія перавышаюць сацыяльна прымальны для Беларусі ўзровень, у абсалютнай большасці застаюцца за мяжой ці даволі проста канверсуюцца і выдаюцца няўлічанымі валютнымі сродкамі. Нягледзячы на любыя прымаемыя ў гэтым напрамку меры, змяніць сітуацыю нельга да таго часу, пакуль падатковая палітыка не будзе дазваляць людзям жыць больш-менш прыстойна.

Цяпер рыхтуюцца адпаведныя рашэнні па ўсіх гэтых пытаннях. Тым людзям, якія адказныя за гэтыя рашэнні, трэба яшчэ і яшчэ раз вельмі ўважліва вывучыць практыку падаткаабкладання, зыходзячы з сукупнага гадавога даходу, у суседзяў, у іншых краінах — з тым, каб улічыць літаральна ўсё. Двойчы памыляцца ніяк нельга.

**Наталля БУРНАЕВА,**
**юрыст.**

# АБ'ЕКТЫЎ

## «ДЫРОЛ» ХВАРЭЕ НЕ ТОЛЬКІ ЗА БІЗНЕС У БЕЛАРУСІ, АЛЕ І ЗА ЧЫСЦІНЮ НАШЫХ ЗУБОЎ

Як ніколі, сёння кожнаму з нас, у тым ліку і звычайным чытачам, надакучыла рэклама памперсаў, «педзі грыпалаў», зубных паст. Але ж да ўсяго чалавек прывыкае. Дарэчы, да апошніх самую прамую сувязь мае жавальная гумка. Менавіта аб адной з яе разнавіднасцей, жвачцы «Дырол» (з класа «Stimorol») ўчора ішла размова ў Нацыянальным прэс-цэнтры, дзе кіраўнікі вядомай дацкай кампаніі «Дэндзі», у склад якой і ўваходзіць «Дырол», арганізавалі прэс-канферэнцыю для беларускіх журналістаў. На сустрэчы з прадстаўнікамі айчынных СМІ замежныя госці высвятлялі якасныя паказчыкі новага «Дырола-Эфект».

Па словах генеральнага дырэктара кампаніі «Стымарал-Беларусь» Томаса Томсена навінка сезона — «Дырол-Эфект» цяпер абараняе зубы на 85 працэнтаў лепш за папярэднія «Дырол». Асноўныя довады спадара Томсена заключаны ў тым, што новая жавальная гумка «Дырол-Эфект» без цукру ўтрымлівае на 50 працэнтаў болей актыўнага інгрыдыента карбаміда.

Агульны дэвіз учарашняй сустрэчы можна было б сфармуляваць так: «Дырол-Эфект» з ксілітам і карбамідам абараняе вашы зубы з раніцы да вечара.

Адным з аргументаў таго, што новая жавальная гумка з'яўляецца прагрэсіўнай тэхналогіяй, стаў той факт, што сёлета, у лютым, кампанія «Стымарал-Беларусь» ад Мінаховы здароўя РБ атрымала паведамленне, што «Дырол» — адзіная жавальная гумка, якая ўтрымлівае карбамід».

Для інфармацыі: «Дырол» з пераменным поспехам працуе на беларускім рынку ўжо пяты год. Сёлета ж кампанія паспрабуе зрабіць асаблівы рэкламны набег на рэспубліку. Мы ўбачым гэтую рэкламу на шчытах, на транспарце (таксі, трамвай, тралейбус, аўтобус, метро), па тэлебачанні, у газетах і пачуем па радыё.

Так што, трымайцеся, людзі. Да нас яшчэ з большай сілай стукаецца «Дырол».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## БАРЫСАЎСКІЯ МЭБЕЛЬШЧЫКІ ПРАПАНУЮЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У хуткім часе мэбельшчыкі рэспублікі атрымаюць з Барысава новы і вельмі перспектыўны матэрыял, прызначаны для вонкавай аддзелкі мэблі, які ўжо даўно выкарыстоўваецца мэбельшчыкамі заходнееўрапейскіх краін. Гэта так званая пліта постформінг, для выпуску якой манціруецца абсталяванне ў акцыянерным таварыстве «Барысаўскі дрэваапрацоўчы камбінат», ці дакладней — на арандуемых тут вытворчых плошчах.

Арандатарам з'яўляецца нядаўна створанае сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства, абсталяванне пастаўлена польскім партнёрам.

Калектыў Барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната, які ўпэўнена выйшаў з крызісу мінулых гадоў і мае перспектыўныя распрацоўкі па выпуску мэблі і спецыяльных новых матэрыялаў для яе вырабу, зацікаўлены ў інвестыцыях і, адпаведна, — дзелавым партнёрстве, якое пайшло б на карысць як барысаўчанам, так і магчымаму інвестару.



*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# ДАВАЙЦЕ ЎДАКЛАДНІМ

Пытанне, ці мае Беларусь плутоній для вырабу ядзернай бомбы, апошнім часам узнімаецца ў розных сродках масавай інфармацыі. «Звязда» 28 лютага змясціла інтэрв'ю з Васілём Несцярэнкам, былым дырэктарам інстытута ядзернай энергетыкі, пад назвай «Заблудзіліся ў трох «ядзерных соснах». У гэтым інтэрв'ю гаворыцца: «І вось цяпер вакол гэтых пытанняў з'явілася шмат некампетэнтных разважанняў, публікацыі ў газеце «Народная воля», некаторых іншых. Асноўным аўтарам тут, заўважу, выступае Васіль Ермашкевіч». І далей: «Як можна сцвярджаць, што уран з 45-працэнтным узроўнем абагачэння магчыма выкарыстоўваць для стварэння ядзернай зброі?»

Пазнаёміўшыся з маімі публікацыямі ў газетах «Народная воля» за 20 лютага — «Беларусь ніколі і нікому не пагражала», і «Вячэрнім Мінску» за 24 лютага — «Ці хаваюць у Соснах 660 атамных бомбаў?», чытач можа пераканацца сам, што я нідзе не сцвярджаў, быццам уран з 45-працэнтным узроўнем абагачэння можна выкарыстоўваць для стварэння ядзернай зброі. Гэта сапраўды бязглуздзіца.

Ва ўказаных публікацыях адзначаецца, што атамная бомба можа быць выраблена са зброевага плутонію, які ўтрымлівае больш за 90 працэнтаў ізатопу плутонію-239 і, у крайнім выпадку, з энергетычнага плутонію, які ўтрымлівае 60 працэнтаў ізатопу плутонію-239, якія неабходна атрымаць з дапамогай спецыяльных тэхналагічных працэсаў. Беларусь не мае і не мела ні такога плутонію, ні спецыялістаў, ні тэхналогій.

Што датычыцца паліва перасовачнай станцыі «Памір» з 45-працэнтным узроўнем абагачэння па ізатопу урану-235, дык я пісаў наступнае: «Загрузка паліва ў рэактар па урану-235 складала ўсяго 18,3 кілаграма. Тэхналогія перапрацоўкі выкарыстоўваемага «двухматрычнага» паліва адсутнічае не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, адкуль яно пастаўлена для выпрабаванняў.

І нават калі б і існавала тэхналогія перапрацоўкі такога паліва, дык перапрацоўваць яго для атрымання мізэрнай колькасці плутонію-239 і урану-235 няма сэнсу. Адсюль выйсце адно — дабіцца адпраўкі 110 штук ТВС, якія захоўваюцца ў спецыяльным басейне ўжо каля 10 гадоў, у Расію, а не захоўваць іх усе 300 гадоў».

Для даведкі: я з'яўляюся доктарам тэхнічных навук па спецыяльнасцях «Ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі» і «Цеплавыя рухавікі лятальных апаратаў». Абараніўся ў МВТВ імя Баўмана, з 1977 па 1990 г. працаваў на пасадзе нам. дырэктара інстытута ядзернай энергетыкі, дзе курыраваў работы, праводзімыя на рэактары, у аддзеле ядзернага матэрыялазнаўства, а таксама выраб перасовачнай АЭС «Памір».

**Васіль ЕРМАШКЕВІЧ,**
**доктар тэхнічных навук.**

## МАГЧЫМА, ШТО З «ЗОРАЧАК» ВЫРАСТУЦЬ «ЗОРКІ»

У мінскім Палацы спорту пачаліся рэспубліканскія фінальныя спаборніцтвы сярод дзяцей і падлеткаў па хакею «Залатая шайба» на прызы прэзідэнта Беларусі.

І ўдвая радасна, што турнір, які пасля развалу СССР «адкінуў канькі», сёння ізноў аднавіўся. Нельга пакуль прагназіраваць, хто ж стане пераможцам, а хто праглыне слёзы няўдачнікаў, аднак дакладна вядома іншае — прайграўшых тут не будзе.

Дарэчы, пройдуць спаборніцтвы аж да 28 сакавіка, таму пры жаданні кожны можа проста прыйсці і паназіраць, магчыма, за будучымі «зоркамі» беларускага хакея.

**Саша ПОПЕЛЬНЫ.**

## АДУКАЦЫЯ ЗА МЯЖОЙ

Беларускі камітэт Каледжаў міжнароднай супольнасці (United World Colleges) аб'яўляе конкурс на паступленне ў Адрыятычны міжнародны каледж у Італіі, у Міжнародны Паўночны Каледж Чырвонага Крыжа ў Нарвегіі (100 працэнтаў за кошт каледжаў), у Міжнародны каледж Уотэрфорд Камхлаба (Паўднёвая Афрыка), у Міжнародны каледж Сімона Балівара (Венесуэла) (50 працэнтаў за кошт каледжаў). Больш грунтоўную інфармацыю можна атрымаць па адрасу: г. Мінск, вул. Кірава, 21, пакой № 21, тэлефон 2-27-04-67.

Тэрмін навучання ў каледжах — 2 гады. Студэнты маюць права выбіраць накірунак навучання.

Абітурыенты мусяць мець поўных 16 гадоў на 1 верасня 1998 г.

Міжнародны каледж Сімона Балівара (Венесуэла) дае вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю (кіраванне сельскай гаспадаркай, фермерскі менеджмент), таму ўзрост абітурыентаў у гэты каледж — 18—22 гады.

Конкурс адбываецца ў два туры. Першы тур — завочны. Абітурыенты павінны да 15 красавіка 1998 г. даслаць у адборачную камісію па адрасу: г. Мінск, 220050, вул. Кірава, 21, пакой № 21 наступныя дакументы:

1. Заяву на ўдзел у конкурсе з указаннем свайго адраса, а таксама адраса, тэлефона і нумара сваёй школы;

2. Эсэ на беларускай і англійскай мовах на тэму «Беларусь у еўрапейскім доме», аб'ёмам 6—7 старонак вучнёўскага сшытка.

Тыя, хто пройдуць завочны адборачны тур, будуць запрошаны на сумоўе, якое адбудзецца 25 красавіка 1998 г. Падчас сумоўя будзе выяўляцца ўзровень ведаў абітурыентаў па гісторыі Беларусі, беларускай мове і літаратуры, англійскай мове, сусветнай гісторыі і культуры.

Да сумоўя абітурыенты мусяць падаць у адборачную камісію:

1. Копію пасведчання аб нараджэнні;
2. Даведку аб стане здароўя;
3. Копію ведамасці аб паспяховасці за 1997/98 навучальны год.

Апроч таго, камісіі могуць быць прадстаўлены граматы, дыпломы і іншая інфармацыя, якая сведчыць пра творчую і спартыўную дзейнасць абітурыента.

Камітэт шукае спонсараў для аплаты 50 працэнтаў кошту навучання ў каледжах Паўднёвай Афрыкі і Венесуэлы.

Беларускі камітэт Каледжаў міжнароднай супольнасці




# ЭКАЛОГІЯ - ЧАЛАВЕК

СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

26 сакавіка 1998 года — № 1 (13)


АКТУАЛЬНА

## ПЛАНЫ, ПАМЫЛКІ Ў ЯКІХ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЦА

**ЗАКОН «АБ ЭКАЛАГІЧНАЙ ЭКСПЕРТЫЗЕ», ПРАКТЫКА ЯГО ПРЫМЯНЕННЯ ТЫМ ЦІ ІНШЫМ ЧЫНАМ УПЛЫВАЮЦЬ НА ІНТАРЭСЫ ЎСІХ ЖЫХАРОЎ КРАІНЫ**

*На пытанні журналіста адказвае начальнік спецыялізаванай інспекцыі па дзяржаўнай экалагічнай экспертызе праектаў Мінпрыроды Валерый ГАНЧАРОЎ.*

**— Якія шалёныя грошы патрэбны, каб пабудаваць дом, ведаюць многія. Нездарма ж нарадзіўся выраз: сёння будуецца толькі дзівак ці мільянер. Пры такім кошце будаўніцтва каласальна ўзрастае роля кваліфікавана падрыхтаванага праекта — з абавязковай умовай праходжання экалагічнай экспертызы. Тэарэтычна гэта сёння ведаюць быццам бы ўсе. А што, Валерый Васільевіч, паказвае практыка?**

— Адразу ўнясу папраўку: гэта разумеюць амаль усе.

Калі мы ўгледзімся ў дынаміку праходжання праектна-каштарыснай дакументацыі праз дзяржаўную экалагічную экспертызу па ўсёй Беларусі, то ўбачым наступную карціну: агульная колькасць праектаў, якія прадстаўляюцца на разгляд, вагаецца ў межах 4000—4600 і па гадах апошнім часам істотна не адрозніваецца. Так што нельга сказаць, што колькасць будуемых аб'ектаў значна зменшылася. Іншая справа, што цяпер самі аб'екты сталі меншыя па аб'ёмах, асаблівых будоўляў-гігантаў сёння няма.

Сказаць адразу, колькі праектаў ажыццяўляецца ў натуры без праходжання экалагічнай экспертызы, зразумела, немагчыма. Але дзякуючы нашым абласным і раённым прыродаахоўным службам такія будоўлі ў выніку ўсё роўна выяўляюцца, вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці. Летась было выяўлена 37 будуемых аб'ектаў, якія ўзводзіліся па дакументацыі без экалагічнай экспертызы, — па сутнасці незаконна. Па ўсіх такіх выпадках прыняты канкрэтныя жорсткія меры. Хаця тут мы бачым, што працэнт такіх будоўляў у адносінах да колькасці «правільных» аб'ектаў зусім невялікі.

**— Аднак і ён паказвае: ёсць яшчэ, аказваецца, нейкія «флібусцьеры-браканьеры», якія смела ідуць на парушэнне заканадаўства, не баючыся нават, што ў выніку могуць страціць укладзеныя ў будаўніцтва грошы. Дык хто гэтыя людзі?**

— У асноўным «новыя беларусы», г. зн. прадпрымальнікі-бізнесмены, якія будуюць сабе невялікія аб'екты тыпу аўтазаправачных станцый. У большасці мы тут маем справу з элементарным няведаннем патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства. Аднак, як вядома, няведанне закона не вызваляе ад адказнасці за яго парушэнне.

**— Тым не менш, па маіх асабістых назіраннях, ёсць нямала сітуацый, калі мясцовым прыродаахоўным службам прыходзіцца ўступаць па падобных прычынах у канфлікты і з дзяржаўнымі прадпрыемствамі.**

— Калі глянуць шырэй, то я сказаў бы, што ў Беларусі наогул існуе шэраг праблем, якія ўскладняюць сітуацыю. Вазьміце, напрыклад, такую з'яву, як развіццё любога горада. Гэта вельмі складаны працэс, у якім пераплятаюцца сацыяльна-эканамічныя падыходы, горадабудаўнічая палітыка, экалагічныя праблемы, многае іншае. Як правіла, усе гэтыя шматлікія пытанні ўвязваюцца на стадыі распрацоўкі генеральнага плана горада.

На жаль, узнік непрыемны «момант»: генеральныя планы многіх гарадоў, распрацаваныя раней, сёння патрабуюць перапрацоўкі, бо ўстарэлі. А некаторыя гарады нармальных генпланаў наогул не мелі. У прыватнасці, па Гомельскай вобласці патрабуюць карэкціроўкі генпланы такіх гарадоў, як Мазыр, Добруш, Хойнікі ды і сам Гомель.

Не ўсе чытачы ведаюць, таму скажу: менавіта генеральны план вызначае ўсю палітыку далейшага развіцця горада. Аднак многія генпланы, якія распрацоўваліся яшчэ да 1996 года, на экалагічную экспертызу нам не прадстаўляліся.

**— Я бачу, што размова ідзе ўжо не пра «някемлівых прадпрымальнікаў», а пра цэлыя праектныя калектывы, дыпламаваных спецыялістаў, уплывовых кіраўнікоў. Яны ж у гэтых справах, як гаворыцца, сабаку з'елі, ведаюць усе нормы і правілы — і яны ж дэманструюць грэбаванне патрабаваннямі прыродаахоўнага заканадаўства. У галаве не ўкладваецца.**

— Але ў чымсьці гэта менавіта так. Такія, з дазволу сказаць, падыходы мы назіралі, у прыватнасці, у адносінах да генпланаў гарадоў Рэчыцы, Веткі, Буда-Кашалёва. І толькі тады, калі мы падобныя факты выяўлялі, выстаўлялі пэўныя патрабаванні, становішча пачынала мяняцца.

Праўда, апошнім часам мы змаглі ўвогуле прывесці ўсю гэтую справу ў норму. Аднак і сёння здараюцца такія выпадкі, калі пры складанні генпланаў гарадоў патрабаванні аховы навакольнага асяроддзя ў поўнай меры не ўлічваюцца. Мы, зразумела, такую «сырую» дакументацыю вяртаем на дапрацоўку, стараемся сумесна з выканаўцамі знаходзіць узаемапрымальныя рашэнні.

Вядома ж, можна зразумець усе цяжкасці распрацоўшчыкаў, але нават пры ўсёй складанасці эканамічнай сітуацыі пытанні прыродаахoвы, экалогіі трэба вырашаць вельмі дакладна, бо памылкі ў гэтай сферы, закладзеныя на стадыі праектавання цэлых гарадоў, іх развіцця, цалкам могуць прывесці ў будучым да велізарных эканамічных страт.

**— Можна ўявіць, што можа быць пры непрафесіянальнай распрацоўцы якога-небудзь гарадскога генплана, калі няправільна выберуць накірунак развіцця горада, не ўлічаць мясцовых прыродных умоў, а «пляму» размяшчэння, скажам, тых жа ачышчальных збудаванняў укажуць не там, дзе трэба, ці не закладуць у чарцяжах магчымасці перспектыўнага іх пашырэння.**

**Як вы, Валерый Васільевіч, лічыце, ці маюць падставы падобныя апасенні?**

— Праблема з існуючымі ачышчальнымі збудаваннямі ў многіх гарадах Беларусі агульнавядомая, і я дэталёва ўдавацца ў яе пакуль не буду.

Калі ж у генплане будуць улічаны не ўсе экалагічныя параметры, будзе дадзены няправільны прагноз развіцця горада, колькасці насельніцтва, роста прамысловасці і г. д., то, натуральна, будуць памылкова закладзены і магутнасці тых жа ачышчальных збудаванняў, якія падбяруць пад гэты недакладны прагноз.

У рэальным жыцці гэтыя ачышчальныя збудаванні ў будучым могуць аказацца ці недагружанымі (такія прыклады мы ўжо маем), ці моцна перагружанымі (такіх фактаў яшчэ больш) — усё таму, што з'явіліся «непрадугледжаныя» раней прадпрыемствы, жылыя мікрараёны. І гэта датычыцца не толькі ачышчальных збудаванняў, але і вода-, і цеплазабеспячэння, іншых інфраструктур і камунікацый. Г. зн. усяго таго, што неабходна гораду і чалавеку.

Таму і хацелася б, каб дапамогай для прыняцця тых ці іншых рашэнняў у нас у Беларусі былі дакладныя генпланы гарадоў, у якіх адлюстроўваўся б рэальны прагноз іх развіцця, былі б дакладныя схемы развіцця прамысловых вузлоў, сацыяльных і іншых зон.

**Пытанні задаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

НОВАЯ РУБРЫКА

## БЛАКІТНАЯ ПЛАНЕТА ЗЯМЛЯ — НАШ АГУЛЬНЫ ДОМ



***Калісьці заснавальнік «новых», сучасных Алімпійскіх гульняў П'ер дэ Кубертэн усклікнуў: «О спорт! Ты — мір!» Сапраўды, міжнародныя спартыўныя сустрэчы аб'ядноўваюць і людзей, і нацыі. Але чаму мы дагэтуль не можам сказаць тое ж самае ў адносінах да агульных для ўсіх людзей і народаў Зямлі планетарных праблем экалогіі? Праблем, па сутнасці, выжывання чалавека як віду і наогул усяго жывога?***

***Задумаемся над сэнсам змешчанага малюнка. Ён далёка не дзіцячы, ён поўны велізарных філасофскіх і практычных пытанняў. Калі чалавек і далей будзе працягваць сваю цяперашнюю, далёка не мудрую, «цывілізатарскую» дзейнасць, калі ён тым самым давядзе сябе да смяротнай катастрофы, то хто яму дапаможа? Чалавецтва разам са сваёй калыскай і маці-Зямлёй пакуль адзіныя сярод халодных зорак і раўнадушнага Космасу.***

***Што рабіць? Як выжываць? Як упарадкаваць свой экалагічны дом — навакольнае асяроддзе? На гэтыя пытанні ў публікацыях пад новай рубрыкай будуць спрабаваць даць адказы спецыялісты, вучоныя, эколагі-практыкі, якія валодаюць пэўнымі ведамі і, як уяўляецца, нейкімі «рэцэптамі». Хай сабе і прыблізнага плану.***

***Вось што думае акадэмік-сакратар аддзялення хімічных і геалагічных навук, ганаровы дырэктар Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі НАН Беларусі, акадэмік Іван ЛІШТВАН:***

— Угледзеўся я ў гэты малюнак. Задумаўся. Асацыяцый шмат. Адна з іх — адзіноцтва ў Сусвеце і Космасе нашай маленькай Зямлі. Магчыма, дзесьці ў далёкіх галактыках і ёсць у нас браты па розуму, але з бліжэйшых сузор'яў сігналаў пакуль няма. Так што пры сучасным узроўні нашых ведаў мы павінны пакуль лічыць сябе адзінокімі ў бязмежнай прасторы Сусвету, як і наш населены зямны шар.

Тым больш неабходна захаваць гэты унікальны эксперымент Сусвету і прыроды — нашу жывую Зямлю і ўсё, што на ёй, каб гэта бясслаўна і бессэнсоўна не знікла, бо адначасова знікнем і ўсе мы.

Аднак сёння мы ўсе разам творым на нашай грэшнай Зямлі іншыя «эксперыменты». Ужо цяпер чалавечая цывілізацыя ўступіла ў супярэчнасць з магчымасцямі прыроды. Многія спецыялісты лічаць: таго, што можа сёння стварыць прырода, напрыклад, з пункту гледжання хоць бы той жа біяразнастайнасці, будзе дастаткова, каб пракарміць толькі 2,5 мільярда чалавек. Насельніцтва ж Зямлі, як вядома, колькасна набліжаецца ўжо да «адзнакі» 5 мільярдаў, хутка прагназіруецца 7 мільярдаў чалавек. Што далей?

Даволі часта я паглядаю на плакат увогуле жахлівага зместу, што таксама прымушае мяне моцна думаць. На ім намаляваны чалавек, які сядзіць у глыбокай экалагічнай яме са стромымі сценкамі. З-за ўздзеяння тэхнасферы ў гэтай істоты і аблічча ўжо не зусім чалавечае — нейкі мутант. Ён лезе з ямы ўверх, але ніяк не можа выкараскацца. А наверсе, удалечы — цудоўны свет, да якога чалавецтва, адлюстраванае ў выглядзе гэтай недарэчнай пачвары, ніяк не можа дацягнуцца. Сэнс такі: усе мы знаходзімся цяпер у такім стане ў адносінах да прыроды, што вяртання назад няма (прынамсі ў тым, што датычыцца многіх усеагульных экалагічных праблем).

А хутка ж можа наступіць і такі перыяд, калі ўсе працэсы ў біясферы набудуць незваротны характар. А гэта ўжо катастрофа, і хто нам збоку дапаможа нешта паправіць?

Прывяду ўсім зразумелы прыклад — дэмаграфічную сітуацыю, якая склалася сёння ў Беларусі. Калі ў нас не прымуць пэўных радыкальных мераў (думаю, што гэта будзе неабходна і Расійскай Федэрацыі, Украіне, іншым краінам — былым саюзным рэспублікам) па карэннаму аздараўленню чалавека, стварэнню экалагічна бяспечных умоў для яго жыцця, якаснага асяроддзя пражывання, то з той самай ямы, якую я ўжо абмаляваў, мы можам і не вылезці. Дастаткова сказаць, што ў нашай краіне колькасць жыхароў штогод скарачаецца на 30 тысяч чалавек.

Выкажу і небясспрэчную, магчыма, думку, але нейкую падставу, упэўнены, яна ўвогуле мае. Гэты самы «дзіцячы» малюнак нараджае ў мяне яшчэ і роздум аб тым, што многія ўсеагульныя праблемы экалогіі неабходна вырашаць на глабальным, планетарным узроўні, а не з пазіцый, скажам, асобна ўзятай дзяржавы.

Цудоўна будзе, калі мы створым у сваёй краіне, напрыклад, нейкую звышбяспечную ў экалагічным плане тэхналогію і тым самым нешта палепшым у вытворчасці. Што далей? Не трэба забываць, што існуюць трансгранічныя пераносы шкодных рэчываў і кампанентаў, а ёсць і такія феномены нашага часу, як глабальныя праблемы клімату, яго пацяплення, праблемы Сусветнага акіяна. Хто ж можа ў адзіноце з усімі гэтымі наступствамі змагацца — неабходна, каб рацыянальна працавалі адпаведныя сусветныя праграмы.

Як у гэтай сувязі не ўспомніць 1992 год і Канферэнцыю ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю ў Рыо-дэ-Жанейра, дзе быў прыняты «Парадак дня на XXI стагоддзе», які з'яўляецца стратэгіяй сусветнага супольніцтва на будучыню. Стратэгія прадугледжвае гарманічнае дасягненне асноўных мэтаў — захавання навакольнага асяроддзя і здаровай эканомікі для ўсіх народаў свету. На гэтай аснове цяпер ці не ва ўсіх краінах вырашаюць праблему ўстойлівага развіцця з улікам экалагічнай сітуацыі і сацыяльна-эканамічных працэсаў.

Ці дастатковыя міжнародныя і ўсякія іншыя дэкларацыі? Відавочна ж, што вельмі часта палітычныя пытанні ставяцца куды вышэй, чым надзённыя праблемы сацыяльнага развіцця, экалагічнай абароны чалавека. Усё гэта, лічу, — рэшткі былога мыслення, калі чалавецтва было раздзелена. Ці трэба яшчэ раз даказваць, што ўсім нам неабходна часцей збірацца ў нейкім планетарным «экалагічным урадзе», каб не толькі абмяркоўваць глабальныя экалагічныя праблемы, але і ўплываць на іх канкрэтнае вырашэнне.

А як інакш? У выніку развіцця эканомікі і прамысловасці адбываецца, напрыклад, інтэнсіўны выкід у атмасферу вуглякіслага газу. Шкодна гэта ці не? Адны кажуць, што ад гэтага на Зямлі ўзнікае шкодны «парніковы эфект». А іншыя — што такога эфекту можа і не быць. Дзе ж ісціна? А знайсці яе, дагаварыцца аб нечым канкрэтным толькі і можна, што на міжнародных сустрэчах вучоных і іншых спецыялістаў з розных галін дзейнасці ўсяго свету. Напомню, што дагаварыліся ж, нарэшце, на міжнародным узроўні і распрацавалі адпаведную канцэпцыю па непрымяненню азонаразбуральных рэчываў. І многія краіны цяпер выконваюць яе палажэнні, у тым ліку і наша Беларусь.

Успамінаю аднаго з найвялікшых вучоных нашага стагоддзя — Уладзіміра Іванавіча Вярнадскага. Адзін з пастулатаў яго вучэння аб сферы розуму: усё павінна быць разумна і за ўсё трэба плаціць. Гэта, як усё геніяльнае, «вельмі проста». Трэба дадумацца і да таго, што калі мы не пачнём ствараць на нашай Зямлі сферу розуму, плаціць за сваё існаванне на пакуль яшчэ канчаткова незагубленай планеце ўзмоцненай экалагічна разумовай інтэлектуальнай працай, то ў іншым выпадку ці не заплацім мы знікненнем чалавека як віду з абшараў планеты? Як тады яна будзе выглядаць з глыбінь Космасу?

**Выказванні вучонага запісаў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## УЗБРОЕНЫЯ ПРАВАКАЦЫІ — СІМПТОМ НЕБЯСПЕЧНЫ

**ДЗЯРЖАЎНЫМ ІНСПЕКТАРАМ, ЯКІЯ СУМЛЕННА СТАЯЦЬ НА ВАРЦЕ ЗАХАВАННЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ БАГАЦЦЯЎ, СЁННЯ ДАСТАЮЦЦА НЕ ТОЛЬКІ СЛАВУТЫЯ СІНЯКІ І ШЫШКІ — ПАЧАСЦІЛІСЯ ПРАМЫЯ ЗАМАХІ НА ІХ ЖЫЦЦЁ. ЯК ЖА АБАРАНЯЮЦЬ ІХ ГОДНАСЦЬ І ІНТАРЭСЫ ТАЯ Ж ДЗЯРЖАВА І СУДЫ?**

*Тая гісторыя, пра якую «Звязда» расказала ў папярэднім спецвыпуску «Экалогія — чалавек» ад 28 лістапада 1997 года ў публікацыі пад загалоўкам «Дзяржаўны інспектар — пад дулам аўтамата», безумоўна, будзе мець нейкі працяг. Толькі які?*

*Увогуле гэты дзікі факт, ды і многія іншыя, высвятляе сур'ёзную праблему, якая спакваля насунулася на грамадства. Таму газета і вырашыла працягнуць размову на ўзнятую тэму і запрасіла да яе начальніка аддзела Камітэта рыбаахoвы Мінпрыроды Міхаіла Емяльянава, начальніка Іўеўскай міжраённай інспекцыі рыбаахoвы Уладзіміра Задарожына і малодшага інспектара гэтай міжраённай інспекцыі Алега Задарожына.*

*Адразу паведамім, што Задарожыны — бацька і сын. Дададзім: такую сямейнасць на вельмі нялёгкай службе можна толькі вітаць. Для зручнасці выкладання будзем іх называць «Задарожын-старэйшы» і «Задарожын-малодшы».*

**(Гл. 2-ю стар. спецвыпуску.)**

# УЗБРОЕНЫЯ ПРАВАКАЦЫІ — СІМПТОМ НЕБЯСПЕЧНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**ЗАДАРОЖЫН-старэйшы:** — Як дастаецца нам наша служба? Прывяду найпрасцейшы прыклад. Іўеўская інспекцыя абслугоўвае пяць раёнаў. Напярэдадні мінулага Новага года наша рэйдавая брыгада затрымала ў Воранаўскім раёне адразу пяцярых браканьераў — яны разбіралі тушу забітага дзіка. Ліцэнзіі на адстрэл у іх не было — а гэта грубае парушэнне закона. Мы адабралі ў іх пяць стрэльбаў, мяса дзіка і склалі адпаведны пратакол.

Потым браканьеры заявілі: «Мы дзіка не забівалі!»

А між тым быў і сабачы гон, былі тры стрэлы — ішло сапраўднае паляванне. І засталі браканьераў вядома за якой справай.

Усе дакументы мы накіравалі ў суд Воранаўскага раёна, але яго пасяджэнне было адкладзена. Сімптаматычна...

**Міхаіл ЕМЯЛЬЯНАЎ:** — А як суды караюць злосных браканьераў і адначасова забойцаў? Напомню справу двух такіх крымінальных тыпаў.

Інспектар Барысаўскай міжраённай інспекцыі рыбаахоўы і два грамадскія інспектары затрымалі ў гэтым раёне двух парушальнікаў, склалі на іх пратакол, пасля чаго адпусцілі. Калі рэйдавая брыгада ўладкоўвалася на ноч, гэтыя двое злодзеяў за імі сачылі. Потым напалі на сонных інспектараў, аглушылі, звязалі жалезным дротам і збілі палкамі і іншымі «прыладамі». Адзін з грамадскіх інспектараў здолеў вырвацца і выратавацца, а вось двое нашых таварышаў ад пабояў памерлі.

Суд, зразумела, прызнаў забойцаў вінаватымі. Але ж якое вызначыў ім пакаранне? Смех, і вельмі горкі смех: кожнаму адмерыў ажно... па пяць гадоў! Нягледзячы нават, што адзін з забойцаў да гэтага ўжо меў судзімасць. Адседзеўшы крыху больш за палову прызначанага тэрміну, гэтыя паскуднікі атрымалі... датэрміновае вызваленне! І горда разгульваюць па гораду. Ці трэба гаварыць пра пачуцці мае і іншых нашых супрацоўнікаў?

**ЗАДАРОЖЫН-старэйшы:** — У пачатку гэтага года мы рушылі ў чарговы рэйд, угледзелі двух браканьераў, якіх пасля праследавання даганалі. Адзін з іх пры затрыманні павярнуўся і наставіў на нас зараджаную стрэльбу, куркі якой былі ўзведзеныя. Было відаць, што ад гэтага злодзея можна чакаць усяго. Прыйшлося ўпасці на зямлю і даць папераджальную чаргу ўверх з кароткаствольнага аўтамата. Толькі тады злачынца кінуў стрэльбу. Вось якія «звяры» водзяцца ў нашых лясах! І падобныя выпадкі — ледзь не кожны дзень.

Магчыма, вам пакажацца смешным, але матэрыялы гэтай справы мы ў суд не накіроўвалі, браканьеры адкруціліся адміністрацыйным пакараннем. Скажу прама: вельмі цяжка даказваць у судзе злосны намер браканьера, бо, як у прыведзеным выпадку, чалавек з зараджанай стрэльбай толькі накіраваў яе на нас, але не страляў. Такая вось «мілая» трактоўка!

Вось калі дзяржаўны інспектар атрымае кулю ў лоб, тады суддзям усё «будзе зразумела». Да чаго, заўважу, быў вельмі блізкі мой родны сын у той гісторыі з чарнамасачнікамі.

**ЗАДАРОЖЫН-малодшы:** — Увогуле газета правільна апісала ўсё, што тварылі з намі ў тую верасneўскую ноч, калі мы выехалі ў рэйд. Але пра некаторыя «дэталі» хачу бы расказаць дадаткова, бо не забуду іх усё жыццё.

Як паводзілі сябе гэтыя гангстэры-баевікі ў камуфляжным адзенні! Захопнікаў было восем, з іх шасцёра былі ў чорных масках. Як яны, «прыхапіўшы» нас у наручнікі, катавалі, збівалі, здзекаваліся з нас! А потым, нацешыўшыся, дэманстратыўна загналі патроны ў патроннікі пісталетаў, навінчвалі глушыцелі на ствалы, настаўлялі зброю нам у галаву. І прыгаворвалі: «Пара канчаць! З каго пачнём?» Нікому не пажадаю ляжаць звязаным, калі табе ў галаву настаўляюць вялізны пісталет сістэмы Сцечкіна з яго каласальнай убойнай сілай!

І ведалі ж, хто мы такія, — бо чарнамасачнікі адабралі і прагледзелі ўсе нашы дакументы, як адабралі і мой службовы пісталет.

Самае смешнае, што яны быццам бы «шукалі» нейкага «злачынцу з Літвы па прозвішчу Піскуноў. А гэты самы Піскуноў паўгода жыў у нашым горадзе ў гасцініцы, ні ад кога не хаваўся. Кожны другі ў Іўі ўказаў бы на яго, калі б спатрэбілася. Аднак пра гэта чарнамасачнікі ў райаддзеле міліцыі нават не пыталіся, ім было цікавей пацешыцца і «патрэніравацца».

Пасля гэтага катавання ўсе члены нашай рэйдавай брыгады прайшлі медыцынскае абследаванне; я асабіста знаходзіўся на бюлетэні два тыдні.

**ЗАДАРОЖЫН-старэйшы:** — У тую ноч я толькі што прыбыў з чарговага рэйду, моцна стаміўся, адразу — спаць.

Было тры гадзіны ночы, калі работнік Іўеўскага пассавета праз сваё акно ўбачыў, як з шумам і гвалтам гэтыя чарнамасачнікі прама на вуліцы райцэнтра «бралі» членаў другой рэйдавай брыгады рыбаахоўы, здзекаваліся з інспектараў, сярод якіх быў і мой родны сын. Усе яны ўжо тады былі ў крыві. Гэты чалавек адразу ж патэлефанаваў мне дамоў.

Што выратавала мяне асабіста і тых самых нягоднікаў-чарнамасачнікаў? Тое, што я моцна спаў, а тэлефон быў далёка. У мяне ж таксама быў аўтамат, які я не мог здаць позняй ноччу! І што з ім можна было зрабіць, калі бачыш сына, якога збіваюць невядомыя ўзброеныя тыпы з чорнымі маскамі на тварах?

А калі разбуджаныя жыхары датэлефанаваліся б позняй ноччу ў нашу раённую міліцыю і тая ўзялася б за зброю, калі ўбачыла б невядомых «прышэльцаў у масках» за іх «заняткам»? Гэта было б масавае пабоішча, мора крыві! Вось які жах маглі б справакаваць чарнамасачнікі ў камуфляжы сваімі нахабствам і дурасцю! Дык каму дзяржава ўручыла зброю і магчымасць размахваць ёю?

**ЗАДАРОЖЫН-малодшы:** — Калі гэтыя чарнамасачнікі яшчэ раз'язджалі па горадзе, скажам так, «у пошуках Піскунова», раённая міліцыя спыніла іх «ВАЗ-шасцёрку» і мікрааўтобус — на прадмет праверкі дакументаў, пры гэтым міліцыянеры пазналі каго-нікага з тых, хто быў у аўтамабілях без масак.

*Такія злавесныя «прывітанні» атрымлівае па пошце інспектар рыбаахоўы Алег Задарожын.*

Калі нас катавалі, то адзін з нападаўшых з'едліва «прадставіўся» ўчастковаму міліцыянеру, які быў з намі ў рэйдзе: «маёр Бельскі!» Значыць, гэта не крымінальны «аўтарытэт», а ваеннаслужачы нейкай часці? Нічога сабе!

Пасля расправы з нашай рэйдавай брыгадай, калі яны ўжо ад'язджалі на сваю «базу», чарнамасачнікі заявілі ў стылі «крутых» бандытаў: «Калі хто-небудзь даведаецца ад вас пра гэты інцыдэнт, то пацерпіце і ўсе вы самі, і вашы сем'і!» Бачыце, і пра сем'і ведаюць!

Ведаюць і дамашнія адрасы. Неўзабаве пасля гэтага ўзброенага нападу і публікацый пра яго ў газетах мне на дом прыйшло «пісьмо» (такое гнюснае пасланне толькі і трэба, што браць у двукоссе). У газетнай вырэзцы было падкрэслена маё прозвішча і зроблена прыпіска: «І гэта яшчэ не ўсё! Ха-ха.» На канверце, быццам бы мінскім, прыпіска: «Сябры». Ці варта каменціраваць заявы гэтых «сяброў»?

На наступны дзень пасля нападу на нас мы далі паказанні ў раённай міліцыі і пракуратуры: што ведалі, тое і расказалі. Напісалі, зразумела, заявы ў раённую Іўеўскую пракуратуру, і яна ўзбудзіла крымінальную справу, потым гэтыя матэрыялы, наколькі мне вядома, пайшлі ў Гродзенскую абласную пракуратуру, а затым яны былі перададзены ў Беларускую ваенную пракуратуру. Дык хто ж тады замешаны ў гэтым злачынстве? І хто паўстане перад судом?

**ЗАДАРОЖЫН-старэйшы:** — Асабіста мне вядома наступнае. У свой час мы з М. Емяльянавым сядзелі ў кабінеце раённага пракурора, калі той гаварыў з абласным начальствам. Рэзананс у тэлефоннай трубцы быў моцны, і мы абодвы выдатна чулі, як з Гродна заяўлялі: няхай гэтыя рыбінспектары забіраюць свае заявы з пракуратуры назад, бо нічога яны тут не даб'юцца і не дакажуць, ніхто сваіх у гэтай справе не здасць. А калі заявы не забяруць, то мы ўзбудзім новую справу — супраць тых жа інспектараў.

Вядома мне вось яшчэ што. Праз два дні пасля дзікай расправы чарнамасачнікаў над інспектарамі рыбаахоўы ў раённую пракуратуру Іўя прыязджаў падпалкоўнік са Смаргонскага пагранатрада (прозвішча яго я ведаю, але пакуль не называю). Прыязджаў менавіта па выкліку, бо наша мясцовая міліцыя ўсе вядомыя ёй факты і прозвішчы прадставіла пракурорам. Дык адкуль, як кажуць, дзьме ветрык?

Можа, камусьці пасля ўсяго сказанага гэта пакажацца і неістотным, але мне, як кіраўніку дзяржаўнай установы, прыходзіцца думаць: аўтамабіль інспекцыі рыбаахоўы гэтыя чарнамасачнікі ў час сваіх «трэніровак» раскурочылі ўшчэнт. Узнаўлялі ж мы яго сваімі сіламі, але за кошт дзяржбюджэту. Дык і тут дзяржава павінна расплачвацца за дзікунствы нейкіх «паўваенных» у камуфляжы?

Чуў я ўжо і нейкія шантажныя плёткі (вядома, хто іх распускае) пра тое, быццам бы работнікі рыбаахоўы займаюцца «кантрабандным перакідваннем нелегальных мігрантаў цераз граніцу». Не варта нават каменціраваць гэты паклёп.

Скажу, што ёсць на самай справе. Большасць рэк, якія мы кантралюем, працякаюць менавіта ў прыгранічных з Літвой раёнах — і нам, натуральна, часта прыходзіцца працаваць у пагранзоне. Калі і прыпыняюць нас пагранічнікі ў час рыбаахоўных рэйдаў, то нашы дакументы дазваляюць працаваць нам і далей. Наогул, узаемаадносіны паміж абодвума бакамі — самыя лепшыя. І раптам такое!

Быццам аб'явіліся нейкія «новыя групы захопу».

**Журналіст:** — Сапраўды, з Камітэта рыбаахоўы нам паведамілі: быў тэлефонны званок з сістэмы Дзяржкамітэта пагранвойскаў наконт таго, што інспектары рыбаахоўы быццам бы прымаюць удзел у перакідванні праз граніцу нелегалаў. Прапанаваная сустрэча, каб абмеркаваць гэтае пытанне, калі яно сапраўды існуе, не адбылася. Дзеля чаго робіцца падобныя «заходы», зразумела. Ды і дзе канкрэтныя факты па такой, з дазволу сказаць, «кантрабандзе»? Дзе афіцыйныя дакументы? Усё гэта — лухта! Адначасова гэта сведчыць і пра тое, што ў каго-нікага вельмі ўжо гарыць пад нагамі. Прыйдзецца адказваць?

Спашлёмся на словы Беларускага ваеннага пракурора генерал-маёра юстыцыі Вячаслава Любавіцкага. У час «прамой лініі», якая праводзілася па прынцыпу «пытанне—адказ» (яна адбылася ў лютым, матэрыялы яе былі змешчаны 12 сакавіка г. г.), на пытанне аднаго з чытачоў гэтага ён адказаў:

«...Справа вядзецца. Аб'ектыўна. Усебакова. Інакш і быць не можа. На пракурораў ніхто не цісне, а калі гэта ёсць у адносінах да інспектараў, то няхай яны звернуцца з заявай. Паведамляю, што на мінулым тыдні там быў следчы нашай пракуратуры, усе ўдзельнікі канфлікту дапытаны. Хутка будуць праведзены вочныя стаўкі. Давайце пачакаем. Калі будзе ўстаноўлена віна, як вы сказалі, «аўтаматчыкаў», то безумоўна, яны будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Усё будзе па закону».

**Запісаў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

«НЕВЫРАШАЛЬНАЯ» ПРАБЛЕМА

# МЕЛІЯРАЦЫЯ ГУБІЦЬ ТАРФЯНІКІ?

***Колькі коп'яў зламана вакол меліярацыі! І меркаванні амаль заўсёды палярныя. Адным нават здаецца, што ўсе нашы беды — ад неразумнага ўмяшання ў прыроду, г. зн. менавіта ад асушэння балот. Адсюль, маўляў, і частыя змяненні, а дакладней капрызы, прыроды. Але і гэта не ўсё. На думку некаторых эколагаў, у выніку мінералізацыі торфу глеба стане настолькі неўрадлівай, што самы час гаварыць пра заняпад земляробства на Палессі. Далей — больш. І вось ужо выказваецца думка аб тым, што нашы балоты — «лёгкія Еўропы». Інакш кажучы, такія прыродныя ўтварэнні зніжаюць утрыманне вуглякіслага газу ў атмасферы, як, напрыклад, і трапічныя лясы. Таму пры захаванні іх у натуральным стане змяншаецца магчымасць пацяплення клімату ў выніку парніковага эфекту.***

Другая група вучоных глядзіць на ўсё гэта больш аптымістычна. Маўляў, змяненні клімату мелі месца і без умяшання чалавека. Да таго ж асушальная меліярацыя ва ўмовах нашай рэспублікі, дзе пераважаюць пераўвільготненыя глебы, жыццёва неабходная.

Іншая справа, што асушэнню нярэдка падвяргаліся нізкаўрадлівыя пясчаныя глебы, якія, быццам астраўкі, раскіданы сярод мелказалеглых тарфянікаў. Цяпер да іх даладаліся і апясчаненыя ўгоддзі ў выніку «выпрацоўкі» тарфяных залежаў. І гэты працэс будзе працягвацца, таму што шляхам закладкі дрэнажу ці адкрытых каналаў быў паніжаны ўзровень грунтавых вод. У выніку балотаўтварэнне саступіла месца разбурэнню арганічнага рэчыва — у іншых месцах ад торфу засталіся адны толькі ўспаміны.

Ці можна кіраваць гэтым працэсам? У вядомай ступені так. Некаторыя заходнія спецыялісты лічаць, што для аховы тарфяных залежаў ад «выпрацоўкі» мэтазгодна вырошчваць на іх рыс(!). Але наша рэспубліка, як вядома, гэтым не займаецца: клімат не той. Застаецца спадзявацца толькі на шматгадовыя травы. Паводле даных акадэміка С. Скарапанава, страта арганічнага рэчыва пад імі амаль у тры разы меншая, чым пад прапашнымі культурамі. Разам з тым сенакосы і пашы не даюць разгуляцца ветравой эрозіі, чаго нельга сказаць пра бульбу ці буракі, якія сям-там усё яшчэ «прыпісаны» да асушаных тарфянікаў, — з усімі адсюль адмоўнымі наступствамі для экалогіі.

Выкарыстанне тарфянікаў пад лугаводства з'яўляецца пераважным і цяпер. Здавалася б, што прычын для хвалявання няма. Але гэта далёка не так. І ў гэтым выпадку працэс «выпрацоўкі» торфу выклікае заклапочанасць і нават трывогу. Чаму ж падобнае стала магчымым? Часткова гэта абумоўлена тым, што асушэнне па сутнасці праводзілася пад палявыя культуры. Калі б зараней зарыентаваліся на лугавыя ўгоддзі, дык і асушаць трэба было б памяльчэй.

Праўда, тут мне могуць запярэчыць па шэрагу прычын. Перш за ўсё, пры мелкім асушэнні давялося б у значнай меры адводзіць выпадаючыя атмасферныя ападкі, каб выключыць затапленне пасеваў. Яшчэ цяжэй забяспечыць падачу вады ў засушлівы час на тарфяныя глебы, падасланыя пяскамі. Тады б паўстала пытанне аб дадатковым будаўніцтве вадасховішчаў.

І яшчэ ёсць адзін довад, які маім апанентам здаецца пераканаўчым. У асобныя гады нават на натуральных балотах узровень грунтавых вод апускаецца на паўметра. Называецца і такі аргумент: для лугавых угоддзяў з дробным асушэннем спатрэбілася б аблегчаная кормаўборачная тэхніка, хоць, несумненна, усе гэтыя праблемы яўна перабольшаныя. Ва ўсякім разе, пры падтрыманні ўзроўню грунтавых вод у сярэднім за вегетацыйны перыяд на глыбіні каля 0.7 метра можна без асаблівай цяжкасці ўбраць ураджай і выключыць высушванне мяжуючай тэрыторыі. Таму рэгуляванню воднага рэжыму глебаў трэба ўдзяляць выключную ўвагу.

Разам з водным нельга недаацэньваць і так званы рэжым сілкавання глебаў, паколькі на няўгноеных плошчах пераважае пустазелле. Нізкая і якасць ураджаю з-за лішку нітратаў. Акрамя таго, мінеральны азот, які ўтвараецца пры раскладанні торфу, аказваецца «незапатрабаваным» шматгадовымі травамі, што спрыяе яго вымыванню і выпарэнню ў атмасферу. Наадварот, пры збалансаваным сілкаванні раслін сенакосы і пашы цалкам выконваюць сваю прыродаахоўную ролю. На жаль, у многіх гаспадарках травы нярэдка знаходзяцца на «галодным пайку» — і перш за ўсё ў сэнсе фосфару, што, безумоўна, зніжае іх прадуктыўнасць. Пры гэтым у разліку на адзінку ўраджаю разбураецца больш торфу і менш кампенсуецца страт арганічнага рэчыва пажніўнымі і каранёвымі рэшткамі. Словам, у гэтым выпадку і шматгадовыя травы дрэнна спраўляюцца са сваімі экалагічнымі «абавязкамі».

Навуцы вядомы і такі прыём падаўжэння жыцця мелказалеглых тарфянікаў, як глыбокае іх заворванне. Асабліва распаўсюджаны гэты спосаб у Германіі, дзе ён укаранёны на плошчы больш як 100 тысяч гектараў. У нас пакуль лік вядзецца не на тысячы гектараў, а на сотні: не хапае спецыяльных плугоў, сродкаў і, напэўна, жадання. Выправіць сітуацыю можна і цяпер, хоць, па наяўных звестках, спазненне з правядзеннем глыбокага заворвання зніжае яго эфект. Але, як кажуць, лепш позна, чым ніколі. Зразумела, агратэхніка і нормы ўгнаенняў тут таксама павінны быць «на вышыні», інакш і гэтая тэхналогія будзе нерэнтабельная.

Не трэба забываць і пра тое, што трава траве не роўня. У нашых доследах на мелказалеглых тарфяніках ураджай канюшыны лугавой дасягаў 100 цэнтнераў сена. Каб атрымаць столькі ж цімафеевкі, трэба затрачваць сама меней 90—120 кілаграмаў азоту на гектар.

Улічваючы вялізную біясферную ролю балот, ЗША, напрыклад, плануюць вывесці з сельскагаспадарчага абароту 400 тысяч гектараў раней асушаных такіх угоддзяў, ці каля аднаго працэнта агульнай плошчы. І робіцца гэта, канешне, не бясплатна, а шляхам кампенсацыі фермерам. У нас пакуль іншае становішча. З-за недахвату сродкаў на рэканструкцыю і эксплуатацыю асушальных сістэм толькі, скажам, у Любанскім раёне пераўвільготнена, як мінімум, некалькі тысяч гектараў меліяраваных земель. Канкрэтныя ж лічбы па ўсёй рэспубліцы стануць вядомыя толькі пасля завяршэння інвентарызацыі гэтых угоддзяў. Але ўжо сёння з упэўненасцю можна сцвярджаць, што паўторна забалочваюцца многія выпрацаваныя тарфянікі, якія раней выкарыстоўваліся для здабычы торфу на паліва і ўгнаенне.

«Кандыдаты» на выключэнне з сельгасабароту — некаторыя ўчасткі пясчаных глебаў, што мяжуюць з ляснымі ўгоддзямі, а таксама асобныя масівы падтапляемых земель, дзе паўторнае асушэнне звязана з вялізнымі выдаткамі. Аднак усё гэта трэба рабіць вельмі ўдумліва, з улікам сацыяльна-эканамічных наступстваў, паколькі ў іншых месцах, скажам прама, лепшых глебаў проста няма. Асноўная ж плошча асушаных земель пры належнай эксплуатацыі павінна «працаваць» на ўраджай і на наш з вамі дабрабыт без істотнага ўрону для навакольнага асяроддзя. Менавіта на гэта і нацэлена распрацоўваемая цяпер шэрагам інстытутаў Рэспубліканская праграма па рацыянальнаму выкарыстанню меліяраваных земель. Ёсць усе падставы меркаваць, што рэалізацыя яе на практыцы ў многім здыме вастрыню праблемы «выпрацоўкі» тарфяных глебаў, будзе спрыяць павышэнню іх урадлівасці.

**Пётр ЦІВО, доктар сельскагаспадарчых навук.**

ЭКАЛАГІЧНЫ ПРАКТЫКУМ

# ПЯЕ ЛЯ ЦЭХА САЛАВЕЙ

***У пастаянным паходзе за здаровую прыроду знаходзяцца эколагі, грамадскасць, вытворцы Любаншчыны***

**У кожнага чалавека — свае хваробы, у кожнага тэрытарыяльнага рэгіёна — свае экалагічныя праблемы. Любанскі раён у гэтым плане зусім не выключэнне.**

**Мець пад бокам такога забруджвальніка навакольнага асяроддзя, як 4-е рудаўпраўленне аб'яднання «Беларуськалій» — гэта ўжо само па сабе праблема. Што сёння адбываецца, напрыклад, са славутай некалі ракой Арэсай? Спачатку ў гэтых мясцінах прайшла «звышмеліярацыя», потым на яе берагах пабудавалі жывёлагадоўчыя комплексы і фермы — дзе цяпер тая празрыстай чысціні вада і рыба? Зрэшты, «балячак» столькі, колькі тых елак у лесе.**

**У Любанскім раёне пры ўсім тым займаюцца не пералічэннем прыродаахоўных праблем, не бяссэнсавымі скаргамі на складанасці жыцця, а імкнуцца весці актыўную палітыку, уплываць на экалагічную сітуацыю. Калі трэба, то і запросяць на сесію райсавета «хімікаў»-калійшчыкаў з Салігорска. Правядуць рэйд па выяўленню несанкцыяніраваных звалак — і раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выдае вінаватым жорсткія прадпісанні. Шукаюць новае — і знаходзяць нешта зусім ужо арыгінальнае. Нават такую форму прыродаахоўнай работы, як літаратурна-экалагічнае турнэ, — з мэтай узмацніць дзейнасць па абароне і аднаўленню былой прыгажуні Арэсы.**

**Распаўсюджванне экалагічных ведаў сярод насельніцтва і ў вытворчых калектывах, экалагічнай культуры, правільных адносінаў да прыроды, яе рэсурсаў і магчымасцяў — такое прафесійнае крэда начальніка мясцовай райінспекцыі прыродааховы Галіны Булат. Без перабольшання — нават яе «канёк».**

**Як гэта ўдаецца, які сёння эколага-псіхалагічны клімат у раёне? Не будзем займацца фактаграфічна-лічбавай справаздачай, а пройдземся па некаторых «адрасах». Сваімі адносінамі да экалагічных праблем, сваімі поглядамі людзі лепш за ўсё выкажуць і пакажуць тое, чаго дабіваецца і ўжо дабілася раённая прыродаахоўная служба.**



*Вучні Любанскай агульнаадукацыйнай школы № 1 — за прывычным заняткам. Яны рыхтуюцца да прыёму сваіх крылатых сяброў. Шпакоўні і кармушкі для птушак атрымліваюцца ў іх адмысловыя.*



***ЦЭНТРАЛІЗАВАНАЯ БІБЛІЯТЭЧНАЯ СІСТЭМА.* Дырэктар Таццяна АСТРЭЙКА:**

— Калі пачаць дудзець чалавеку ў вушы: «Экалагічнае выхаванне, экалагічнае выхаванне...» Да якой душы дойдуць гэтыя агульныя словы? На прафесіянальнай жа мове гэта ўжо азначае асноўны напрамак работы нашых бібліятэк. Што за гэтым стаіць?

Выхаванне дзіцяці як «экалагічнай асобы» без адпаведнай літаратуры, без кніг немагчыма. Паглядзіце, колькі іх у цэнтральнай раённай бібліятэцы. У дзіцячай — таксама. Заўважу, што такім чынам і адбываецца, скажам так, ненавязлівае, ненадакучлівае выхаванне. А яно і ёсць сапраўднае, бо мы пачынаем менавіта з малышоў. Нашы прафесійныя прыёмы можна пералічваць доўга. Але лепш за ўсё самае «зерне» абмалюе просты жыццёвы прыклад.

Калі мы, работнікі культуры, разам з дзецьмі школьнага ўзросту займаемся веснавой уборкай гарадскога парку, то вы толькі паглядзелі б, як яны сябе паводзяць! Школьнікі, якія з бібліятэчных кніг ужо шмат ведаюць аб прыродзе, у парку літаральна свяшчэннадзейнічаюць, абыходзяцца з дрэвамі, як з жывымі істотамі.

Затое некаторыя дарослыя, як бывае ў жыцці, даволі «драўляныя асобы». Гэта выяўляецца і ў такой не вельмі прыемнай для іншых справе, як падтрыманне ў чысціні вуліцы ля ўласнага дома (а гэта ж практычная экалогія, ці не так?).

Маці аднаго з нашых наведвальнікаў-школьнікаў неяк усердзілася: «Што вы там соваеце дзецям гэтыя запісачкі?» А гэтыя запісачкі — «экалагічныя»: іх мы нашым чытачам-падлеткам раз-пораз і раздаём. У іх запісаны напамінак: смецце ля дома трэба ўбіраць.

Што вы думаеце? Дзеці з дапамогай гэтых «дакументаў» якраз і «дастаюць» сваіх маці і бацькоў. Яшчэ больш дзіўна, што дарослыя гаспадары пасля ўсё ж убіраюць свае тэрыторыі. Дык хто каго ў гэтай сітуацыі пачынае экалагічна выхоўваць?

***ЛЮБАНСКАЯ АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНАЯ ШКОЛА № 1.* Дырэктар Аляксандр ШУЛЯКОЎСКІ:**

— Для экалагічнага выхавання школьнікаў фармалізм, як і для многага іншага, — першы вораг. Таму на першым месцы ў нас — мэтанакіраванае спалучэнне тэарэтычных ведаў па ахове прыроды з практычным іх прымяненнем. Чаго, дарэчы, жыццё і патрабуе.

Вы ж бачылі пры ўваходзе на школьную тэрыторыю алею з дрэў? Дакладаю: яе пасадзілі самі школьнікі. Яны ж павесілі на іх і шпакоўні, як і ў суседнім лесе. У канцы алеі, дзе ўжо не школьная тэрыторыя, мясцовыя ўлады адвялі кавалак зямлі нейкаму кааператару для будаўніцтва. З'явіўся, зразумела, бульдозер — ён і паламаў бярозу, якая расла там у адзіноце. Вучні неяк падслухалі, што пра гэта гаварылі настаўнікі. Тыдні праз два гляджу і бачу: дрэўца ўжо абвязанае і з падпоркай. Ці зрабілі б такое дзеці, раўнадушныя да прыроды?

Можна гаварыць, зразумела, пра тое, што ў школе ўведзены спецыяльны курс экалогіі, аднак ёсць і іншыя «моманты» экалагічнага выхавання плюс практычныя навыкі. Шмат чаго школьнікі самі высаджваюць у школьнай цяпліцы, на славу папрацавалі і на двары — сведчаннем таму шматлікія кусты ружаў. Калі кветкі патрэбны каму-небудзь для ўрачыстага выпадку, то школьнік папросіць іх і атрымае. Самавольна ж ніхто не сарве і куста, бо кожны разумее: як гэта можна — пазбавіць сваіх жа таварышаў, увесь калектыў ружавай прыгажосці?

Перапыняючы маналог Аляксандра Аляксандравіча, раблю заметку: многія дзесяткі, сотні кустоў ружаў я потым бачыў у самых розных месцах горада і раёна. А гэта ўжо мясцовы, як кажуць, экалагічны каларыт. Можа, і не дацягваюць на Любаншчыне да «аб'ёмаў» з вядомай песні: «Мільён, мільён пунсовых ружаў...», аднак тон ужо зададзены і замацаваўся ў свядомасці.

***ЛЮБАНСКАЯ ШВЕЙНАЯ ФАБРЫКА.* Дырэктар Уладзімір ЛЕАНОВІЧ:**

— Тры гады таму, калі я пачаў тут працаваць, прадпрыемства было «ляжачае», вытворчасць стаяла тады ўжо чатыры месяцы. Сёння праблем з выплатай зарплаты няма, як няма і даўгоў. А мы ж шыем усё даволі таннае — спецадзенне, пасцельныя прыналежнасці, верхні трыкатаж — на гэтым «звышпрыбыткаў» не заробіш. І тым не менш...

З другога боку, зацыкліцца толькі на пагоні за рублём? Гэта ж тупік!

Сам я па першай прафесіі — географ, у свой час скончыў ва універсітэце геафак. Можа, тут і крыецца нейкі фактар цягі да прыроды? Ва ўсякім разе, лічу: калі сёння будзем думаць толькі пра голую «эканоміку выжывання», то ўжо абавязкова прападзём. Трэба ўмець усё аб'ядноўваць: каму невядома, што на экалагічна чыстым, упарадкаваным рабочым месцы чалавек працуе куды весялей, дабіваецца куды большых вынікаў.

У свой час мне рабілі даволі дзіўныя прапановы: аддай пад пасевы частку фабрычнай тэрыторыі, у цябе яна вялікая, — будзе зерне, а пасля яго продажу — грошы. Вось нарабілі б спраў!

Замест гэтага я пайшоў у калектыў з іншымі прапановамі і ўсіх пераканаў. Шмат працавалі на ўборцы фабрычнага двара, вазілі зямлю, а потым пасадзілі бярозавы гай — цяпер у ім больш як 4 тысячы дрэўцаў. Пройдзе гадоў з дваццаць, людзі будуць адпачываць у цяньку і ўспамінаць нас...

Ніякіх сакрэтаў рабіць не буду — са сродкамі на гэтыя прыродаахоўныя мерапрыемствы дапамаглі ў Мінскім аблкамітэце прыродных рэсурсаў, у нашым райвыканкаме. Дзякуй і райінспекцыі прыродааховы, яе кіраўніку — пра нашы праблемы яны ніколі не забывалі.

Таму і нам трэба весці, скажам так, джэнтльменскую палітыку. Заўважце: фабрыка «сядзіць» ля берага Арэсы, але мы раку шкадуем, прэтэнзій у эколагаў у гэтым плане да нас няма. Хто хоча пераканацца, няхай прыязджае — паглядзіць на чыстую тэрыторыю прадпрыемства, на высаджаныя ў двары кветкі. Калі пашанцуе, дык паласуецца і грыбамі. І гэта не жарт: ля кустоў і бяроз некаторыя ў нас умудраліся збіраць па паўвядра баравікоў.

Паслухаюць і нашых «канцэртмайстраў» — маю на ўвазе салаўёў. Атрымалася, што яны палічылі створанае на фабрыцы прыроднае асяроддзе прыдатным для сябе. Ва ўсім горадзе салаўі пяюць толькі ў нас...

***УРЭЧСКІ СПІРТЗАВОД.* Дырэктар Рэджынальд АНІСІМАЎ:**

— Сёння надыходзіць час «чыстых» тэхналогій. Вось і ў нас ідзе ледзь не пастаянная рэканструкцыя. Пабудаваны новы цэх мае сучаснае абсталяванне — у хуткім часе гэтая вытворчасць пачне працаваць.

Пытанні прыродааховы прымушаюць нас думаць і аб нейтралізацыі сцёкаў, якія ўтвараюцца ў канцы тэхналагічнага цыкла. Пра якую культуру вытворчасці, пра якую ахову прыроды можна весці размову, калі прадпрыемства не мае нармальных ачышчальных збудаванняў?

У свой час патраціў нямала сіл і нерваў, каб угаварыць кіраўнікоў навакольных прадпрыемстваў: давайце скінемся і ўзвядзём збудаванні, агульныя для ўсіх. Дзе там! Хто з вытворцаў-гаспадарнікаў хоча займацца гэтай няўдзячнай справай? Узяўся сам, на сваю рызыку — і цяпер завод адпраўляе сцёкі на ўласныя ачышчальныя збудаванні. І ў раённых эколагаў галава не баліць, і нам добра. Няхай суседзі на словах лічаць сябе сябрамі прыроды, а мы даказваем гэта на практыцы.

Тут, як здаецца аўтару, у самы раз уставіць чарговую рэмарку. Не ўлазячы ў так званую тайну фірмы, можна проста адзначыць, што ва Урэчскі завод грошы ўкладваюць ужо і «фінансісты збоку». Гэта азначае, што быць экалагічна падкаваным кіраўніком, у якога няма праблем з прыродаахоўнымі службамі, эканамічна вельмі выгадна. Да такога разумення чалавеку, нават сталаму, неабходна, аднак, «даспець». Ды толькі не кожнаму гэта дадзена. Як падкрэсліла Галіна Булат, завод стаў пераможцам абласнога конкурсу мінулага года па прыродаахове зусім не выпадкова.

Якая можа быць выпадковасць? Тут, што ўжо зусім незвычайна для прадпрыемстваў падобнага тыпу, таксама... займаюцца ружамі. Высадзілі на «зялёных астраўках» заводскай тэрыторыі амаль 800 кустоў, а хутка будзе тысяча. Зноў любанскі ружавы каларыт?

***КАЛГАС ІМЯ ГАРБАЧОВА.* Галоўны заатэхнік Марыя МАРОЗ:**

— Гэта зусім не той Гарбачоў, што вы падумалі. «Наш» Гарбачоў, Яўстрат Дзянісавіч, быў у Айчынную вайну арганізатарам партызанскага руху ў Мінскай вобласці і тутэйшых мясцінах.

*(Мы вядзём размову ва ўтульным, грунтоўна пабудаваным Доме жывёлавода. —* **Аўт.** *— Тут ні найменшай прыкметы якога-небудзь заняпаду, у актавай зале — дываны і тэлевізар.)*

— На ферме буйной рагатай жывёлы, — працягвае Марыя Адамаўна, — трымаем 1700 кароў; пагалоўя, як гэта дзе-нідзе робіцца, «скідваць» і не думаем. Пра тое, што працуем дэталёва па патрабаваннях тэхналогіі, думаю, можна і не гаварыць.

Чаму нашаму калгасу часта ўдаецца выходзіць пераможцам раённага конкурсу на лепшую пастаноўку прыродаахоўнай работы? Патрабаванні ўвогуле простыя: неабходна, каб і сама ферма, і яе тэрыторыя былі чыстыя, каб было азеляненне, гнаясховішчы — упарадкаваныя і агароджаныя. Паглядзіце на нашы артэзіянскія свідравіны: усе яны ўтрымліваюцца па патрабаваннях праекта, нават падкошваем вакол іх траву.

Яшчэ адна рэмарка. Сапраўды, усё, здавалася б проста, але якая работа за гэтым стаіць? Ці многа хто бачыў свінаферамаў, каб па іх тэрыторыі можна было ўсюды праехаць на аўтамашыне «Волга»? Калі чалавек не захоча пастаянна жыць і працаваць, прабачце, у гразі, ён заўсёды знойдзе, як сапраўдны гаспадар, для гэтага спосабы. Своеасаблівая экалогія вытворчасці і душы.

Тут у многім і спружыны таго, чаму вясной мінулага года калгаснікі ўсёй талакой — і дарослыя, і школьнікі — выйшлі саджаць дрэвы, засадзілі імі ажно восем гектараў няўдобіцы. Зямля, якая б яна па якасці ні была, у гаспадара пуставаць не можа, тым больш — «псаваць від» каля дарогі. Аб чым у свой час нямала раіліся старшыня калгаса Фёдар Брагінец і начальнік раённай прыродаахоўнай службы Галіна Булат. Як бачым, дагаварыліся да канкрэтнай справы.

**ЗАМЕСТ РЭЗЮМЕ.** *У адным газетным артыкуле ніяк не абмалюеш усю карціну ў тым сэнсе, што робяць людзі Любаншчыны дзеля захавання сваёй прыроды. Аднак і прыведзеныя факты, думаецца, даюць разуменне таго, што ў раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя маецца вялікі «экалагічны актыў», не меншы і аўтарытэт.*

*Сама Г. Булат можа гадзінамі расказваць пра конкурсы ў школах і калгасах, экалагічныя форумы-ўшанаванні і «зялёныя газеты», прыводзіць прыклады ўсё новых формаў прыродаахоўнай работы і ўласных знаходак. Усё ж разам аб'ядноўваецца ў адну асноўную ідэю: старацца пераменіць свядомасць людзей у тым накірунку, каб яны ўмелі жыць у згодзе з прыродай і самімі сабой.*

*Наконт гэтага ў аўтара публікацыі — поўная згода з Галінай Мікалаеўнай. Што ён з задавальненнем і пацвярджае.*

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

НА КАНТРОЛІ Ў МІНІСТЭРСТВА

# ЯК ЖЫВЁМ, ЯК ГАСПАДАРЫМ

**На жаль, пакуль даволі кепска. Менавіта пра гэта гавораць даныя службаў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якія, у прыватнасці, вядуць работу па кантролю за адходамі вытворчасці і спажывання, а таксама — па ахове зямельных і лясных угоддзяў, нетраў і тарфянога фонду.**

Праверкі санітарнага стану населеных пунктаў рэспублікі, праведзеныя летась, выявілі больш як 43 тысячы парушэнняў. Сума прад'яўленых штрафных санкцый склала звыш сямі мільярдаў рублёў.

❑

У канцы мінулага года ў кар'еры ля станцыі Аульс непадалёк ад Гродна былі знойдзены мяхі з цынкавым купарвасам (ён мае 2-гі клас небяспекі) і бочкі з фармаваным рэчывам, якія належалі вытворчаму аб'яднанню «Азот». За гэтае парушэнне прадпрыемству быў прад'яўлены іск і спагнана 260,7 мільёна рублёў.

❑

За праліванне нафтапрадуктаў (ледзь не ў цэнтры Баранавіч стаяў мазутавоз, з якога выцякаў мазут) прад'яўлены грашовы іск Баранавіцкаму прадпрыемству па забеспячэнню нафтапрадуктамі.

❑

За парушэнні зямельнага іляснога заканадаўстваў у мінулым годзе накладзена 1820 штрафаў на суму амаль 646 мільёнаў рублёў, іскаў прад'яўлена на 926 мільёнаў.

❑

У Светлагорскім раёне 10 снежня леташняга года мясцовая прыродаахоўная гаррайінспекцыя выявіла самавольна арганізаваны кар'ер, што было зроблена, як аказалася, з дазволу начальніка ўчастка прадпрыемства меліярацыйных сістэм А. Бусла. На яго наклалі штраф у памеры 2 мільёнаў рублёў і прымусілі кар'ер ліквідаваць.

❑

20 мая мінулага года быў выяўлены факт самавольнай здабычы пяску з кар'ера на землях калгаса «Зара» Жыткавіцкага раёна малым прадпрыемствам «Рытм» (дырэктар В. Шайко), што з'яўляецца парушэннем зямельнага заканадаўства. Дырэктар МП асабіста заплаціў 1,5 мільёна рублёў штрафу.

❑

У Гомельскім раёне, на сельгасугоддзях саўгаса «Міжрэчча», леташняй вясной быў зафіксаваны факт выпальвання сухой расліннасці. Гэта адбылося пры патуранні з боку галоўнага агранома саўгаса І. Машкоўскага. «Справа» закончылася штрафам у памеры 1 мільёна рублёў, накладзеным асабіста на галоўнага агранома гаспадаркі.

Зноў набліжаецца час веснавых палявых работ — і гэты выпадак з яго заканамерным фіналам павінен паслужыць напамінкам тым, хто яшчэ не пазбавіўся звычкі прымяняць шкодную «тэхналогію» выпальвання рэшткаў расліннасці на палетках.

**Да друку падрыхтаваў Мірон ЧАРАПІЦА.**

МЯРКУЕ МОЛАДЗЬ

# З ЧЫМ ЗАСТАНЁМСЯ?

Нярэдка вельмі хочацца схадзіць у лес, пабыць на прыродзе. Аднак калі пабачыш стан, у якім гэты лес знаходзіцца, робіцца проста жудасна. Адразу ўзнікае пытанне: чаму раней людзі адносіліся да прыроды больш беражліва, ашчадна, чым мы? Няўжо мы зрабіліся настолькі чэрствымі, злымі, што, акрамя ўласнага «Я», нічога і нікога не хочам заўважаць?

Як жыве «сучасны» чалавек? Яго прынцып такі: «Гэта не маё, а грамадскае, значыць можна да яго адносіцца як хочаш». Калі мы і далей будзем так ставіцца да прыроды, то яна не вытрымае. Вучоныя ўжо прадказваюць пацяпленне клімату і раставанне снягоў Антарктыды. У гэтым, безумоўна, віна чалавека.

Яшчэ адна экалагічная праблема — гэта захаванне разнастайнасці відаў раслін і жывёл. Чалавек стаў прычынай гібелі млекакормячых і птушак. Паводле даных Міжнароднага саюза аховы прыроды, з 1600 года на Зямлі вымерлі 94 віды птушак і 63 віды млекакормячых. Цяпер пад пагрозай знікнення знаходзіцца не менш як 25—30 тысяч відаў раслін. Кожны дзень у свеце знікаюць некалькі відаў жывёл і раслін. І калі разабрацца, то чалавек пачынае задумвацца аб ахове таго ці іншага віду толькі тады, калі таму пачынае пагражаць поўнае знікненне. Ды і зноў жа: наколькі сур'ёзна задумвацца?

Не на апошнім месцы ў экалогіі стаіць праблема забруджвання вод. Доўгі час лічылася, што памеры Сусветнага акіяна настолькі вялікія, што ён можа без шкоды і абмежавання паглынуць усе віды забруджванняў. Але гэта сталася вялікай памылкай. Цяпер яго забруджванне дасягнула велізарных памераў. У воды і нашай краіны кожны год выкідваецца мноства вадкіх і цвёрдых адходаў. У выніку паступова знішчаецца жыццё ў вадзе.

Мы знаходзімся на парозе новага стагоддзя. Можа, у XXI стагоддзі чалавек, нарэшце, пачне думаць больш глабальна і адпаведна дзейнічаць?

**Людміла КАВАЛЕЎСКАЯ, вучаніца 10 «Б» класа Бягомльскай СШ.**

ФАКТЫ ДЛЯ РОЗДУМУ

# «МАЛІТВА» БРАКАНЬЕРА — ШТУКА ДЗЕЙСНАЯ

**ЧАМУ ПАРУШАЛЬНІКАМ ЗАКАНАДАЎСТВА ЎДАЕЦЦА АДКРУЦІЦЦА АД, ЗДАВАЛАСЯ Б, НЕПАЗБЕЖНАГА ПАКАРАННЯ?**

***Час, уціснуты ў рамкі 1990—1995 гадоў, для дзікага жывёльнага свету нашых лясоў быў нешчаслівым — тады адбывалася даволі моцнае падзенне колькасці прамысловых жывёл. Прычыны негатыўнай тэндэнцыі вядомыя — рост браканьерства, пагаршэнне біялагічных умоў існавання, пэўная цыклічнасць у жыцці папуляцый — фактараў увогуле нямала. Спецыялісты, тым не менш, галоўным лічаць першы з названых.***

***У Магілёўскім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя існуе аддзел дзяржкантролю за аховай і выкарыстаннем жывёльнага свету, рыбных запасаў, вядзеннем паляўнічай гаспадаркі і станам запаведнай справы. Яго начальнік Леанід ШАДРАКОЎ, з якім журналіст вядзе гутарку, сярод шматлікіх напрамкаў работы аддзела больш выдзяляе, аднак, праблемы вядзення паляўнічай гаспадаркі. І менавіта па вышэйпералічаных прычынах.***

*— Спачатку, Леанід Міхайлавіч, перадрасую вам пытанне, якое нам задаюць некаторыя нашы чытачы. Маўляў, сваіх паляўнічых у лясах не пералічыць, а тут яшчэ прыязджаюць немцы, італьянцы і іншыя. Плацяць за ліцэнзіі валютай і страляюць-здабываюць. Ці не занадта?*

— Не сказаў бы, што іншаземцы-паляўнічыя здабываюць у лясах вобласці такі ўжо вялікі працэнт капытных жывёл. Мая асабістая думка такая: «іншаземнае» паляванне ў цэлым не пагаршае стан жывёльнага свету. Затое грошы гэтых гасцей важныя для эканомікі нашай паляўнічай гасадаркі. Калі б ва ўсіх паляўнічых гаспадарках вобласці правільна вялі гэту справу, больш запрашалі паляўнічых з доларамі і маркамі, то гэта было б не ва ўрон жывёльнаму свету, затое дапамагло б развіваць самі гаспадаркі, што зноў жа пайшло б на карысць жыхарам лесу.

*— Дадатковыя сродкі для барацьбы супраць «айчынных» браканьераў? Так?*

— І гэта не выключана. Бо злоснае браканьерства — няшчасце нашых лясоў. Прычым ім займаюцца не толькі «простыя» ўладальнікі стрэльбаў, але і службовыя асобы, якія па сваіх абавязках самі павінны абараняць жывёльны свет дзяржавы, агульную ўласнасць народа. Прыкладаў дастаткова.

У Слаўгарадскім раёне са здабытымі бабром і бабрыхай былі затрыманы ляснік С. П. Арцёменка і майстар лесу С. Д. Далькоў. Пры вобыску на іх кватэрах у іх знайшлі і капканы. Здавалася б, усё ясна, так? Але... .

Крымінальная справа супраць іх была прыпынена ў сувязі з... неўстанаўленнем асоб, якія ўчынілі правапарушэнне. Гэтыя двое «абаронцаў прыроды», ці бачыце, потым заявілі: яны, маўляў, ішлі каля рэчкі, убачылі злоўленых бабра і бабрыху, пасткі і проста ўзялі ўсё гэта сабе, неслі дамоў.

Следства па гэтай справе вялі работнікі мясцовай міліцыі, яны ж яго і прыпынілі. Адчуваеце тэндэнцыю? Атрымліваецца, не спайманы — не зладзей? Магчыма. А з чым тады спаймалі гэтых двух? І што знайшлі ў іхніх хатах? Гэта ўсё не доказы? Прычым, глядзіце: спачатку, пад ціскам неабвержных фактаў, браканьеры ва ўсім прызналіся! А потым, калі «дасведчаныя асобы» (зразумела, хто) іх праінструктавалі, то парушальнікі хуценька далі задні ход.

*— Думаю, не трэба здзіўляцца таму, што некаторыя работнікі міліцыі спачуваюць заўзятым браканьерам. Бо ў сэнсе незаконнага палявання яны таксама не святыя. Такія факты на Беларусі ўжо мелі месца.*

— Ёсць яны і ў нас. 25 студзеня мінулага года ў Чэрыкаўскім раёне Н. Н. Лягуцкі і В. Е. Лягуцкі (яны родзічы) незаконна здабылі казулю. Дык вось, першы з іх — старшы сяржант міжраёаддзела ўнутраных спраў Чэрыкаўскага раёна, ахоўвае (дакладней, ахоўваў) забруджаную Чарнобылем зону.

Гэтага сяржанта з радоў міліцыі, зразумела, звольнілі. Адбыўся суд. Былы міліцыянер заплаціў штраф і грошы за ўрон дзяржаве. Яго саўдзельнік таксама быў пакараны на пэўную суму. Падкрэслю вось што: у давядзенні справы да лагічнага канца немалую ролю адыграла прынцыповая пазіцыя нашай прыродаахоўнай пракуратуры (цяпер у яе, праўда, ужо іншы статус).

Аднак зноў з'яўляюцца факты, якія паказваюць, што правасуддзе не заўсёды святкуе перамогу. Прыгадваецца гісторыя з нейкім В. Ф. Дамковічам, жыхаром горада Шклова. Ён адправіўся на паляванне ў Кругілянскі раён, але як? Паляваў без адпаведнай пуцёўкі, з незарэгістраванай стрэльбай, дый яшчэ меў пры сабе лоўчыя петлі. Рэйдавая брыгада яго затрымала.

Пры вобыску ў яго дома знайшлі ажно 7 шкурак баброў і 27 — андатры! Можаце сабе ўявіць?

Завялі, зразумела, крымінальную справу. У выніку ж яна была спынена пракуратурай Шклоўскага раёна ў сувязі... з амністыяй. Была налічана гэтаму Дамковічу прыродаахоўнымі службамі сума больш як 40 мільёнаў рублёў на пакрыццё ўрону, прычыненага дзяржаве, але ён, вядомая справа, яе не заплаціў.

*— Сумна жыць на гэтым свеце, панове, сказаў бы класік. Чалавека не правучылі, не пакаралі, ён, безумоўна, нічога не адчуў і ходзіць пасміхаючыся. Каму тут урок? Хутчэй за ўсё — пстрычка па носе тым службам, якія абараняюць інтарэсы дзяржавы і бачаць марнасць сваіх намаганняў.*

*Можна ўявіць, якую карціну ствараюць такія «аматары футра» і да іх падобныя. Як, Леанід Міхайлавіч, яна складваецца ў маштабах вобласці?*

— Калі гаварыць на мове лічбаў, то службамі Магілёўскага аблкамітэта на парушальнікаў правілаў палявання і рыбнай ловлі летась былі складзены 522 пратаколы. А колькі такіх не выяўлена? Урон ад іх «дзейнасці» ў грашах цяжка нават уявіць. Мяркуйце самі: добрая палова ўсёй колькасці дзікіх капытных жывёл, якая адстрэльваецца ў нас афіцыйна па ліцэнзіях, здабываецца «дадаткова» — незаконным, браканьерскім шляхам.

*— У выніку, як казаў адзін з герояў вядомага фільма, мы маем тое, што маем...*

— Ужо гаварылася, што ў пачатку 90-х гадоў адбылося рэзкае зніжэнне колькасці дзікіх жывёл. У рэйды па ахове паляўнічых угоддзяў тады выязджала вельмі мала людзей з прызваных для гэтага службаў. Прыпыніла работу Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў, не кажучы ўжо пра «Дынама» ці Ваеннае паляўнічае таварыства.

За апошнія ж два гады ўсё актывізавалася. Мінпрыроды заняла ў гэтай справе жорсткую пазіцыю, падключыла да яе і органы рыбаахоўы. За вырашэнне праблемы ўшчыльную ўзяўся і наш абласны камітэт, актыўна працуюць цяпер на месцах раённыя інспекцыі прыродаахоўы. Жывей сталі паварочвацца і самі паляўнічыя таварыствы.

У выніку колькасць дзікіх капытных жывёл стала пакрысе ўзрастаць. Падзенне колькасці лася летась прыпынілася, а дзік, казуля і алень нават «пайшлі на павелічэнне».



*— Не хацелася б, Леанід Міхайлавіч, каб наша далейшая размова пайшла пад рэфрэн вядомай эстраднай песні мінулых гадоў: «А в остальном, прекрасная маркиза, все хорошо, все хорошо...»*

— Дык вы ж і самі разумееце розніцу паміж тым, што за кароткі час зроблена, і тым, што яшчэ трэба зрабіць. Не буду траціць час і пералічваць усе нашы праблемы, скажу пра галоўнае для нас. Яно ў тым, каб сумець падняць колькасць дзікіх жывёл хоць бы да таго ўзроўню, які быў у 1990 годзе.

Канкрэтныя мерапрыемстваў шмат, але асноўных напрамкаў работы — два: больш эфектыўная, жорсткая ахова жывёльнага свету і захады па падтрыманні колькасці дзікіх капытных, іх павелічэнні.

*— Цудоўна разумею ваш клопат. Але ж паглядзіце: вы, эколагі-прыродаахоўнікі, можаце быць вельмі жорсткімі ў адносінах да парушальнікаў заканадаўства, але ж знойдуцца «вельмі мяккія» людзі ў іншых ведамствах — і ведаеце ў якіх. Для «выратавальных аперацый» па вываду розных там браканьераў з-пад рукі закона знойдуцца і іншыя пралазы, не толькі тыя, пра якія мы з вамі ўпаміналі ўжо. І ўсё: ланцуг незамкнуты — значыць і паспеху вам не дабіцца.*

— Калі так ставіцца пытанне, давайце дадаткова разбяромся ў некаторых дэталях. Выпадак з тым самым Дамковічам і трыма дзесяткамі шкурак — вельмі паказальны прыклад, ён дастаткова характарызуе сітуацыю, якая складваецца. Я і цяпер думаю, што тут не абышлося без садзейнічання браканьеру з боку некаторых работнікаў тых жа праваахоўных органаў.

Скажу пра тое, пра што не ўпамянуў раней. Нават маладому следчаму пры тых доказах, што меліся па справе, хапіла б аднаго-двух дзён, каб ва ўсім разабрацца. А міліцэйскія прафесіяналы гэтую прасцейшую справу цягнулі... практычна год. Тут і надышоў час «усеагульнай амністыі», на чым «выехаў» парушальнік. Усё тут не без прычын. Таму яшчэ раз спытаю: адчуваеце тэндэнцыю?

Успомніце пра тых браканьераў, якія «знайшлі» бабра з бабрыхай і прыладамі для іх лоўлі. Матэрыялы ж гэтай крымінальнай справы нават не паступілі ў суд! Следчыя РАУС справу «раскруцілі», яны ж яе і «закруцілі». Усе ўсё там разумеюць, але «мудра маўчаць».

А калі падобная справа нават і дойдзе да суда? Што будуць, скажам так, мець правасуддзе і справядлівасць?

У Асіповіцкім раёне браканьераў заспелі «на гарачым» — яны незаконна здабылі аленя. Матэрыялы крымінальнай справы былі перададзены ў мясцовы суд. Што ў выніку? Гэтых рабаўнікоў



прыроды па сутнасці апраўдалі. За ўрон дзяржаве яны, натуральна, не заплацілі. Заўважце, зноў раздалася ўжо знаёмая «песня»: мы ішлі лесам і знайшлі забітага аленя, узялі сабе яго мяса і панеслі дамоў, каб не прапала.

Што атрымліваецца? Заспелі інспектары браканьера на месцы, дзе незаконна адстрэлена капытная жывёла, — куды там дзяржава? Вось адразу і прызнаецца. А потым (пасля субяседвання, і вядома з кім) пачынае мяняць паказанні. Калі пасля ўзбуджэння справы праходзяць месяцы, то паспрабуй дакажы, што браканьеры нахабна хлусяць. Скажу, што 99 працэнтаў злоўленых парушальнікаў узялі цяпер на ўзбраенне гэтую «сістэму» і выходзяць сухімі з вады.

*— З прыведзеных вамі прыкладаў я зразумеў адно: што-ніштo ў адпаведных заканадаўчых актах трэба мяняць і ўдакладняць. Інакш атрымліваецца цацканне з браканьерамі, а яны з закона смяюцца.*

— Сёння дзейнічаюць і новыя прыродаахоўныя законы, і новыя падзаконныя акты, ужываюцца і нарматывы ранейшага часу. Аднак характэрна: ні ў старых Правілах палявання, якія яшчэ маюць сілу, ні ў сучасным заканадаўстве не знайшла дакладнага ўвасаблення вельмі важная норма: якую ж адказнасць нясе грамадзянін, калі яго засталі са зброяй, але без адпаведных дазвольных дакументаў (нават і мясцовы жыхар без паляўнічай зброі) каля забітай дзікай жывёлы ці калі ён нясе яе «знойдзенае» мяса? Па цяперашніх няпэўных нормах такога «шчасліўчыка» прыцягнуць да адказнасці проста нельга. Баюся, што і ў навейшых заканадаўчых дакументах, праекты якіх толькі разглядаюцца, гэты важнейшы момант можа быць упушчаны.

Не буду пераказваць тут змест Пастановы Саўміна ад 30 снежня 1997 года «Аб паляванні і вядзенні паляўнічай гаспадаркі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Хто жадае, сам можа ўпэўніцца, што ў пункце пад нумарам 20 паняцце «здабытай прадукцыі палявання» настолькі затуманенае, што задумваешся, каму спрыяе такая фармулёўка.

Магчыма, што і таму ж браканьеру. Ён заўсёды скажа: прабачце, я гэтага ласа не здабываў, проста падабраў і нясу мяса ў свой склеп. І стрэльбы ў мяне ў руках няма (а яна ўжо ляжыць у вядомым толькі яму кустоўі). Абавязак жа сумленнага чалавека — не «падбіраць» забітую невядома кім лясную жывёліну, а паведаміць пра ўбачанае ў адпаведную дзяржаўную службу. Няўжо ўсё гэта так цяжка ўкласці ў заканадаўчую норму?

**Гутарыў Аляксей ДУБРАВЕНСКІ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА



# Дапаможам лесу расці

***Калегія Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь параўнальна нядаўна разгледзела пытанне: «Аб выкарыстанні зямель лясного фонду» і прыняла 12 пунктаў пастановы. Сярод іх ёсць вельмі слушныя, напрыклад, такі: «Прааналізаваць выкарыстанне зямель лясного фонду па кожнаму лясгасу, лясніцтву, вынікі разгледзець на калегіях ВЛГА і намеціць канкрэтныя меры па рацыянальнаму іх выкарыстанню». Усё пытанне цяпер у тым, якімі крытэрыямі будуць кіравацца на месцах пры вырашэнні праблемы: як лепш выкарыстаць зямлю, дзе, які і як вырошчваць лес?***

Можна кіравацца рэкамендацыямі глебава-лесатыпалагічнага абследавання, але не строга і літаральна, а абавязкова крытычна разглядаючы прапануемую карту рацыянальнага размяшчэння драўнінных парод у дачыненні да кожнага лесакультурнага ўчастка. Лесаўпарадчык, глебазнаўца, як і ўсякі чалавек, можа памыляцца, асабліва ў такой складанай справе, як вывядзенне межаў глебавага контуру ў лесе. І таму ўсякі раз, складаючы праект лясных культур на будучы год, ляснічы павінен прааналізаваць і зрабіць эканоміка-экалагічнае абследаванне тыпаў умоў месца росту і саставу лесаўтваральных парод. Пры гэтым лесаводча-экалагічная схема гэтай работы павінна быць ідэнтычная схеме для лясоў Беларусі ў цэлым, якую неабходна мець ужо ў гатовым і зацверджаным выглядзе.

У аснове эканоміка-экалагічнага абгрунтавання размяшчэння насаджэнняў лясных драўнінных і кустовых парод ляжаць два крытэрыі: мэтавае выкарыстанне вырошчваемых сартыментаў, біямасы дрэвастою і тыпы ўмоў месца росту. У гэтым выпадку пытанне аб аптымальных суадносінах дрэвастояў будзе вырашацца ў залежнасці ад эканомікі і ад зямлі.

На жаль, да гэтага часу яно вырашаецца па волі ўплывовых асоб і на падставе кан'юнктуры часу, у якім мы жывём. Вядомы лесавод гаварыў, што сасна ў Беларусі павінна займаць 90 працэнтаў лесапакрытай плошчы; адны спецыялісты пісалі, што выпас жывёлы безумоўна шкодзіць лесу, а іншыя, каб дагадзіць начальству і абараніць дысертацыі, «лічылі мэтазгодным паўней выкарыстоўваць кармавыя рэсурсы лясного фонду для развіцця малочнай жывёлагадоўлі». Адным было мала і 10 тысяч пасадачных месцаў на гектары лесакультурнай плошчы, а другім дастаткова і чатырох тысяч саджанцаў, але абавязкова хвойных парод. Лес тым часам рос і наглядна даказваў, перапанаўча даказвае і цяпер, што ён і без штучнай пасадкі здольны самааднаўляцца; што калі выключыць сенакашэнне і выпас жывёлы пад полагам лесу, то паспяхова адбываецца натуральнае аднаўленне дуба, ясеня, клёна, ільмы, граба. І ляснічаму застаецца толькі паступовымі і выбарачнымі высечкамі пераводзіць гэта самавысяванне, падрост, якога месцамі налічваецца дзесяткі тысяч дрэў на гектары, у першы ярус дрэвастою.

Вядома ж, не ўсюды так трэба рабіць, а толькі там, дзе гэтаму натуральна спрыяе тып умоў месца росту. У барах на Палессі дуб таксама засяляецца, але ў гэтых глебава-кліматычных умовах ніколі не будзе паўнацэннага дубовага дрэвастою, таму што гэта месца саснякоў з падлескам або другім ярусам з дуба. А вось калі дуб засяліўся пад полагам бярозы і асіны ў вільготных і сырых грудах, у карэннай дубраве, як, скажам, у Касцюковіцкім лясніцтве, то яго можна і трэба выводзіць у першы ярус паступовым і выбарачным высяканнем.

Крыху складаней з эканамічнымі крытэрыямі. Але калі мы ўпэўненыя, што ў перспектыве будзе развівацца свая дзяржаўная цэлюлозна-папяровая прамысловасць і штогод выкарыстоўваць 500 тысяч кубаметраў балансаў мяккалістававых парод у неакораным выглядзе, прымяняючы бісульфітны і сульфатны спосабы варкі цэлюлозы, то і вольха шэрая будзе каштоўнай, выгаднай драўніннай пародай. Гэта парода ў Віцебскай вобласці цяпер амаль што пустазелле. Але ж яна хутка расце і не патрабуе ніякіх затрат на вырошчванне, догляд, ахову ад шкоднікаў і хвароб, ад пажараў і самавольных высечак. Амаль усё гэта датычыцца таксама бярозы і асіны, якія біялагічна здольныя забяспечыць два ўраджаі, пакуль сасна і елка дасягнуць узросту натуральнай спеласці. Наяўнасць ліставых парод у чыстым выглядзе і ў саставе насаджэнняў падтрымлівае біялагічную разнастайнасць нашага лесу. Ападанне іх лісця, натуральны адпад дрэвастою, падлеску, травы ў ліставых насаджэннях добра ўгнойвае глебу і зніжае падзолаўтварэнне, характэрнае для чыстых ельнікаў.

Усё гэта разам узятае стварае спрыяльныя ўмовы для наступнага натуральнага абнаўлення сасны, елкі, дуба. Змена саставу драўнінных парод заўсёды была карыснай для лесу, як і севазвароты для поля. У аснове гэтых гаспадарчых працэсаў ляжыць адзіны біялагічны прынцып, і розніца толькі ў маштабе часу: палявыя севазвароты мы назначаем і вынік бачым, а каб убачыць спрыяльныя вынікі змены драўнінных парод, патрэбны два жыцці. Таму важныя пераемнасць у лясной навуцы і практыцы і давер да лесаводаў.

І яшчэ адзін прыклад абгрунтавання эканамічнага крытэрыя. Калі ў Гродзенскім ВЛГА навучыліся ператвараць дробнатаварную драўніну ў каштоўную таварную прадукцыю — значыць прачысткі на ўчастках лясных культур, прарэджванне маладых беразнякоў і асіннікаў становяцца рэнтабельнымі, і няма чаго баяцца натуральнага аднаўлення і павелічэння плошчы гэтых драўнінных парод.

Больш відавочны для ўсіх прыклад рацыянальнага выкарыстання зямель на шырокіх трасах ЛЭП. Цяпер мы не ўмеем інакш перадаваць электраэнергію на вялікую адлегласць, і таму такое адчужэнне зямель непазбежнае. Але ніхто не можа толкам сказаць, колькі гектараў яны займаюць і як іх землі выкарыстоўваюцца. А вось лесаводы Лёзненскага лясгаса стварылі на ўчастку такой трасы плантацыю навагодніх елак і ўжо атрымліваюць даход. Можна пасеяць там і шматгадовыя травы, бульбу, авёс для падкормкі дзікіх жывёл. І ўсё гэта будзе рацыянальна, разумна, па-гаспадарску ў дачыненні да зямлі, лясных угоддзяў.

**Міхаіл МАЁРАЎ, кандыдат сельскагаспадарчых навук.**



# «Таямнічая» Асвея

**Возера Асвейскае (яго плошча роўная 5 тысяч 363 гектары), што знаходзіцца ў Верхнядзвінскім раёне, — другое па велічыні пасля Нарачы. Тут таксама хацелі ў свой час зрабіць курортную зону — яшчэ Пётр Машэраў прапанаваў прыгажосць маляўнічых куткоў Верхнядзвіншчыны ад людскіх вачэй не хаваць. Аднак ідэі не суджана было ажыццявіцца, ды і людзі тады аддавалі перавагу адпачынку пад паўднёвым сонцам. А дваццаць гадоў таму ў паўночнай частцы Верхнядзвінскага раёна на плошчы 22,6 тысячы гектараў быў створаны часовы паляўнічы заказнік.**

Сёння ў начальніка раённай інспекцыі аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя Дзмітрыя Вішнеўскага стан вадаёма выклікае абгрунтаваную трывогу. Возера і так неглыбокае (сярэдняя глыбіня — 1,75 метра), а яшчэ штогод змяншаецца. Мала таго, што практычна не засталося мелкаводдзя з-за зараснікаў чароту па лініі берага і цяпер вадаплаўныя птушкі амаль не гняздуюцца, дык і рыба, што ідзе на нераст, пакутуе. Уласна, становішча выправіць не так і складана. Трэба толькі аднавіць старую дамбу, каб падтрымліваць патрэбны ўзровень вады. А чарот варта касой «прычасаць»: чайкі гэтую справу першымі ацэняць.

Вядома, патрэбны сродкі, якімі інспекцыя не валодае. Але, па сцвярджэнню Дзмітрыя Дзмітрыевіча, сума патрабуецца не настолькі вялікая, каб істотна спусташыць дзяржаўную кішэню. Тым больш, што ў адваротным выпадку згубяцца нашмат даражэйшыя каштоўнасці.

Што і адбываецца сёння з «сэрцам» Асвейскага возера — вострававам плошчай амаль 500 гектараў. Безназоўны востраў унікальны сваім рэльефам, вялікай разнастайнасцю глебаў, расліннага і жывёльнага, дакладней птушынага, свету, многія прадстаўнікі якога «ўладкаваліся» на старонках Чырвонай кнігі. Аднак па прыродных багаццях тупаюць кожны год на працягу лета цяляты. Гэтая зямля з'яўляецца «вотчынай» саўгаса «Асвейскі». Вось і распараджаецца «сэрцам» возера гаспадарка, як лічыць лепшым для сябе. Ператварае яго ў летні лагер для жывёлы. Пастухоў наймаць не трэба — вада ахоўвае тых бычкоў надзейна, да берага ў любы бок тры кіламетры.

Кіраўнік інспекцыі ў кастрычніку мінулага года на пасяджэнні раённай сесіі ўзняў гэтае пытанне. Здаецца, праніклісся, прынялі рашэнне перадаць тэрыторыю вострава лясгасу. Але гаспадары «малой» зямлі і чыноўнікі Камітэта сельскай гаспадаркі і харчавання Віцебскай вобласці мелі сваё меркаванне. І з аблвыканкама не так даўно спадар Вішнеўскі атрымаў адказ. Адмоўны.

— Усе прыродаахоўныя дакументы сцвярджаюць, што на востраве паша быць не можа, — Дзмітрый Дзмітрыевіч спасылаецца на палажэнне «Аб водаахоўных зонах», прынятае яшчэ ў 1989 годзе. — У дакуменце гаворыцца, што на востраве, які знаходзіцца на тэрыторыі вадаёма, дазваляецца сельскагаспадарчая дзейнасць, характэрная для прыбярэжнай паласы. А далей чытаем: «На прыбярэжнай паласе забараняецца разворванне зямель, выпас жывёлы, арганізацыя летніх лагераў для яе».

Усё, здаецца, зразумела і проста. Незразумела толькі, чаму чыноўнікі лічаць па-іншаму. Ці сапраўды мяркуюць, што без нагляду, пад адкрытым небам, ужываючы «чырванакніжныя» расліны, цяляты растуць лепш?

Дзмітрый Дзмітрыевіч праблему вычарпанай не лічыць. Збірае рэчавыя доказы — высновы навукоўцаў наконт каштоўнасці гэтага прыроднага ўтварэння. Каб потым паехаць у абласны цэнтр, паказаць, растлумачыць. Тым больш, што лёс «сэрца» Асвейскага возера быў вызначаны яшчэ ў 1992 годзе. Па нейкіх прычынах і тое рашэнне аб пераводзе пашы ў сенакос засталося нерэалізаваным.

Прынамсі, багаццем Асвейскага возера з'яўляюцца сапрапелі, з якіх атрымліваюцца ўгнаенні. А азёры Белае, Катляроўскае і Ляснянскае, што знаходзяцца паблізу, валодаюць лячэбнымі гразямі. Празрыстасць і чысціню вады тут ацанілі некаторыя віды рыб, якія ў іншых вадаёмах Верхнядзвіншчыны не водзяцца. Толькі ў Ляснянскім возеры знайшоў прытулак судак — заплывае з расійскіх азёр, якія непасрэдна звязаны з нашымі. Праўда, прамысловым відам ён не стаў, як і шчупак. Каб дазволіць парадавацца рыбакам, трэба ажыццявіць шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на павелічэнне папуляцыі. Аднак зрабіць гэта немагчыма па вядомай прычыне.

З той жа нагоды часткова знізілася колькасць пагалоўя жывёл на ахоўваемай тэрыторыі. Калі параўноўваць з 1992 годам, пагалоўе ласёў зменшылася ў 3,2 раза, дзікоў — у 2 разы, казуль — таксама амаль напалову. І спісаць усе страты на рахунак браканьераў не атрымаецца. Аб'ектыўная і не менш сур'ёзная прычына — пагаршэнне кармавой базы. Сёння лубіну і канюшыны жывёле не хапае, бо гэтыя культуры гаспадаркі амаль перасталі вырошчваць — насенне лубіну дорага каштуе. А цімафееўка ды іншыя злакі — дрэнная альтэрнатыва. Спадар Вішнеўскі прапануе на час паляўнічага сезона пакінуць заказны рэжым, каб спрыяць павелічэнню сем'яў жывёльнага і птушынага свету.

Сёння ў Акадэміі навук Беларусі распрацоўваецца праект Рэспубліканскага ландшафтнага заказніка, які зменіць раней існаваўшы. Ён пашырыць тэрыторыі, што будуць лічыцца заказнымі. У прыватнасці, «упішуцца» ў яго цяпер і азёры Белае, Катляроўскае і Ляснянскае. А значыць дабавіцца работы егерам і работнікам экалагічнай інспекцыі. Бо браканьеры не спяць, расчахляюць стрэльбы. Ды што стрэльбы, прыцэлы начнога бачання. На «крутых» джыпах прыязджаюць. Па назіраннях начальніка інспекцыі аховы экалогіі Верхнядзвінскага раёна браканьерствам той, хто недаядае, не займаецца. На жаль, часцей такім чынам людзі бавяць час.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ПІСЬМО З ГЛЫБІНКІ*

## Рагатыя рэкардсменкі з Лумны

— Кароў даю, малако нашу, а на фэст гаспадар ездзіў, — смяецца Надзея Сідараўна Алексяюк, маючы на ўвазе сход на Высокаўскім сырзаводзе, на які нядаўна былі запрошаны вяскоўцы, што больш за іншых прадалі летась малака дзяржаве.

Тут не было роўных Алексеюкам: ад кожнай з дзвюх кароў здалі па 3892 кілаграмы. За год — амаль восем тон.

— Было б і восем, — кажа Надзея Сідараўна, — але ж і ў нашай Лумне не ўсе кароў трымаюць. Калі хто просіць малачка, не магу адмовіць. Ды і сабе пакідала літраў сем штодня, каб і смятаны сабраць, і тварог мець. Дзеці дом у Брэсце будуюць — памагаем як можам. І грошы за малако нам вельмі дарэчы.

За леташні год выручылі Ігнат Міронавіч і Надзея Сідараўна ні многа ні мала — амаль 26 мільёнаў. На вышэйпамянёным сходзе атрымаў Міронавіч два мільёны прэміі. За тыя грошы зноў камбікорму купілі, бо не толькі сенам ды буракамі любяць каровы паласавацца. Тым больш, што і папаўненне ў хляве вось-вось прычакаюць.

А пакуль што сумуюць без малака і гаспадары, і сабака, і кот. Надзея Сідараўна з вопыту (не адзін год працавала ў калгасе даяркай) ведае, што сама меней на два месяцы перад ацёлам кароўку трэба запусціць — тады будзеш з малаком.

А летам былі дні, калі па 50 літраў здавала. Адзін раз на дні прымалі яго, дык у спёку ратавала тое малако ў халоднай, з калодзежа, вадзе, раз-пораз мяняючы яе.

Каровы ў іх, зазначае Надзея Сідараўна, не «простыя»: адна з іх атрымала жыццё ў эмбрыянальным цэнтры калгаса, а другая — ад пародзістага калгаснага быка. А той, хто займеў цялушку з падвор'я Алексеюкоў і выгадаваў карову, удзячны ім...

**Галіна НОВІК.**

*Калгас «Савецкая Беларусь», Камянецкі раён.*

# ПРАПАЎ ЧАЛАВЕК...

Мяркуючы па паведамленнях сродкаў масавай інфармацыі, у Мінску, у іншых буйных гарадах выпадкі знікнення людзей даволі распаўсюджаныя. І нямала такіх выпадкаў звязана з гвалтоўнай смерцю, крыміналам. Ну а што ў правінцыі?

Тут таксама прападаюць людзі, але адбываецца гэта значна радзей, хаця размоў, самых разнастайных чутак такія выпадкі параджаюць шмат.

Па-першае, з-за сваёй нетыповасці, па-другое, з-за таго, што ў правінцыі ўвогуле, у адрозненне ад буйных гарадоў, усе ўсіх ведаюць, ды і тэлефон «без правадоў» працуе тут вельмі спраўна.

Нядаўна ў газеце «Пастаўскі край» прачытаў паведамленне мясцовага РАУС: «Адшукваецца прапаўшы без вестак жыхар г. Паставы Собаль Пётр Іванавіч, 1940 года нараджэння, які 21 лютага ў 19.30 пайшоў з дому і не вярнуўся. Апошні раз яго бачылі ў 21 гадзіну таго ж вечара на вуліцы Маркава». Далей ідзе пералік прымет, адзення.

І тут жа яшчэ адно паведамленне: «Адшукваецца 64-гадовая жыхарка вёскі Навасёлкі-І Мацур Ванда Фердынандаўна. Раніцай 27 лютага яна адправілася на веласіпедзе ў вёску Чашкоўшчына і да гэтага часу яе месцазнаходжанне невядомае. Апошнія звесткі — нібыта накіроўвалася ў бок Прудніцкага лесу».

Вырашыў пацікавіцца гэтымі выпадкамі. Начальнік аддзялення крымінальнага вышуку РАУС Ігар Варабей расказаў, што ў выпадку з Собалем найперш была абследавана мясцовасць у тым раёне райцэнтра. Асаблівую ўвагу ўдзялілі рацэ Мядзелка, яе берагам. Пошукі нічога не далі, як дарэчы і адпрацоўка іншых версій, паведамленняў у міліцыю. Аднак у выніку распрацоўкі адной з версій быў затрыманы злачынца, які незадоўга да гэтага судом быў вызвалены з месца зняволення з умоўным тэрмінам. За чатыры дні з непаўналетнімі «памочнікамі» ён учыніў ажно чатыры злачынствы, у тым ліку і разбойны напад. Але да прапаўшага ніякага дачынення не меў. Увогуле Ігар Варабей, зыходзячы з папярэдняга вопыту (а час ад часу людзі знікаюць і ў райцэнтры), мяркуе, што крымінальны матыў, верагодней за ўсё, тут адсутнічае. Проста чалавек пасля лазні выпіў. Гэта найчасцейшы выпадак — смерць ад пераахалоджвання. Хаця можа быць усялякае, пошукі працягваюцца.

Дарэчы, існуе правіла, што на працягу дзесяці дзён з моманту прапажы чалавека шукаюць у мясцовым маштабе, потым пачынаецца рэспубліканскі вышук.

Прытым не на паперы — актыўна правяраюцца ўсе месцы, дзе можа апынуцца чалавек, ідзе апазнанне ў моргах. Ну, а пасля года пачынаюцца пошукі ўжо на міждзяржаўным узроўні. У раёне быў выпадак, калі цётка заявіла аб знікненні свайго пляменніка. І толькі больш чым праз год адшукалі яго ў Малдавіі. Хлопец спакойна працаваў на будоўлі, ну а цётку аб сваім ад'ездзе проста не папярэдзіў.

А што з другім выпадкам? І ў знікненні Мацур міліцыя не бачыць пакуль што крымінальнага следу. Жанчына была крыху хворая, з няўстойлівай псіхікай. І тое, што яна накіроўвалася ў Прудніцкі лес, дае падставы меркаваць, што рана ці позна яна там і будзе знойдзена. Лес немалы, там некалі размяшчаўся палігон ваенна-паветраных сіл. Жыла Мацур адна, аб яе знікненні паведамілі суседкі. Яны ж і бядуюць аб прапаўшай. Ну а ў Собаля сям'я, у якую прыйшло непапраўнае гора, таму што якія б надзеі ні цепліліся, верагодней за ўсё, што яго ўжо няма ў жывых. Такое яно, жыццё.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## АЎТАРУЧКА, ЯКАЯ СТРАЛЯЕ...

У Магілёве на кватэры рабочага мясцовага завода аператыўнікамі міліцыі выяўлены багаты арсенал зброі. Застаецца толькі здагадвацца, на што яму спатрэбіліся агнястрэльныя рэчы, аднак калекцыя і сапраўды ўнушальная: канфіскаваны два пісталеты парабелум, адзін з якіх быў з глушыцелем, два самаробныя рэвальверы, абрэз паляўнічага ружжа з устаноўкай вінтовачнага ствала, вінтоўка Мосіна і 250 патронаў рознага калібру.

У Гомелі ж супрацоўнікі міліцыі затрымалі мужчыну, у машыне якога было канфіскавана прыстасаванне для стральбы малакаліберными патронамі ў выглядзе аўтаручкі і каля 500 патронаў.

**Ігар ГРЫШЫН.**



# Лунінецкая пошта ганарыцца ўласным музеем — першым у Беларусі

Гісторыя Лунінца ў многім падобная на гісторыю навакольных мястэчак ды іншых невялікіх гарадоў, раскіданых па Беларускім Палессі. Таму, зразумела, асаблівых адметнасцяў, якія былі б цікавымі для падарожніка, гарадок мае няшмат. Але ў апошні год тут з'явіўся «аб'ект», які абяцае быць цікавым для любога даследчыка роднага краю і гісторыі Беларусі. Гэта раённы вузел сувязі.

Што цікавага, скажаце вы, можна знайсці на пошце? Мы звычайна ходзім туды, каб купіць канверт, атрымаць пенсію ці падпісацца на «Звязду». Я таксама думаў гэтак жа да таго часу, пакуль не пабываў у Лунінцы і не пагасціў у кіраўніка раённага вузла сувязі Мікалая Аляшкевіча. У горадзе створаны музей мясцовай пошты. Першы ў Беларусі, і пакуль нічога падобнага ў краіне не існуе.

Ідэя яго стварэння з'явілася напярэдадні 110-гадовага юбілею лунінецкай пошты, які адзначаўся ў мінулым годзе. Аўтарам яе выступіў М. Аляшкевіч. Задума так моцна запала ў душу кіраўніка вузла сувязі і яго калег, што літаральна за лічаныя тыдні былі сабраны сотні экспанатаў: фотаздымкі, дакументы, узнагароды, выразкі з газет і часопісаў. Такім чынам быў пакладзены пачатак музею. М. Аляшкевіч не пашкадаваў свайго водпуску і прысвяціў вольны час пошуку звестак пра мясцовую пошту ў архівах, бібліятэках. Была перагалістана падшыўка раённай газеты за ўсе гады яе выхаду. Шукаць матэрыялы дапамагалі супрацоўнікі пошты, многае падаравалі ветэраны. М. Аляшкевіч сцвярджае, што яны цалкам падзяляюць яго задумы і без іх дапамогі наўрад ці ўдалося б рэалізаваць ідэю стварэння музея.

Напачатку ў сувязістаў не ўзнікала нават праблемы з будынкам. Больш як сорак стэндаў, якія расказваюць пра 110-гадовую гісторыю развіцця лунінецкай пошты, размясціліся на сценах калідораў будынка раённага вузла сувязі. Яны даступныя для ўсіх жадаючых. Таму людзі ўжо заходзяць не толькі дзеля трывіяльнага «пазваніць» ці «купіць марку». Часта забягаюць школьнікі.

Фанатычная апантанасць лунінецкіх сувязістаў, якую можна толькі ўхваліць, не прайшла да гэтага часу. М. Аляшкевіч, разважаючы пра будучае музея, расказаў, што паштавікі набылі фотаапарат і відэакамеру. Таму пачалі «пісаць» гісторыю сённяшняга дня. Можна быць упэўненым, што праз некалькі гадоў цяперашнія здымкі таксама набудуць гістарычныя адзнакі.

Ветэраны, якія аддалі пошце гады свайго жыцця, прыходзячы ў музей, плачуць каля экспанатаў і дзякуюць, што іх не забылі, што іх праца аказалася патрэбнай і карыснай. Ля стэндаў сапраўды можна стаяць гадзінамі — за кожным дакументам — гісторыя, за кожным фотаздымкам — чалавечы лёс.



● Мікалай Аляшкевіч знаёміць з экспанатамі музея.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

## Отчет о прибылях и убытках за 1997 г.
**АСО «Виктория»**
***г. Минск, ул. Красная, 17.***

| Прибыль (доходы) | млн. руб. | Убытки (расходы) | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Страховые взносы по прямому страхованию | 1036,4 | 1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм | - |
| 2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования | - | 2. Расходы на ведение дела | 677,9 |
| 3. Страховые взносы, полученные от перестраховочных операций | 145,4 | 3. Отчисления в резервы по накопительным и рисковым видам страхования | 672,5 |
| 4. Прочие доходы от страховой деятельности | - | 4. Уплаченные страховые взносы по рискам, переданным в перестрахование | 173,3 |
| 5. Доходы от внереализационных операций | 499,9 | 5. Отчисления в фонд предупредительных мероприятий | - |
| ИТОГО ДОХОДОВ | 1681,7 | 6. Прочие расходы | 126,8 |
| Убыток | - | ИТОГО РАСХОДОВ | 1650,5 |
| Всего | 1681,7 | Прибыль | 31,2 |
| | | Всего | 1681,7 |

## Годовой баланс за 1997 год
**АСО «Виктория»**
***г. Минск, ул. Красная, 17.***

| Актив | млн. руб. | Пассив | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Расчетный счет | 101,8 | 1. Уставный капитал | 4,0 |
| 2. Валютный счет | - | 2. Резерв по накопительным и рисковым видам страхования | 1810,8 |
| 3. Расчеты в банке по средствам резервов платежей | 1770,0 | 3. Фонды и резервы специального назначения | 167,3 |
| 4. Касса | - | 4. Средства в расчетах | 72,3 |
| 5. Основные средства и другие долгосрочные активы | 111,9 | 5. Прочие пассивы | -38,6 |
| 6. Дебиторы | 6,0 | БАЛАНС | 2015,8 |
| 7. Прочие активы | 26,1 | | |
| БАЛАНС | 2015,8 | | |

*Достоверность баланса подтверждена независимой аудиторской фирмой АООО «Аудиториз». Лицензия № 80 от 07.07.94 г.*
17 марта 1998 г.

## *Итоги финансово-хозяйственной деятельности Пенсионного закрытого акционерного страхового общества «Богач-жизнь»*
г. Минск, ул. Лынькова, 19, корп. 1
**ОТЧЕТ О ПРИБЫЛЯХ И УБЫТКАХ ЗА 1997 ГОД**

| Прибыль | млн. руб. | Убытки (расходы) | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Поступило страховых взносов по к-ту 38 счета | 1634,3 | 1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм | 14,2 |
| 2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования | - | 2. Расходы на ведение дела | 1015,9 |
| 3. Страховые взносы, полученные от перестрахования (по к-ту 34 счета) | - | 3. Отчисление в резервы по накопительным и рисковым видам страхования | 1293,3 |
| 4. Прочие доходы по страховой деятельности (по Кт 33 счета) | - | 5. Отчисление в фонд предупредительных мероприятий | |
| 5. Доходы от внереализационных операций (по Кт 39 счета) | 1366,2 | 6. НДС и другие налоги | 242,0 |
| ИТОГО ДОХОДОВ | 3000,5 | 7. Прочие расходы (сч. 26,32) | 14,6 |
| УБЫТКИ | - | ИТОГО РАСХОДОВ | 2580,0 |
| | | ПРИБЫЛЬ | 420,5 |

### *Годовой баланс 1997 г.*

| Актив | млн. руб. | Пассив | млн. руб. |
|---|---|---|---|
| 1. Расчетный счет | 48,9 | 1. Уставный капитал | 500,0 |
| 2. Валютный счет | - | 2. Резерв по имущественному страхованию и страхованию от несчастных случаев | - |
| 3. Счета в банке по средствам резервов платежей | 3716,0 | 3. Резерв по страхованию жизни, пенсий и медицинскому страхованию | 3575,4 |
| 4. Касса | | 4. Фонды и резервы специального назначения | 65,1 |
| 5. Основные средства и др. долгосрочные активы | 57,5 | 5. Средства в расчетах | - |
| 6. Дебиторы | 100,0 | 6. Прочие пассивы | 42,1 |
| 7. Прочие активы | - | 7. Непокрытый убыток прошлых лет | - |
| БАЛАНС | 3958,4 | 8. Убытки отчетного года | 224,2 |
| | | БАЛАНС | 3958,4 |

*Достоверность баланса подтверждается аудитором-предпринимателем А. К. Волчковой (лицензия на аудиторскую деятельность серии АБ № 805 от 06.04.1995 г.)*

*Свидетельство № 001611 от 14.11.1997 г., выданное горисполкомом*

***КРЫМІНАЛ***

## Сумленне прачнулася праз два з лішнім гады?

**У Быхаўскае раённае аддзяленне міліцыі звярнулася мясцовая жыхарка, якая неўзабаве прызналася ва ўчыненым у снежні 1995 года злачынстве.**

Жанчына расказала, што ўдарыла малатком па галаве ў сваёй хаце іншую жанчыну, а потым на санках адцягнула яе труп да Дняпра і спіхнула яго ў раку. Забітая (па словах заяўніцы) жанчына лічыцца прапаўшай без весткі са студзеня 1996 года. Зараз міліцыя пільна правярае прызнанне, але адсутнасць трупа і сведак ствараюць, зразумела, вялікія складанасці ў расследаванні гэтай справы.

**Ілона ІВАНОВА.**

ПОГЛЯД

# ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА: «МЯККІ» ВАРЫЯНТ?

**Размовы аб неабходнасці рэфарміравання айчыннай пенсійнай сістэмы вядуцца даволі даўно. Безумоўна, без стварэння канкрэтнай заканадаўчай базы ўсе размовы хутчэй нагадваюць звычайнае дэкларaванне намераў, рэалізацыя якіх аднесена на няпэўную перспектыву. Сёння ж, зыходзячы з канцэпцыі рэформы, выпадае канстатаваць усяго дзве акалічнасці — змены будуць адбывацца павольна і, як чакаецца, без сур'ёзных сацыяльных узрушэнняў. Разам з тым, калі меркаваць па разгорнутай апошнім часам дыскусіі вакол пенсійнай сістэмы, дэталёвае вывучэнне ўсіх «за» і «супраць» у дадзеным выпадку яшчэ наперадзе.**

Пенсійная сістэма Беларусі, як і большасці краін свету, заснавана на вядомым прынцыпе «салідарнасці пакаленняў». Калі сцісла, сэнс яго зводзіцца да наступнага: грамадзянін, які працуе, за кошт адлічэння нейкага працэнта ад свайго заробку ўтрымлівае пенсіянера. Прычым адметна, што фінансаванне пенсій робіцца за кошт бягучых адлічэнняў, агульная сума якіх залежыць перш-наперш ад такіх аднолькава важных фактараў, як памеры заробкаў працуючых, памеры страхавых тарыфаў, а таксама колькасць занятых у эканоміцы ў дадзены момант. Гэтыя ж фактары трэба разглядаць як галоўныя прычыны, што ўплываюць на памеры пенсіі. Не сакрэт, што ў мінулым месяцы «сярэднія» пенсіі склалі 1 млн. 475 тыс. рублёў, або ўсяго 64,4 працэнта ад мінімальнага спажывецкага бюджэту. Апошнія лічбы, пагадзіцеся, красамоўна сведчаць як аб крызісе пенсіяніравання ў Беларусі, так і аб неабходнасці пэўных рэформаў. Іншая справа, што гэта павінны быць за пераўтварэнні?

Казаць лішнія словы аб цяперашніх заробках, відаць, не трэба. Дастаткова аднаго: сёння сярэдняя зарплата ў краіне не нашмат перавышае мінімальны спажывецкі бюджэт, а значыць можа задаволіць натуральныя патрэбы толькі непасрэдна працуючага чалавека. Наўрад ці варта лічыць выйсцем і павелічэнне страхавых тарыфаў. Зараз адлічэнні на сацыяльнае страхаванне складаюць 35 працэнтаў ад фонду аплаты працы, якія выплачвае наймальнік, плюс 1 працэнт ад заробку кожнага з нас. Павелічэнне гэтых працэнтных ставак магло б вырашыць праблему пенсій, прынамсі, на нейкі час. Аднак хібы падобнага падыходу відавочныя, бо ён не проста не змяняе саму структуру пераразмеркавання пенсій унутры сістэмы. Павелічэнне тарыфаў, апроч таго, натуральна адаб'ецца на сабекошце прадукцыі і, як вынік, на росце цэн.

Што да становішча на рынку працы, дык тут сітуацыя ўвогуле падаецца пагражальнай. Дзве акалічнасці. Як сведчыць статыстыка, з 1990 года колькасць занятых у эканоміцы краіны зменшылася на 15,3, тады як колькасць пенсіянераў, наадварот, павялічылася за гэты час на 12,4 працэнта. Калі яшчэ 8 гадоў таму на аднаго пенсіянера прыпадала прыкладна па 2,2 працуючых, то зараз — толькі 1,6. Гэта зусім несуцяшальная тэндэнцыя, улічваючы справы з нараджальнасцю ў 90-я гады, працягнецца і надалей.

Словам, ніводны з асноўных паказчыкаў стану пенсіяніравання (памеры заробкаў і страхавых адлічэнняў, а таксама сітуацыя на рынку працы) надзей на хуткае вырашэнне праблемы не дае. У такіх варунках выснова будзе адпаведная: патрэбны змены ў самой пенсійнай сістэме.

Нагадаем, што, паводле канцэпцыі рэфарміравання, у перспектыве пенсійная сістэма Беларусі будзе мець тры ўзроўні — сацыяльныя, страхавыя (або працоўныя) і дадатковыя недзяржаўныя пенсіі. Схема, як можна заўважыць, даволі простая і да таго ж добра вядомая ў свеце. Аднак наіўна меркаваць, што для вырашэння ўсіх пытанняў будзе дастаткова аднаго пераходу да яе. Выйсце ў іншым — у стварэнні адпаведных умоў. Гаворка аб тым, каб паслабіць той самы «ціск» пенсіянераў на працуючую частку насельніцтва.

Шляхоў, як гэта зрабіць, існуе некалькі. Калі адкінуць памянёнае ўжо павышэнне страхавых тарыфаў як неперспектыўнае, адзін з іх, як быццам, напрошваецца сам сабой — трэба павялічыць тэрмін выхаду на пенсію. Дарэчы, менавіта на такія непапулярныя крокі пайшлі апошнім часам большасць краін Усходняй Еўропы і былога СССР. Беларусь? Відавочна, што ў нас абралі больш «мяккі» варыянт.

Зараз можна сцвярджаць дакладна, што нашай краіне цяперашні пенсійны ўзрост (60 гадоў для мужчын і 55 — для жанчын) у бліжэйшы час не павялічыцца. Мэта стаіць іншая — заахвоціць чалавека добраахвотна адкласці час выхаду на пенсію. Стымул (не выключана, між іншым, што прапанову аб гэтым Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу разгледзіць на бліжэйшай сесіі) рыхтуецца такі: за кожныя два месяцы «пасляпенсійнай» працы памер пенсіі будзе ўзрастаць на адзін працэнт.

Наколькі можна меркаваць зараз, змены закрануць і парадак пенсіяніравання за шкодныя ўмовы працы. Трэба сказаць адразу, што «датэрміновыя» пенсіі не знікнуць. Аднак з цягам часу ўсе яны будуць пераведзены ў недзяржаўную сферу, у так званыя галіновыя пенсійныя фонды. Прычым, ёсць верагоднасць, што на пераходны перыяд, пакуль будуць ствараца такія фонды, дзяржава можа пайсці на прамежкавае рашэнне і павялічыць страхавыя адлічэнні для тых прадпрыемстваў, якія выкарыстоўваюць працу ў неспрыяльных умовах.

Нарэшце, яшчэ аб адным: для працуючых пенсіянераў пытанне выбару — або пенсія або зарплата ў недалёкай будучыні стаяць не будзе. Справа не толькі ў тым, што для большасці гэтых людзей працяг працы з'яўляецца элементарным сродкам выжывання. Так склалася, што сёння некаторыя спецыяльнасці і нават цэлыя галіны эканомікі з-за нізкага ўзроўню аплаты працы вымушаны разлічваць менавіта на пенсіянераў. Аргумент, здаецца, больш чым пераканаўчы.

Варта паўтарыцца яшчэ раз, што напрацоўка праектаў адпаведных змяненняў у пенсійныя законы толькі пачынаецца. Тым не менш, некаторыя прапановы ўжо знаходзяцца ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, якая можа даць ім сваю «ацэнку» ўжо сёлета. Што мы атрымаем у выніку? Зрэшты, чакаць адказу на гэтае пытанне засталося не так доўга.

**Сяргей ГРЫБ.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ***

# Роздумы, рэплікі, згадкі

***(Са сшыткаў розных гадоў)***

### БОЖА, ЯКОЕ РАСЧАРАВАННЕ!

Шмат разоў у жыцці мне прыходзілася гаварыць: «Хай бы я лепш гэтага не ведаў! Хай бы лепш так і дажыў свае гады, не ведаючы пра гэта!.. Якога цяжкага грузу не ўскінулася б мне на душу!..»

Апошняе падобнае расчараванне перажыў зусім нядаўна: знакаміты рускі паэт Міхаіл Ісакоўскі — даносчык на Якуба Коласа! («Аргументы и факты», Смоленск, 1998, № 4). Неверагодна! Свядомасць адмаўляецца ўспрымаць і верыць: любімы ў народзе за свае песні Ісакоўскі даносіць — прычым добраахвотна, без прымусу, без чыйгось націску — на вялікага паэта Беларусі! Узяўшы для перакладу на рускую мову вершы Якуба Коласа, западозрыў апошняга ў контррэвалюцыйнай, антысавецкай дзейнасці, і мала таго што сігналізаваў у Маскву, у Саюз пісьменнікаў, літчыноўніку Стаўскаму, дык яшчэ і выказаў сваё патрабаванне пакараць «злачынцу». На падставе чаго? А таго, што Колас прапанаваў для сваёй маскоўскай кнігі верш «Полымя», прысвечаны пятай гадавіне аднайменнага беларускага літаратурна-мастацкага часопіса. «Напрашивается вывод, что сделано это с враждебными целями. Во всяком случае, дело это, по-моему, требует расследования, и я прошу Вас, Владимир Петрович, принять необходимые меры. М. Исаковский. 19/05.1937.»

19-га траўня 1937-га! Таго самага — страшнага, жахлівага 37-га! Ну добра, што яго ліст быў перасланы ў Беларусь, у ЦК КПБ, В. Ф. Шаранговічу, адтуль — перададзены ў Саюз пісьменнікаў М. Ц. Лынькову — і ўрэшце ўсё абышлося: Якуб Колас не стаў ахвярай даносу, ахвярай звышпільнасці няшчасна таленавітага паэта Ісакоўскага. А магло ж бы ўсё кончыцца трагічна...

Божа прамілы, прасветлы! Што ж гэта такое рабілася-дзеелася ў тым СССР? Адзін паэт піша палітычны данос на другога паэта, — прычым, на паэта другой рэспублікі, другога народа, другой нацыі, на паэта, які ўжо быў гонарам і славай Беларусі, які ўжо адзінаццаць гадоў меў годнасць Народнага. Што табе, у рэшце рэшт, трэба было ад паэта, які належаў другому народу? Чаму ты не падумаў: гэта не мая справа, не наша справа, беларусы разбяруцца самі? Зрэшты, чаму ты не пазваніў ці не напісаў Якубу Коласу і не спытаў, якому «Полымю» прысвечаны верш: часопісу ці літаратурнай суполцы? І Колас адказаў бы табе: часопісу, а не суполцы, на якую павесілі ярлык «нацдэмаўска-контррэвалюцыйнай».

. А яшчэ мяне ўразіла тое, што, зрабіўшы палітычны данос, пасля чаго верш Коласа ў маскоўскую кнігу не ўвайшоў, Ісакоўскі астатнія, прысланыя яму вершы «ворага народа», «контррэвалюцыянера», пераклаў на рускую мову. Як жа так? Такі пільны, такі прынцыповы змагар за чысціню ідэй камунізму, — як жа ты не пагрэбаваў перастварaць на рускую мову вершы таго, на каго данёс?

Пазней Якуб Колас і Міхаіл Ісакоўскі шмат разоў бачыліся, канешне ж, віталіся, гутарылі. У лістападзе 1952 года Ісакоўскі апублікаваў у газеце «Звязда» свой вельмі хвалебны артыкул пра Коласа — да 70-годдзя народнага паэта Беларусі. У канцы гэтага ж месяца на юбілейным вечары Якуба Коласа ў Маскве першым з прывітальным словам выступіў... М. Ісакоўскі. Ці помніў ён у той вечар пра свой данос? Ці забыўся на яго як на дробязь — паводле грамадскай маралі таго часу? Божа прамілы, прасветлы!..

*1998*

### З ВЯЛІКАЙ-ВЯЛІКАЙ ТРЫВОГАЙ

Зусім нядаўна ў расійскай «Литературной газете» прачытаў вось такі пасаж пра візіт аднаго з «новых рускіх» у ЗША, дзе яго чакалі і сустракалі даўнія знаёмыя, якія эмігрыравалі туды гадоў дзесяць таму. «У аэрапорце пасля абдымкаў і прывітанняў госця пасадзілі ў машыну і сабраліся везці да сябе дамоў. Аднак, на іх вялікае здзіўленне, ён папрасіў падкінуць яго ў адзін з вельмі не танных гатэляў, што ў Матхэтане, дзе для яго зарэзерваваны нумар. На воклічы абурэння: нашто табе гатэль? нашто такія шалёныя растраты? хіба табе няма дзе спыніцца? — ён спакойна адказаў: «Не хачу як бедны родзіч». А потым сказаў, што паедзе спачатку ў Бостан да дачкі, якая вучыцца ў тамтэйшым універсітэце, з'ездзіць з ёю ў Фларыду, можа, потым у круіз на Багамы, а як вернецца ў Нью-Йорк, возьме напракат аўтамабіль і яны махнуць у Канаду». І калі пасля ўсёй гэтай праграмы госць наведаў знаёмых, апошнія, людзі досыць забяспечаныя, адчулі сябе перад ім беднымі родзічамі. «Новы рускі» ў Амерыцы так шыкаваў, так раскідваўся «зялёнымі», што «амерыканцы» са стажам ажно разгубіліся: яны пакідалі яго ў Расіі радавым службоўцам на сціплай зарплаце, і вось... І вось што тым часам у Расіі здарылася, якія адбыліся перамены. Многія звычайныя, сярэдняга дастатку, грамадзяне сталі бухматымі «грашавітымі мяшкамі», абярнуліся ў такіх фінансавых тузоў, што не ведаюць, дзе дзяваць долары.

Я прачытаў гэты пасаж — і ў каторы раз адчуў, як у сэрцы закіпае гнеў. У памяці пранесліся сотні тэлекадраў аб жабрацкім жыцці рабочых, калгаснікаў і настаўнікаў, людзі слабнуць і гаснуць ад недаяду і голаду, сотні тысяч дзяцей пакутуюць ад хвароб, але іх няма чым лячыць, няма грошай на лекі, а тут... а тут — выскачкі-нуварышы вар'яцеюць-шалеюць ад сытасці, ад раскошы, ад усёдазволенасці, ад самадурскай пыхі... І ўсё гэта на вачах ста пяцідзесяці мільёнаў грамадзян Расіі! Дык хто ж у такім разе яны — гэтыя сто пяцьдзесят мільёнаў? Няўжо — адно халопы? Адно — бяссільныя, бязвольныя апушчэнцы і недарэкі? Не могуць пасадзіць на месца кучку бессаромных паразітаў? Разумеючы, як цынічна іх ашукалі і абрабавалі, не могуць правесці прыватызацыю так, каб кожны працоўны атрымаў не дохлыя ваўчэры, а рэальную долю маёмасці, гарантаваныя законам акцыі на гэтую сваю долю?

Ну, а што ж духоўныя пастыры-павадыры мільёнаў — тыя ж самыя пісьменнікі, журналісты, артысты, мысляры-навукоўцы? Чым яны занятыя тым часам? Наязджаюць у Беларусь — з клопатам, хаця б у нас тут не завялі карані славянства? Іншых праблем — у сябе дома — не маюць? Тое, у якім становішчы свой народ, — не баліць? Душу не пячэ, не мучае? А як жа гэта? А дзе ж вернасць вялікім традыцыям?

Пра сённяшнюю сітуацыю ў Расіі часта кажуць: хацелі як лепш, а выйшла як заўсёды. Ды не, шаноўныя! Выйшла менавіта так, як хацелі, як было задумана. Задумалі хрыстапрадаўцы ператварыць у дурняў сто пяцьдзесят мільёнаў сваіх суайчыннікаў — і ператварылі. Зрэшты, чаму — сто пяцьдзесят? А ўсюды? А пяцьдзесят — на Украіне? А ў Сярэдняй Азіі? А ў Закаўказзі? Хіба не тое самае? Хіба і на кожнай з гэтых тэрыторый кучка рабаўнікоў-зладзюганаў не ўзвысілася над мільёнамі сумленных і таму няшчасных людзей? Але і мы — у Беларусі, і яны — усюды там, — усе мы, па звыкласці, усё яшчэ глядзім-пазіраем на Расію. Як бы чагосьці ад яе чакаючы. Як бы на штосьці спадзеючыся. Відаць, таму і нераўнадушна. Таму і з трывогай. З вялікай-вялікай трывогай.

*1998*

## НА СВАЕ ВОЧЫ

# ШЛЯХ ТАЙВАНЯ

## І. ВЫТОКІ

**— Чан Кайшы бачыў? — замест прывітання спытаў пры сустрэчы, калі я вярнуўся з Тайваня, востры на язык калега.**

**— Бачыў! — Тут жа адрэагаваў я. — І табе магу паказаць...**

**І падаў яму металічны тайваньскі долар з выявай такога таямнічага і загадкавага для нас генералісімуса. Калега аслупянеў...**

**ПРА ГЭТЫ КУТОЧАК** нашай шматпакутнай матухны-Зямлі ва ўсіх без выключэння нашых, савецкага часу, энцыклапедыях і даведніках пісалі практычна адно і тое ж. Што канкрэтна? Ды вось што:

*«Тайвань — востраў на паўднёва-ўсходнім узбярэжжы Азіі, аддзелены ад мацерыка Тайваньскім пралівам. З астравамі Пэнху — правінцыя КНР. 36 тысяч км2. Насельніцтва — 16 мільёнаў чалавек (1975 г.).*

*У XIII стагоддзі Тайвань афіцыйна ўключаны ў састаў Кітая. У 1895—1945 гг. — пад уладай Японіі. У 1949 годзе пасля перамогі народнай рэвалюцыі і абвяшчэння КНР Тайвань стаў прытулкам астаткаў гаміньданаўскай групоўкі і яе войска... У кастрычніку 1971 года Тайвань, які незаконна займаў у ААН месца КНР, выключаны з гэтай арганізацыі».*

*(«Советский энциклопедический словарь», М., 1980 г., с. 1310).*

Гэта з афіцыйнай, скажам так, дзяржаўнага ўзроўню, крыніцы. І ніхто — ні даследчыкі гісторыі, ні сучаснікі-кіраўнікі — не ставілі такія аргументы-характарыстыкі пад сумненне, не праяўлялі ініцыятывы (хаця, уласна кажучы, такое было проста немагчыма), каб пацікавіцца: а ці так гэта на самай справе, наколькі тая характарыстыка рэальная, праўдападобная? І толькі Яго Вялікасць Час — самы справядлівы і праведны лекар Гісторыі — даў дазвол нарэшце сказаць (і ўбачыць!) праўду аб Тайвані.

Поўная назва гэтай геаграфічнай тэрыторыі — Кітайская Рэспубліка (на Тайвані). Вось яе афіцыйная характарыстыка, прызнаная і зацверджаная на самім востраве:

*«Кітайская Рэспубліка, заснаваная 1 студзеня 1912 года, — канстытуцыйная дэмакратычная дзяржава, пабудаваная на канцэпцыі Трох народных прынцыпаў, сфармуляваных заснавальнікам Кітайскай Рэспублікі доктарам Сунь Ятсенам. У 1949 годзе ў выніку ўстанаўлення камуністычнага рэжыму на мацерыковай частцы Кітая Нацыянальны ўрад Кітайскай Рэспублікі — законны ўрад усяго Кітая — перамясціўся на Тайвань і ў цяперашні час яго фактычная юрысдыкцыя распаўсюджваецца на тэрыторыю, якая ўключае: востраў Тайвань, архіпелаг Пэнху і размешчаныя ля ўзбярэжжа мацерыковага Кітая астравы Цзыньмэнь і Мацзу. Краіна аказалася падзеленай на дзве часткі: мацерыковы Кітай, што застаецца пад кантролем кітайскіх камуністаў, і свабодны Кітай — Кітайская Рэспубліка на Тайвані, квітнеючы ва ўмовах дэмакратыі».*

Такім, паўтаруся, бачаць Тайвань самі ягоныя насельнікі.

Дык дзе ж тут праўда? Як зразумець тую і другую характарыстыкі? Калі ўзнікла тут дзяржаўнае фарміраванне? Што за людзі жывуць тут? Няўжо і сапраўды «прытулак» контррэвалюцыі? Чым, нарэшце, жыве востраў? Як ставяцца тайванцы да іншых людзей свету?..

Пытанні, пытанні, пытанні... І каб знайсці на іх больш-менш праўдзівыя, незапалітызаваныя, непрадузятыя адказы, лепш адзін раз пабываць там, чым дзесятак разоў слухаць і чытаць «прапаганду».

...Дзевяць тысяч кіламетраў аэробус «Боінг» адольвае крыху больш чым за дзесяць гадзін палёту. І вось мы з зімы трапляем.... у лета: 20—23 градусы цяпла, вечназялёныя дрэвы. І — нязменна ветлівыя, з усмешкай на твары людзі: добразычлівыя, адкрытыя, шчырыя.

Тут прыгожыя, непаўторныя пейзажы і краявіды. З паўночнага ўсходу на паўднёвы захад цягнецца хрыбет Юйшань, вышыня якога месцамі дасягае амаль чатырох тысяч метраў над узроўнем акіяна. А акіян той — побач: Ціхі, аднак такі вялікі і свавольны!

На поўначы вострава — цэлая група (ажно трынаццаць!) патухлых вулканаў. На Тайвані і сёння вельмі часта здараюцца землятрусы, ад якіх, вядома ж, церпіць найперш гаспадарка. На паўднёвым захадзе знаходзяцца 60 гразевых вулканаў. Даўжыня вострава — 394 кіламетры, шырыня — да 122-х. Да мацерыковага Кітая — каля 130 кіламетраў праз Тайваньскі праліў.

На поўначы клімат — субтрапічны, на поўдні — трапічны, мусонны. Тэмпература паветра ў студзені — плюс 15—20, а іншым часам і вышэй, у ліпені — да 30 градусаў і больш. У жніўні і верасні часта здараюцца тайфуны.

Палову тэрыторыі вострава займаюць лясы. У іх — звыш трох тысяч відаў дрэў. Вечназялёныя панданусы, пальмы, ліяны, бамбук вабяць вока круглы год. А вось жывёльны свет Тайваня беднаваты. Хіба што лятучыя сабакі, чорныя мядзведзі ды лускаваты яшчар панталін могуць зацікавіць і заінтрыгаваць. А трынаццаць відаў ядавітых змей — выклікаць трывогу і неспакой!

Кожны другі дарослы тайванец заняты сельскагаспадарчай вытворчасцю, кожны пяты — працуе на транспарце і ў прамысловасці. Тут шмат вырошчваюць рысу: збіраюць па два ўраджаі штогод, а ў самыя спрыяльныя гады вывозяць яго за межы вострава да 700 тысяч тон. З цукровага трыснягу вырабляюць выдатны цукар: быў час, калі яго экспартавалі да 500 тысяч тон. Тысячамі тон вымяраюцца вырашчаныя на Тайвані чайны ліст, земляны арэх, соевы боб, проса, сорга, каноплі, джут, сотнямі — кава, тытунь, батат, ананасы, бананы, мандарыны... Кожны год на востраве нарыхтоўваюць каля 600 тон камфоры.

Амаль трэць валавога нацыянальнага прадукту дае прамысловасць. На востраве ў даволі вялікіх маштабах здабываюць золата і нафту, каменны вугаль і прыродны газ, поліметалы і серу... Тут будуюць самыя сучасныя машыны, абсталяванне і марскія судны, вырабляюць розныя нафтапрадукты і хімічныя тавары, паперу і тэкстыль. Ловяць рыбу, выпускаюць спірт і гарэлачныя вырабы. А марскія порты Цзілун і Гаасюн кругласутачна і на працягу ўсяго года перапрацоўваюць дзесяткі і нават сотні тысяч тон грузаў.

Адным словам, Тайвань мае ўсё для цывілізаванага, на самым сучасным узроўні, развіцця. І працалюбівы народ не прамінуў зрабіць сваё жыццё заможным, удосталь забяспечаным і гарантаваным: сярэдні заробак на востраве складае сёння 7 тысяч амерыканскіх долараў у месяц!

...Напрыканцы XIX стагоддзя Кітай прайграў вайну свайму агрэсіўнаму і больш магутнаму суседу — Японіі. У 1895 годзе Тайвань пераходзіць пад юрысдыкцыю пераможцы — роўна на паўстагоддзя. Змірыцца з лёсам калоніі востраў ніяк не жадаў: на працягу 50-ці тых гадоў насельніцтва каля дваццаці разоў узнімалася на ўзброеныя паўстанні. Аднак японцы жорстка распраўляліся з тайванцамі. І толькі пасля паражэння Японіі ў другой сусветнай вайне востраў афіцыйна быў вернуты Кітаю.

Тады ж, у 1945-м, непасрэдна і ў самім мацерыковым Кітаі пачалася ўзброеная барацьба за ўладу. І да сённяшняга дня адны лічаць тыя падзеі народнай рэвалюцыяй, другія — грамадзянскай вайной. Не ў назвах для нас, вядома ж, справа, хаця паміж вызначэннямі — вельмі і вельмі вялікая розніца. Тым не менш, у выніку чатырохгадовай, незвычайна жорсткай, вострай і бескампраміснай барацьбы да ўлады прыйшлі кітайскія камуністы. Яны і абвясцілі ў 1949-м утварэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі. Прыхільнікі другога боку змагароў за ўладу — воіны і спачуваючыя арміі Чан Кайшы і партыі Гаміньдана — перабраліся на востраў.

Гаміньдан (нацыянальная партыя) — кітайская палітычная партыя са сваёй гісторыяй і лёсам. Яна была створана ў 1912 годзе ўсё тым жа Сунь Ятсенам. Да 1927-га, што прызнаюць і савецкія гістарыяграфічныя крыніцы, Гаміньдан адыгрывала прагрэсіўную ролю, затым стала правячай у Кітаі. Так доўжылася да 1949-га...

Усталяваўшы на Тайвані ўладу гаміньданаўскай адміністрацыі, Чан Кайшы і яго прыхільнікі заключылі ў 1954 годзе са Злучанымі Штатамі Амерыкі дагавор аб узаемнай бяспецы. Што гэта азначала на справе? На востраў прыбылі вайскоўцы ўзброеных сіл ЗША і ўзялі яго пад сваю абарону. Мацерыковы Кітай даў астравіцянам спакой, і сюды пачалі трымаць накірунак таксама і тыя кітайцы, што не пажадалі будаваць «светлую будучыню» пад кіраўніцтвам Мао Цзэ-Дуна.

На Тайвані была ўведзена ўсеагульная вайсковая павіннасць, створаны свае ўзброеныя сілы. Амерыканцы пабудавалі тут тры ваенна-марскія базы і чатыры аэрадромы. Аднак не гэта было мэтай і галоўнай задачай насельнікаў вострава. Тут, кажучы проста, паставілі на мэце па-людску зажыць...

Былі распрацаваны спецыяльныя правілы аб іншаземных капіталаўкладаннях, якія дазволілі ў прамым сэнсе слова хлынуць на востраў замежнаму капіталу — і найперш амерыканскіх канцэрнаў і фірмаў. Адначасова ўрад Чан Кайшы выкупіў у буйных землеўладальнікаў шмат зямлі і перадаў яе ва ўласнасць мясцовым арандатарам. Працалюбівасці ж і працаздольнасці тутэйшаму народу, як, дарэчы, і перасяленцам з мацерыковага Кітая, было не пазычаць...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

**(Працяг будзе.)**

## БАЛАНС
## АКБ «БЕЛОРУССКИЙ НАРОДНЫЙ БАНК»
## г. Минск, ул. Танковая, 1
## на 1 января 1998 года

*млн. руб.*

| АКТИВ | | ПАССИВ | |
|---|---|---|---|
| **Наименование статей** | **Сумма** | **Наименование статей** | **Сумма** |
| 1. Денежные средства и драгоценные металлы | 3090,3 | 1. Средства банков на корреспондентских счетах | 13419,1 |
| 2. Средства на корреспондентских счетах в банках | 10644,9 | 2. Кредиты и депозиты банков (включая НБ РБ) | 25000,0 |
| 3. Обязательные резервы | 20373,4 | 3. Средства клиентов | 130491,9 |
| 4. Кредиты и депозиты банкам | 44701,2 | 4. Долговые обязательства банков | 27105,0 |
| из них: - просроченная и сомнительная задолженность | - | 5. Прочие пассивы | 6328,6 |
| 5. Кредиты клиентам | 71323,9 | 6. Капитал и резервы: | 63114,5 |
| из них: — просроченная и сомнительная задолженность | - | - уставный фонд | 42021,3 |
| 6. Ценные бумаги | 97653,9 | - фонды банка | 3725,4 |
| 7. Долгосрочные финансовые вложения, инвестиции | 220,9 | - фонд переоценки | 4356,2 |
| 8. Основные средства и нематериальные активы (за минусом износа) | 12637,1 | - нераспределенная прибыль (убыток) | 13011,6 |
| 9. Прочие активы | 4813,5 | - прочие | - |
| Всего активов: | 265459,1 | Всего пассивов: | 265459,1 |

## ОТЧЕТ
## о прибылях и убытках
## АКБ «БЕЛОРУССКИЙ НАРОДНЫЙ БАНК»
## г. Минск, ул. Танковая, 1
## на 1 января 1998 года

*млн. руб.*

| ДОХОДЫ БАНКА | | РАСХОДЫ БАНКА | |
|---|---|---|---|
| **Наименование статей** | **Сумма** | **Наименование статей** | **Сумма** |
| 1. Процентные доходы | 70802,0 | 1. Процентные расходы | 24110,9 |
| 2. Комиссионные доходы | 20474,5 | 2. Комиссионные расходы (потери) | 9746,8 |
| 3. Прочие банковские доходы | 8457,1 | 3. Прочие банковские расходы | 59368,2 |
| 4. Уменьшение резервов поступления по ранее списанным долгам | 2531,8 | 4. Отчисления в резервы | 2005,0 |
| 5. Непредвиденные доходы | - | 5. Непредвиденные потери (расходы) | - |
| 6. Прочие доходы: | 41536,8 | 6. Прочие расходы: | 34154,8 |
| в том числе: - прочие операционные | 41536,8 | в том числе - прочие операционные | 34154,8 |
| Всего доходы | 143802,2 | Всего расходы | 129385,7 |
| Прибыль: | 14416,5 | | |

***Достоверность баланса подтверждена независимой аудиторской фирмой ООО «Финаудит-консалтинг» (лиц. НБ РБ № 4 от 24.01.95 г.)***

**Председатель правления А.С. Таратухин**

**Главный бухгалтер Т.В. Калачинская**

**Аудиторская организация ООО «Финаудит-консалтинг»**

## БАЛАНС
## ОАО «БОРИСОВСКИЙ ЗАВОД БЫТОВОЙ ХИМИИ»
## на 1.01.1998 г.

| №№ пп | Актив | млн. руб. | №№ пп | Пассив | млн. руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Основные средства (остаточная стоимость) | 13970 | 1. | Уставный капитал | 7095 |
| 2. | Нематериальные активы (остаточная стоимость) | 6 | 2. | Фонды специального назначения | 19817 |
| 3. | Запасы и затраты | 15519 | 3. | Нераспределенная прибыль | 2015 |
| 4. | Денежные средства | 1442 | 4. | Кредиты банков | - |
| 5. | Расчеты с дебиторами | 858 | 5. | Расчеты с кредиторами | 2868 |
| 6. | Баланс | 31795 | 6. | Баланс | 31795 |

***Аляксандр СЫЧОЎ:***

# «ПА ЎСІХ ВАЖНЫХ ПЫТАННЯХ БЕЛАРУСЬ ЗАЙМАЕ ПРЫНЦЫПОВУЮ ПАЗІЦЫЮ»

### На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН А. М. СЫЧОЎ

**— Аляксандр Мікалаевіч, мы ўсе ў Беларусі ўважліва сачылі за вырашэннем крызісу ў Персідскім заліве. Уражанне такое, быццам толькі Расія, Кітай і Францыя змагаліся ў ААН за мірнае ўрэгуляванне. А ці ўлічваліся меркаванні іншых краін, у прыватнасці Беларусі?**

— Як вядома, урэгуляваннем іракскага крызісу займаецца Савет Бяспекі, бо ў адпаведнасці са Статутам ААН члены Арганізацыі ў мэтах забеспячэння хуткіх і эфектыўных дзеянняў ускладаюць на Савет галоўную адказнасць за падтрыманне міжнароднага міру і бяспекі. Савет Бяспекі дзейнічае ад іх імя. У тым ліку і Беларусі. Але яна не член Савета Бяспекі, і магчымасці непасрэдна ўплываць на змест і накіраванасць яго канкрэтных рашэнняў у Беларусі абмежаваныя. Яны заключаюцца ў давядзенні афіцыйнай пазіцыі рэспублікі праз Генеральную Асамблею і шляхам накіравання адпаведных лістоў кіраўніцтва Беларусі на імя генеральнага сакратара ААН.

Акрамя таго, наша прадстаўніцтва пастаянна назірае за работай Камітэта па санкцыях Савета Бяспекі ў адносінах да Ірака, падтрымлівае рабочыя кантакты з членамі Савета Бяспекі і сакратарыятам Спецыяльнай камісіі ААН па раззбраенню Ірака.

**— Драматычныя падзеі вакол Ірака на пэўны час адсунулі на другі план ад увагі сусветнай грамадскасці будзённую і напружаную дзейнасць ААН. Калі ласка, запоўніце гэты прабел і раскажыце аб тым, чым цяпер жыве ААН.**

— Канешне, падзеі ў Іраку займалі і працягваюць займаць адно з прыярытэтных месцаў у дзейнасці ААН. Але ў цэнтры ўвагі знаходзяцца і іншыя пытанні, напрыклад Косава, Блізкі Усход. Нядаўна па просьбе арабскіх дзяржаў была праведзена адноўленая 10-я спецыяльная сесія Генеральнай Асамблеі, у ходзе якой была прынята рэзалюцыя, што асуджае ізраільскую пасяленцкую практыку на палесцінскіх тэрыторыях.

Асаблівую актуальнасць захоўваюць пытанні падтрымання міжнароднага міру і бяспекі. Так, маючая адбыцца ў красавіку г.г. сесія Камісіі па раззбраенню разгледзіць праблематыку стварэння бяз'ядзерных зон у свеце. Для нашай краіны гэтае пытанне мае першаступеннае значэнне, асабліва ў кантэксце намечанага пашырэння НАТО на Усход і рэалізацыі ідэі прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі аб стварэнні ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі. Мы заўсёды падтрымлівалі і актыўна праводзілі работу па ўключэнню гэтага пункта ў парадак дня сесіі Камісіі.

**— Як ставяцца ў ААН да ідэі беларускага кіраўніцтва аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў Еўропе?**

— Адносіны да гэтай ініцыятывы, як гэта добра вядома, далёка не адназначныя. Справа ў тым, што ў адпаведнасці з замацаванымі ў міжнароднай практыцы прынцыпамі такія зоны ствараюцца на аснове дамоўленасцяў паміж дзяржавамі пэўнага рэгіёна. Ва ўмовах рэалізацыі вядомых рашэнняў мадрыдскага саміта аб пашырэнні НАТО, канешне, цяжка разлічваць на пазітыўныя адносіны да ідэі бяз'ядзернай прасторы ў нашым субрэгіёне з боку краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія з'яўляюцца асноўнымі прэтэндэнтамі на ўступленне ў гэты блок.

Тым не менш, вопыт фарміравання бяз'ядзерных зон фактычна ва ўсіх рэгіёнах сведчыць аб тым, што ідэя бяз'ядзернасці, няхай і не настолькі хуткімі тэмпамі, як таго хацелася б абсалютнай большасці краін свету, усё ж прабівае сабе дарогу. Дзесяцігоддзі спатрэбіліся для таго, каб матэрыялізавалася ідэя бяз'ядзернай зоны ў Лацінскай Амерыцы (Дагавор Тлатэлолка), у Афрыцы (Дагавор Пеліндаба), Паўднёва-Усходняй Азіі (Дагавор Бангкок). Нямала ўсялякіх перашкод давядзецца пераадолець ідэі надання ўсяму Паўднёваму паўшар'ю статусу бяз'ядзернай зоны, з якой усё больш актыўна выступаюць у апошнія гады краіны Руху недалучэння. Але прагрэс у гэтай сферы ёсць.

**— У апошнія год-два сітуацыя з уплатай Беларуссю ўзносу ў бюджэт мяняецца ў лепшы для нашай краіны бок. Што новага тут?**

— Вы маеце рацыю. У апошнія гады сітуацыя адносна ўзносаў Беларусі ў рэгулярны бюджэт і на аперацыі па падтрыманню міру змянілася. Напружаная праца беларускіх дыпламатаў і ўмелае выкарыстанне перамоўнага механізма дало плён. Напрыклад, калі ў 1994 годзе наш узнос складаў 0,48 працэнта ад бюджэту ААН (прыкладна 4,9 млн. долараў ЗША), то ў 1998 годзе ён складае 0,164 працэнта (1,7 млн. долараў ЗША), у 1999 годзе паменшыцца яшчэ ў два разы — да 0,082 працэнта ад бюджэту ААН, а ў 2000 годзе — да 0,057 працэнта. Такім чынам рэальная эканомія валютных сродкаў Беларусі за перыяд, пачынаючы з 1995 года, складае каля 35 млн. долараў ЗША.

Зараз ва ўмовах крытычнай фінансавай сітуацыі ў ААН для нас асаблівую вастрыню набываюць дзве ўзаемазвязаныя задачы: ліквідацыя назапашанай да 1995 года запазычанасці Беларусі і захаванне з прычыны гэтага права голасу ў Генеральнай Асамблеі.

**— Летам пройдзе спецыяльная сесія ААН па наркотыках. Як мы ўдзельнічаем у яе падрыхтоўцы?**

— Так, спецыяльная сесія Генеральнай Асамблеі ААН па пытаннях барацьбы з незаконнай вытворчасцю, збытам, попытам, абарачэннем і распаўсюджваннем наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў і звязанай з імі дзейнасцю пройдзе ў чэрвені ў штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку.

Яна, на маю думку, абяцае стаць адной з галоўных палітычных падзей года ў сферы шматбаковага супрацоўніцтва. У ходзе сесіі, на якой дзяржавы будуць прадстаўлены на высокім узроўні, плануецца абмеркаваць шляхі і спосабы ўмацавання міжнароднага ўзаемадзеяння ў барацьбе з наркатычнай эпідэміяй, якая пагражае здароўю, бяспецы і дабрабыту мільёнаў людзей, а таксама палітычнай і сацыяльна-эканамічнай стабільнасці і бяспецы дзяржаў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# СІМВОЛІКА ДАТ У КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСАЎ

**У ПАПЯРЭДНІХ АРТЫКУЛАХ гаворка ішла пра сімволіку кожнага дня на працягу ўсяго тыдня. Акрамя дня трэба было абавязкова ўлічваць і фазу Месяца, на якую прыпадала падзея. Старажытныя манускрыпты, сярэдневяковыя інкунабулы, запаветныя сшыткі, якія меліся ў кожнай абачлівай гаспадыні і якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне, данеслі да нас звесткі аб тым, што не ўсе дні месяца былі аднолькава спрыяльнымі і ўдалымі для распачынання значных спраў або для пачатку якіх-небудзь сельскагаспадарчых работ.**

Практычна ўсе гістарычныя крыніцы сведчаць, што першы дзень месяца амаль заўсёды лічыцца нешчаслівым. Але і сярод іх асабліва неспрыяльнымі лічыліся 1 красавіка, як дзень нараджэння здрадніка Іуды Іскарыёта (у сучасным календары ён адзначаецца як дзень смеху, гумару, метамарфоз, жартоўных падманаў), 1 жніўня — дзень, у які Каін забіў свайго роднага брата Авеля. Негатыўнае стаўленне было і да 1 снежня, бо ў гэты дзень Бог жорстка пакараў землятрусам жыхароў двух палесцінскіх гарадоў — Садома і Гаморы, якія ператварылі свае паселішчы ў суцэльны вертэп. З даўніх часоў у розных грамадствах было адмоўнае стаўленне да лічбы 13, таму кожны дзень месяца, які прыпадаў на гэтую дату, таксама адносілі да разраду «чорных».

Але і гэта не ўсё. Аказваецца, існавалі цэлыя спісы «чорных», нешчаслівых, дзён. Я добра памятаю, што такі спіс быў і ў маёй маці. Кожная важная справа (збіраліся купляць карову або парасят, планавалі дзень пасадкі бульбы, нават рыхтаваліся да паездкі ў дом адпачынку ці санаторый) узгаднялася з гэтым спісам. Скручаны ў трубачку, ён заўсёды ляжаў у шафе, «пад рукой».

На жаль, сёння цяжка знайсці дакладныя звесткі аб тым, з якіх першакрыніц браліся гэтыя спісы. Зразумела толькі адно: іх існавала некалькі. Магчыма, астролагі розных цывілізацый (егіпецкай, рымскай, усходняй, славянскай) мелі свае сістэмы цяжкіх дзён. Інакш проста немагчыма вытлумачыць даволі значныя разыходжанні ў ацэнцы і стаўленні да той ці іншай даты. Наўрад ці хто зможа з абсалютнай дакладнасцю сказаць, які са спісаў найбольш набліжаны да славянскай культуры. Таму зацікаўленым чытачам прапануецца самім правесці не зусім складаны эксперымент. Ніжэй прыведзены чатыры спісы «чорных дзён», узятыя з розных крыніц. Ваша задача: на працягу года супастаўляць гэтыя сістэмы са сваім уласным жыццём. Падключыце да ўдзелу ў эксперыменце сваіх родных, блізкіх, знаёмых, супрацоўнікаў па рабоце. А затым на аснове ўласных назіранняў паспрабуйце зрабіць выснову аб найбольшай адэкватнасці таго ці іншага спіса вашаму жыццю. Буду шчыра ўдзячны, калі затым вы падзеліцеся сваімі назіраннямі, высновамі, апісаннем незвычайных жыццёвых сітуацый. **(Гл. «НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ»).**

Быў і шэраг забаронаў, звязаных з цыклам сельскагаспадарчых работ у той ці іншы дакладны час. Напрыклад:

1. Беларусы былі перакананыя, што сена, складзенае ў стог паміж Купаллем і Пятром (12.7) абавязкова спаліць Пярун.

2. Катэгарычна забаранялася стрыгчы пазногці ў «міжкалядзь» (ад 6.1 да 19.1) — будзе зганяць капыты ў кароў.

3. Помнік над магілай памерлага сваяка нельга ставіць пасля Пакроваў (зямлю «замкнулі на зіму», адамкне яе св. Юрый (6.05), нягледзячы на тое, што ўжо мінуў год пасля смерці. Лепш яго паставіць перад Радаўніцай.

4. Да сённяшняга часу існуе забарона спраўляць вяселле раней чым за 40 дзён пасля смерці каго-небудзь з родных першага і другога каленаў сваяцтва.

5. У нядзелю ці іншыя святочныя дні нікому нічога не пазычайце, асабліва хлеба, солі і запалак. Лічыцца, што «госць» прыйшоў з благімі намерамі. Пазычаныя прадметы будуць «нагавораны» (зачараваны), потым іх падкінуць вам з мэтай навесці шкоду.

6. У градавую сераду (на Русальным тыдні, пасля Тройцы) забаранялася працаваць, каб град не нарабіў шкоды.

7. На Івана Галавасека (11.09) забаранялася мыць галаву, каб не захварэць на каўтун.

8. Да Яблычнага спаса (19.8) забараняецца есці яблыкі новага ўраджаю жанчынам, у якіх памерлі дзеці.

9. Нельга было купацца пасля Іллі 08.08).

10. Першы кошык бульбы нясуць у пограб у той дзень, у які ў гэтым годзе было Дабравешчанне (07.04).

11. Жанчынам, у якіх памёр хто-небудзь з родных, забараняецца спяваць да трох гадоў.

12. Жанчыне нельга мыць бялізну ў той дзень тыдня, у які памёр яе муж (да года).

Прыведзеныя прыклады пераканаўча сведчаць аб тым, што дыялог нашых продкаў з Космасам меў самы актыўны характар. У аснове гэтай філасофска-культуралагічнай сістэмы ляжаў сонечны год, які дзяліўся на пэўныя перыяды, месяцы — на тыдні, тыдні — на дні, дзень драбіўся яшчэ на чатыры часткі. Часам складваецца ўражанне, што па Сонцу звяралі маштабныя, лёсавызначальныя падзеі, па Месяцу — з'явы больш дробнага парадку. Былі і такія сітуацыі, калі лёсавызначальная роля двух свяціл была аднолькавай. Скажам, адным з лепшых перыядаў справіць вяселле быў зімовы мясаед (вызначальны фактар — Сонца), але ж у залежнасці ад даты святкавання Вялікадня і сямітыднёвага посту перад ім мясаед мог быць кароткім (да 1,5 месяца) і доўгім (да 2 месяцаў). Разам з тым вялікі мясаед быў не аднолькава прыдатны да шлюбу на ўсім працягу. Лічылася, што больш спрыяльным быў час «пад поўню», але пры гэтым трэба было зверыцца і з «чорнымі» днямі (зноў уплыў Сонца).

Пашырэнне хрысціянства на нашых землях дапоўніла старажытную язычніцка-ведычную сістэму абмежаванняў, звязаных з дакладнымі днямі або датамі. Перш за ўсё гэта датычыцца часу, калі забараняецца вянчанне ў храме. **(Гл. «ЗАБАРОНЫ»).**

Нехта з чытачоў усміхнецца і падумае: «Задужа складаная сістэма. Ці нельга прасцей?» Відаць, можна. Сёння ўсё адбываецца па спрошчаных схемах. Сучасны ЗАГС нічым не адрозніваецца ад заводскага канвеера па зборцы рухавікоў ці аўтамабіляў. Пост для яго не пост, Спас не свята і г. д. Штампуюць без разбору. Ці не таму спрадвечнае вянчанне сталі называць «регистрацией брака»? (чыйго? канвеернага?)? Прыгожае, надзейнае, доўгатэрміновае — на ўсё жыццё — колішняе «выйсці замуж» сёння падмянілі наватворным «выскачыць» («Як Піліп з канапель») — з адпаведным вынікам.

Ляцім. Скачам... Замуж — скачам. Маці памёрла, чаго яе тры дні дома трымаць, хутчэй на могілкі і давай спадчыну дзяліць — сварыцца. Ляцім. Птушыны важак з году ў год, з веку ў век вёў свой клін адным і тым жа маршрутам. І ніколі не збіліся з дарогі. І продкі нашы, глядзячы ў неба, сумавалі на развітанне ды шчыра радаваліся сустрэчы. А што мы? Радуемся, калі ляцім на Канары, сумуем, калі трэба вяртацца дадому...

**Янка КРУК.**

## НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ

| Месяц | I | II | III | IV |
|---|---|---|---|---|
| Студзень | 1, 2, 6, 11, 17, 18 | 1, 11, 12, 18, 26 | 1, 2, 4 | 1, 11, 26 |
| Люты | 8, 16, 17 | 2, 16, 18 | 11, 17, 18 | 8, 6 |
| Сакавік | 1, 12, 13 | 1, 3, 12, 13 | 1, 4, 14, 24 | 1, 13, 17, 18 |
| Красавік | 1, 13, 15, 17, 18 | 1, 3, 12, 13 | 2, 17, 18 | 1, 3, 13, 19 |
| Май | 8, 10 13, 17, 30 | 3, 10, 27, 30 | 7, 8 | 8, 10, 18 |
| Чэрвень | 1, 17 | 12, 17 | 17 | 1, 7, 17, 23 |
| Ліпень | 1, 5, 6 | 15, 18, 30 | 17, 21 | 7, 13, 21, 30 |
| Жнівень | 1, 3, 18, 20 | 1, 3, 17 | 20, 21 | 7, 13, 17 |
| Верасень | 15, 18, 29 | 15, 18, 30 | 10, 18, 30 | 10, 18 |
| Кастрычнік | 15, 17 | 11, 13 | 6 | 2, 11, 15 |
| Лістапад | 11, 17 | 1, 7, 17 | 6, 8 | 3, 4, 24, 29 |
| Снежань | 1, 7, 11 | 17 | 6, 11, 18 | 5, 7, 11, 17 |

## ЗАБАРОНЫ

***Па-першае, царкоўны шлюб не можа быць здзейснены ў аўторак, чацвер, суботу.***

***Па-другое, шлюб і вяселлі катэгарычна забараняюцца ў час посту:***

а) шасцітыднёвага Піліпаўскага («Рождественского») посту, які пачынаецца з 28 лістапада;

б) Вялікага сямітыднёвага посту, які доўжыцца ад Масленкі і да Вялікадня (Пасхі);

в) Пятроўскага посту (яго пачатак рухомы і залежыць ад часу святкавання Сёмухі-Тройцы), які пачынаецца з другога панядзелка пасля Тройцы, а заканчваецца на Пятра (12.7);

г) двухтыднёвага Спасаўскага («Успенский») посту — працягваецца ад 14 да 27 жніўня (ад першага Спаса да першай Прачыстай).

***Акрамя таго вянчанне не праводзіцца напярэдадні вялікіх храмавых святаў, а таксама і ў гэтыя святы:***

- 1 і 11 верасня — пярэдадзень і дзень Адсячэння галавы Івана Прадцечы;
- напярэдадні другой Прачыстай, дня Раства Прасвятой Багародзіцы (2 верасня);
- перад і ў дзень Узвіжання Крыжа Гасподняга (26 і 27 верасня);
- напярэдадні Пакрова Прасвятой Багародзіцы (13 кастрычніка);
- напярэдадні Грамніц або Стрэчання Гасподняга (14 лютага);
- на 39-ты дзень пасля Пасхі, перад святам Узнясення Гасподняга;
- на 49-ты дзень пасля Пасхі, перад Тройцай і на саму Тройцу.

***Па-чацвёртае, неабходна не планаваць вянчанне на перыяд:***

- паміж Калядамі (ад 7 і да 19 студзеня). Гэты час ў народзе называюць «крывымі вечарамі», а вяселлі — «воўчымі»;
- на «сырную сядміцу», на масленку, г. зн. за тыдзень да вялікага посту;
- на працягу ўсяго Вялікоднага тыдня.

**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

## БЕРАГ БЕЛЫХ БУСЛОЎ

У красавіку мінулага года адбылася юбілейная вечарына «Бераг белых буслоў» Леаніда Захлеўнага. Маляўнічую назву для сваёй урачыстасці кампазітар узяў з песні, напісанай ім на верш Рыгора Барадуліна.

Упершыню песня «Бераг белых буслоў» Леаніда Захлеўнага і Рыгора Барадуліна прагучала ў выкананні Якава Навуменкі на той красавіцкай вечарыне. Цяпер супрацоўнікі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі мяркуюць 29 сакавіка прадставіць яе шырокай аўдыторыі (тэлеперадача «Прэм'ера песні» і інш.).

**Міхась ШАВЫРКІН.**




ВЕРШ Рыгора БАРАДУЛІНА — МУЗЫКА Леаніда ЗАХЛЕЎНАГА

*Млечны шлях васількоў з-за хмурыны мурожнай*
*І ў чужыне асветліць шляхі.*
*Рыпнуць весніцы дня цішынёю марознай,*
*Бліскавіца нап'ецца з ляхі.*
*Пазавязвала памяць стагоддзяў употай*
*Рэк і дрэў каранiстых вузлоў.*
*Васількі тваіх воч узыходзяць пяшчотай,*
*Беларусь — бераг белых буслоў.*
*Свету шлеш ты крылатых паслоў,*
*Беларусь — бераг белых, бераг белах буслоў!*

*Загрыміць першы гром, першы ліст развінецца.*
*Ціха ўзыдзе ў душы дабрыня.*
*Круглатвара ўсміхнецца ранетка ранетцы,*
*Зацвярдзее ў таках даланя.*
*Зарунеюць дажджы, выспеюць навальніцы.*
*Узляціць вырай матчыных слоў.*
*Вечнай плыні часін ты гадуеш крыніцы,*
*Беларусь — бераг белых буслоў.*
*Свету шлеш ты крылатых паслоў,*
*Беларусь — бераг белых, бераг белых буслоў!*

## Старонка Паўла Глобы

### 26 сакавіка, ЧАЦВЕР

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Сення унікальны дзень для ўмацавання здароўя, набыцця цэласнасці, духоўнага прасвятлення. Добра ўстанаўліваць узаемасувязі паміж людзьмі, аказваць дапамогу тым, хто ў ёй мае патрэбу. Старайцеся быць у прыўзнятым настроі, не праяўляйце негатыўных эмоцый. Абавязкова ўдзяліце ўвагу дзецям, пытанням умацавання сям'і і сваяцкіх сувязяў. Карысна займацца гаспадарчымі справамі, але мыццё бялізны і прыбіранне адкладзіце на іншы час. Не рэкамендуецца дарыць кветкі.

**ПРЫМЕТЫ**. Калі над вамі пракрычалі птушкі (але не вароны) або закранулі вас крылом — знак здароўя, дапамогі, умацавання сям'і. Быць выпадкова аблітым вадой, трапіць пад дождж — да вызвалення ад усякіх хвароб. Прамачыць ногі — хтосьці бярэ на сябе вашу карму, вашы грахі. Калі раптам адключаць ваду ў той час як вы мыецеся — з вас здымуць абарону, і за ўсе вашы ўчынкі прыйдзецца трымаць адказ. Посуд б'ецца ў гэты дзень да разарэння або хваробы. Сустрэць каго-небудзь з пустым вядром — да няўдачы, да правалу справы, якую вы задумалі. Параніцца — знак сурокаў, зняцця абароны.

**СНЫ**. Бачыць птушак — знак таго, што вы хутка атрымаеце добрыя весткі. Плаваць у чыстай вадзе — да ўдачы. Каламутная вада — да хваробы. Бачыць лес, заблудзіцца ў ім — да страхаў, страты памяці. Агонь — знак падману; нельга рабіць неабдуманых учынкаў.

**ЕЖА**. Ні ў якім разе нельга есці ўсухамятку, трэба прымаць ежу ў вадкім стане і як мага больш піць натуральных сокаў, есці садавіну. Трэба ведаць, што ўсякая садавіна прыносіць максімальную карысць арганізму толькі тады, калі яна ўжываецца асобна ад іншых прадуктаў і не раней чым праз паўгадзіны пасля ежы. Карысна выпіць белага віна.

**АДЗЕННЕ**. Апранайцеся ў серабрыста-блакітныя колеры. Не рэкамендуюцца чорны і ўсе яркія колеры.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабыя ногі. Магчымы траўмы ступняў і галёнкаступнёвага сустава, высокая небяспека грыбковых захворванняў. Павышаная верагоднасць узнікнення інфекцыйных захворванняў, алергіі. Нельга праводзіць аперацыі на органах пачуццяў, печані і скуры. Можна лячыць кішэчнік.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**





## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуем з 50-годдзем настаўніцу Каменскай школы **Марыю Іосіфаўну ДУЖЫК**. Жадаем добрага здароўя і бадзёрага настрою, шчасця і даўгалецця.*

**Калегі па працы.**

Віншуюць з днём нараджэння і жадаюць моцнага здароўя, шчасця, дабра і надзеі:

***Валянціне Леанідаўне СЦЕФАНОВІЧ*** *— супрацоўнікі, в. Налібокі Навагрудскага раёна;* ***Дзянісу Паўлавічу РАШЧЫНСКАМУ*** *— сястра Света, родныя з г. Лагойска;* ***Ганне Адамаўне КАНАПАЦКАЙ*** *з в. Дзятлавічы Лунінецкага раёна — муж, дзеці, унукі;* ***Антаніне Георгіеўне ПРАКАПОВІЧ*** *з в. Доўгае Салігорскага раёна — муж, дзеці, унукі;* ***Валянціну Уладзіміравічу КАДЫРКУ*** *з в. Рачаняты Валожынскага раёна — жонка, сын, цешча;* ***Зінаідзе Васільеўне ЛАЗАВІК*** *з г. Рагачова з нагоды 50-годдзя — маці, сыны, унук і нявестка.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-29-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-25-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44, аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.902. Індэкс 63850.
Зак. № 1644.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12